


**Грамадская кампанія «Будзьма беларусамі!» прэзентуе:**

# БЛОГ УСЯСЛАВА ЧАРАДЗЕЯ

Мінск://Логвінаў.2012

**Чарадзей, У.**

Б 70 Блог Усяслава Чарадзея : [тэкст] / Усяслаў Чарадзей. — Мінск : І. П. Логвінаў, 2012. — 256 с.

ISBN 978-985-562-016-8.

Легендарны полацкі князь Усяслаў Чарадзей, будаўнік Сафійскага сабора і паводле старажытных летапісаў — валадар звышнатуральных здольнасцяў, на старонках свайго блога сучаснай мовай дзеліцца з чытачом тым, як гэта — быць у скуры ваўка-пярэваратня і кіраваць сярэднявечным Полацкам.

ЖЖ-дзённіку Усяслаў давярае ўласнае жыццё, скардзіцца на недасканаласць і адсталасць сучаснага яму сярэднявечнага грамадства, дзеліцца любоўнымі перажываннямі і нават распавядае пра свае неймаверныя падарожжы ў часе.

Блог Усяслава Чарадзея ініцыяваны агульнанацыянальнай грамадскай кампаніяй «Будзьма беларусамі!»

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84 (4Беи)**

**ISBN 978-985-562-016-8**

*Сябры!*

Напэўна, вы ўжо паглядзелі анімацыйны фільм «Будзьма беларусамі!»? За пяць хвілін у ім расказваюць усю гісторыю нашай краіны: ад сівой мінуўшчыны і да сённяшніх дзён. Пасля прагляду фільма людзі нам шмат пісалі, прызнаючыся, што хацелі б даведацца пра самыя яскравыя старонкі айчыннай гісторыі больш і лепш.

Нечакана ў гэтай справе нам дапамог полацкі князь Усяслаў Чарадзей. Так-так, той самы, які «поначы ваўкалакам гуляў» і меў у арсенале тэлепатычныя здольнасці.

І вось сёння (а мы пачуваемся цяпер як у свята) вы трымаеце ў руках, здаецца, незваротна страчаную кнігу — цудам адшуканы дзённік князя-пярэваратня. Кніга аздобленая каментарамі ягонага сябра і паплечніка зайца. Знаходка, зробленая ў межах сумеснага з парталам TUT.by праекта «БудзьмаTUT», відаць, прымусіць унесці значныя праўкі ў падручнікі і навуковыя даведнікі, бо «Блог Усяслава Чарадзея» змяшчае шэраг каштоўных гістарычных звестак, невядомых сучаснаму беларусу.

Гэты твор можна было б залічыць да фантастычнага жанру, калі б усё апісанае ў ім не было чысцюткай, шчырусенькай праўдаю. Шаноўны чытач знойдзе ў кнізе ўсяго патрошку: авантурныя прыгоды, дэтэктыўную галаваломку, душэўныя споведзі і нават кулінарныя рэцэпты. Спадзяемся, шмат чаго з гэтага багатага асарці прыпадзе яму да душы.

Культурніцкая кампанія «Будзьма беларусамі!» зычыць вам прабавіць час за чытаннем нясумна, з адкрыццямі і захопленасцю.

Галоўнае, што мы зразумелі, працуючы над праектам: гісторыю, якая яшчэ не здарылася, мы ўсе робім уласнымі рукамі. Тое, якой яна будзе, залежыць толькі ад нас. Дык будзьма ж адказнымі за будучую гісторыю!

**Грамадская культурніцкая кампанія «Будзьма беларусамі!»**

**П. С.** Калі вам ёсць што сказаць Усяславу, каментуйце яго пасты **на tut.budzma.org.**

# БЛОГ УСЯСЛАВА ЧАРАДЗЕЯ

*Магію забіваюць факты, магаў — інквізіцыя, адсюль я раблю выснову, што навукоўцы і цемрашалы — аднаго балота чэрці.*

***У. Чарадзей,***
***у інтэрв’ю «Полацкаму летапісу»***

## Блог Усяслава Чарадзея. Пост № 1.
## Пра тое, што часам двухаблічнасць≠двудушнасць
## 1091 г. Май

Ну, вядома, гэта ўсё заяц вінаваты. «Давай, — падбухторваў ён мяне, — пакажыся гэтым людзям такім, якім ты ёсць, ваўком». Я адказваю яму: «Зая, не зразумеюць: XI стагоддзе ж на дварэ, Сярэднявечча, шмат хто з іх нават ідалам пакланяецца».

А ён мне на гэта ў сваёй педагагічнай манеры: «Паганства, шэры, гэта прасунута: нью-эйдж, фолк, блізкасць да глебы, аддаванне перавагі натурпрадуктам».

І Міхал яшчэ, як заўсёды, нічога ўцямнага і кемнага не сказаў — прароў нешта шматзначнае: «Гэта яшчэ няясна, Славік, ці ты чалавек,

які часамператвараецца ў ваўка, ці ваўчара, які калі-нікалі бывае чалавекам». Адным словам, пакуль мядзведзь займаў пазіцыю чакання, вушасты мяне ўлагодзіў.

Пераканаў, што сапраўды сваёй дружыне трэба праўду расказаць — хай ведаюць.

Ператварыўся я назад у чалавека — і на княскі двор: дружына якраз банкетавала. Ну і ўсё ім выклаў пра сваё таемнае ваўкалацтва. Яны, здаецца, нармальна прынялі — нават зганялі ў горад да перапісчыкаў, і тыя пад прыцэлам дзідаў хутка берасцяную ганаровую грамату нашкрабалі:

**«Спадару Усяславу Чарадзею, зверу і чалавеку»**

А даруючы, дружына п’яна ўсміхалася. Ну, думаю, нарэшце прынялі мяне мае людзі такім, якім я ёсць. І думаю, пакажу ім сваё другое аблічча. Поўсць на скуры палезла, на пальцах кіпці выраслі, пашча

вышчарылася. І тут абсалютна нечакана для мяне ўсе дружыннікі праз вокны як палезлі і такога ад полацкага замка грандыёзнага драпака задалі — колькі з іх нават да Рыгі дапяла (але пацалавала там прабой, бо яшчэ не заснаваная яна была).

Вярнуўся я, расчараваны, у лес. А тут заяц сустракае словамі:
«Ну, што ты хочаш? XI стагоддзе на дварэ, Сярэднявечча, ідалапаклонства».

З’еў бы гэтага двудушніка, ды не магу, вегетарыянец я. Як чалавек і, што самае страшнае, як воўк таксама.

## Блог Усяслава Чарадзея. Пост № 2.
## Пра несправядлівасць
## 1091 г. Май

Ну, вядома, гэта ўсё татара-мангольскае ярмо вінаватае. Дружына ж ад страху разбеглася, і жыць у полацкім замку зрабілася вальней. Урэшце адчуў я сябе чалавекам, зажыў адзін, так бы мовіць, у шматпакаёўцы з усімі выгодамі. Падкрэслю, з усімі, а то гібееш у замку, як у інтэрнаце. І яшчэ пры гэтым дармаедаў фінансуеш. Гэтаму на ўгамаванне сялянства дай, таму — на новую дыбу падкінь, тым — на культурны слой Полацка адшпілі.

І ўсё было б у маёй ганаровай адзіноце добра — не, завалілі татара-манголы. Я, вядома, адразу ў ваўка перакінуўся і паставу паэфектней прыняў. Але яны кажуць: «Як на нас, дык нам пляваць, чалавек ты ці воўк. Мы па даніну прыйшлі, і хто нам яе дасць —

нам фіялетава. І ўвогуле, мы не татара-манголы, а полаўцы».

У нармальнай краіне людзі князя на пасад клічуць, а ў нас, у Полацкім княстве, наадварот: дружыну склікаць з усіх варагаў і грэкаў давялося.

З грахом папалам расправіўся з полаўцамі і пабег у лес адпачыць душою і сэрцам. А заяц з мядзведзем навіной сустракаюць: «Мы ж думалі, цябе полаўцы чварталі і чвэрткі ў Палату карасям пакрышылі, і мы тут… разумееш… у тваё логвішча сям’ю янотаў-уцекачоў жыць пусцілі». Ну як тут не заскуголіць на месяц?

**P. S.** І хто нас гэтак называць прыдумаў? Я што, маляр ці прадавец у «Ваўкалакі і ваўкафарбы»?! Што гэта за «лак» такі?

**P. P. S.** Ваўкаluck? Ваўчынае шчасце? Гучыць не раўнуючы як «сабачае жыццё».

# РАЗДЗЕЛ 1. «…А сам поначы ваўкалакам гуляў»

Гэты быў мацёры чалавечышча… І тады, калі хадзіў па зямлі князем, і, што самае важнае, нават калі ставаў на карачкі і перакідваўся ў ваўка. Два ў адным — і цэласная натура.



Нягледзячы на адвечны сплін, што выклікаюць бясконцыя гоні і бязмежныя гаі Полаччыны, а таксама на вёдры бруду, якія нялітасціва выліваюць на крывыя завулкі і завуголлі нашай сярэднявечнай сталіцы, такое ўражанне — першабытныя, яе жыхары (а гэткія ганебныя карціны

князь мусіў назіраць штодзень па дарозе на працу ў палац), Усяслаў усё роўна заўжды шляхетна трымаў сваю галаву. Вядома, да таго ж у гэтым вінаватая нядбалая праца княскіх ювеліраў, якія пашкадавалі золата, і пры найменшым нахіле галавы надта тонкі і лёгкі абадок княскага вянца з'язджаў набакір.

Як бы там ні было, проста дух займае адно ад уяўлення таго, што б мог здзейсніць Чарадзей, калі б пабыў на нашай грэшнай зямлі і ў нашай недасканалай эпосе больш: засадзіў бы гоні лесам, а гаі працерабіў і зрабіў бы з іх палі, правёў бы ў Полацак каналізацыйны акведук ці банальна прызначыў бы штрафы за выліванне бруду праз вокны.

…У тую апошнюю восень ён палюбіў сядзець на троне-гайдалцы на замкавым падворку сярод ліп і весці прыязныя гутаркі з намі, ягонымі сваякамі і сябрамі, і менш прыязныя — са сваімі скарбнікам і аканомам.

Шаноўны чытачу! Князь Усяслаў Чарадзей ужо даўно не ў нашым свеце, а ў паралельным, і цяпер рада Рагвалодавічаў адчула неабходным праліць святло на жыццё слаўнага прадстаўніка дынастыі і ягоныя таямніцы, апублікаваць Чарадзеевы нататкі і аздобіць іх тлумачэннямі.

Спярша гэтае заданне хацелі даручыць ягонай унучцы Прадслаўцы, вядомай таксама пад творчым нікам Еўфрасіння Полацкая.

Еўфрасіння ўжо паспела выдаць — вядома, пад псеўданімам «ананімны аўтар» — пару-тройку рыцарскіх эпасаў для ірландскага кніжнага рынку, аднак гэтыя публікацыі прынеслі ёй толькі фінансавую радасць, бо як на праўдзівую дачку Полаччыны, дык праца на чужой культурнай ніве можа прыносіць выключна гэткі гатунак задаволенасці.

Пасля, вядома, асветніцу заела сумленне, ды на айчынным матэрыяле зноў пад тым жа псеўданімам, які прынёс ёй першы літаратурны поспех, Еўфрасіння пачала складаць твор у ключы фантастычнага рамана з элементамі іранічнага фэнтэзі. У галаву рамана яна паставіла ашаламляльную паводле сваёй неверагоднасці (і адтуль — надзвычай папулярную сярод усходнеславянскай публікі) ідэю, што аб'яднанне ўсіх рускіх земляў у межах адной-адзінюткай дзяржавы — магчымае.

«Тры тысячы словаў аб паходзе Ігара» — гэтак называўся яе няхілы закос пад sci-fi. Ён выйшаў у адным з манастырскіх выдавецтваў і, наколькі зрабілася вядома, у будучым перажыў колькі перавыданняў.

Падарожнікі ў часе (пра іх падрабязней я распавяду пазней) нават апавядалі, што праз тысячу гадоў бачылі ў вітрыне менскай кнігарні «логвінаЎ» ілюстраванае выданне гэтага твора, ужо апублікаванага пад назвай «Слова аб паходзе Ігара».

…Ну, я толькі губляюся ў здагадках, што зрабілі з астатнімі дзвюма тысячамі дзевяццюстамі дзевяноста дзевяццю словамі шматлікія пакаленні перапісчыкаў будучыні. І якое адзінае слова яны ўсё ж літасціва пакінулі, таксама хацелася б дазнацца.

Дадамо толькі, што ў часы жыцця Еўфрасінні яе «Слова» заставалася незапатрабаваным. Так, яе папярэджвалі — раманы па-крывіцку раскупаюцца паскудна. Паводле прыблізных падлікаў маркетолагаў — недзе асобнік на стагоддзе.

Так ці інакш, разам з прызнаннем асветніцка-літаратурніцкіх талентаў Еўфрасінні ў навуковай рады Рагвалодавічаў усё ж узнікла апаска, што калі тлумачэнні выйдуць з-пад Еўфрасіннінага пяра, дык яны могуць, барані Божа, набыць клерыкальную ці месіянскую афарбоўку.

Тут варта зазначыць, што Еўфрасіння вылучаецца, мякка кажучы, немалой рэлігійнай захопленасцю. Як вядома, ужо ў падлеткаўстве,

удаючы адкрыццё трэндавай цырульні, яна падманным шляхам завабіла і пастрыгла ў манаства сваіх пляменніц. Зразумелая рэч, без усялякае згоды з боку бацькоў бязвінна абкарнаных.

Трэба прызнаць, што хоць Чарадзеевы прыгоды ў прасторы і часе, безумоўна, знітаваныя з Боскай воляй, аднак, як ма́е перакanацца шаноўны чытач далей, тыя прыгоды стаяць трохі наўзбоч ад рэлігійных пошукаў і спірытуальных перажыванняў.

Менавіта з гэтае прычыны існавала небяспека, што ў тым выпадку, калі за пяро возьмецца Еўфрасіння Полацкая, дык Чарадзея — нават нягледзячы на той непарушны факт, што яго больш няма сярод нас — сілком пастрыгуць у манахі і прымусяць жыць у манастыры. А ўжо там варта дапусціць, беручы пад увагу неўтаймаваную прыроду Усяслава і замкнуты лад жыцця ў казённым доме, што Чарадзей — хай сабе не ў рэальнасці, а ўсяго толькі на старонках якога новаспечанага «Жыція Усяслава» ці «Чарадзеева апокрыфа» — можа вызваліцца з-пад дыктату Еўфрасіннінага пяра і абсалютна нелітаратурным парадкам ад нуды і скаромнага рацыёну перакусаць іншых манахаў. Чым яўна папсуе і саміх манахаў, і імідж усёй дынастыі Рагвалодавічаў.

Пасля развагі блог і тлумачэнні да яго хацелі даручыць князёўне Рагнедзе, Чарадзеевай прабабцы.

Прабабцы?! Божа мой Божа, а вы што думалі — гэтую працу павінны рабіць Чарадзеевы ўнукі ці праўнукі, марнуючы найлепшыя гады за натаваннем дзеяў свайго, няхай і славутага, аднак надта далёкага ад іх — і ўзростава і ментальна — продка?! Што ж ім, гаротным, толькі праз тое, што іх прадзед быў напалову чалавекам, а напалову — не зусім, адмовіцца цяпер ад банкетаў і баляў?! Сядзець поседам у цёмнай келлі і аздабляць блог Чарадзея сваімі псеўдаўспамінамі, бо напраўду адзінае, што яны памятаюць — гэта той выпадак, калі праслаўлены продак калісь узяў іх немаўляткам на рукі, а яны, па малалецтве не маючы справаздачы, напусцілі яму проста на княскую мантыю?!

Людцы, далібог! І што, толькі праз тое, што Чарадзей падарожнічаў у часе, як у прасторы, усім унукам і праўнукам давядзецца адмовіць сабе ў першачарговых жаданнях: зухаватых рушэннях на паўсталае сялянства і прысутнасцях на публічных чвартаваннях, сохнучы целам і мазгамі?!

Не, і рада Рагвалодавічаў, і сама баба Рага былі супраць! Каму, як не ёй, удзячнай і вольнай ад побытавых турботаў прабабцы, якая

была цяпер адной нагой у магіле, а другой — у каровіным ляпёху, якія гэтак бязлітасна раскіданыя тут, у перадмесцях правінцыйнага Заслаўя, апавесці пра свайго славутага праўнука? Рагнеда ані не сумнявалася: дзеля гэтага прабабкі і прысутнічаюць на гістарычнай сцэне.

І выканаць тое адказнае заданне яна абяцала найлепшым чынам. Кажуць, што любоў бабак да ўнукаў, у адрозненне ад бацькоўскай любові, — чыстая, незамутнёная мыццём пялюшак і нялёгкімі выхаваўчымі дылемамі. Дык уяўляеш, шаноўны чытачу, якую чысцюткую любасць і замілаванне выпраменьваюць да нашчадкаў ужо прабабкі, што цалкам адышлі ад руцінных абавязкаў і цвярозай развагі? Якою крышталёваю любоўю, не абцяжаранай нават унукавымі патрабаваннямі дзяліцца пенсіяй, яны пульсуюць?!

Але рада Рагвалодавічаў адмовіла і Рагнедзе. Праблемаю стаўся ейны сын, Ізяслаў.

Так, можа быць, Рагнеда і нудзілася без годнага занятку. Сапраўды: седзячы ў зацішным Заслаўі на пасадзе «князёўны-маці», яна чмурэла ад грымучага кактэйлю правінцыйнай нудоты і побытавай руціны. Яе нават нельга было назваць развядзёнкай, бо ейны муж, шматжэнец

і бадзяка, Уладзімір Яснае Сонейка валэндаўся недзе па Візантыях ды іншых тмутараканях.

Сваймy сыну Ізяславу, гэтаму вечнаму падлетку, яна, здавалася, таксама была без патрэбы. Натурысты і капрызлівы і ці то заўзяты паслядоўнік сваёй маткі, шчырай — чаго хавацца — аматаркі сямейнай панажоўшчыны, ці то чарговая ахвяра эдыпавага комплексу, Ізяслаў у старых кнігах пры дапамозе пашукавікоў (пісьменных рабынічаў) ночы навылёт высочваў гісторыі-звесткі пра ўсмярочванні бацькоў сынамі і цешыў заморскіх паслоў сваёй недарэчнай любасцю да нажоў разматых памераў і форм. Трымаючы ў правіцы які-небудзь шамшыр ці палаш, чарговы небяспечны дарунак гішпанскага ці магрыбскага пасланца, ён па-змоўніцку падміргваў маці, а ягонае, такое нявіннае ў дзяцінстве, пытанне: «Калі наступным разам прыедзе папа́?» набывала ў ягоных сталых гадах злавесныя абертоны.

Нягледзячы на ўпрошванні Рагенды напісаць тлумачэнні да блога яе праўнука Усяслава рада Рагвалодавічаў параіла ёй заняцца лепей сваім найбліжэйшым нашчадкам — сынам.

## Блог Усяслава Чарадзея. Пост № 3. Пра каханне 1091 г. Май

Ну, вядома, гэта ўсё поўня вінаватая. Значыцца, паціху янотаў-уцекачоў па закінутых лісіных норах рассяліў і ўчора канчаткова адчуў — акрыяў я. На спатканне нават пайшоў: запрасіў хазарскую царэўну — мілае дзяўчо, і паўцарства на дарозе не валяецца. Думаючы сумясціць прыемнае з агідным, паклікаў яе на сеанс чвартавання. І як усё хораша абставіў: не проста нейкі квіток купіў, калі сядзіш, як дурань, у апошнім шэрагу, дзе ні эшафота, ні крыві не бачыш і толькі ў сутонні пакутліва думаеш, калі ўжо можна будзе дзяўчыну пацалаваць.

Па-княску запрасіў. Бо сам усё і зладзіў: засудзіў аднаго злодзея (справядліва, вядома), пабудаваў трыбуны, выпісаў моднага ка́та.

Паўцарства, можа, думаю, не дастану, але ўвечары царэўна яўна нанач застанецца.

Раптам адчуваю — ператвараюся ў жывёліну. Спярша падумаў, што гэта я ў пераносным сэнсе: глянуў на гожую дзеўку, і пакрысе ўва мне прачынаецца пажадлівы звяруга. Выяўляецца — скулля: усё ў наўпростым сэнсе — хвост у лаву ўпіраецца.

У мяне такое часта. Ідзеш у чалавечым абліччы ў поўню па полацкай узбярэжнай, і тут абавязкова нехта залямантуе: «Шэсцьсот шэсцьдзясят шэсць! Люцыпар ужо тут!» Ну які я Люцыпар? Як толькі ваўкалак мордазмяніўся, дык яго адразу чорт ведае як абзываюць. І лічыць я толькі да пяцісот магу.

Бывае наадварот: ваўком раблю прабежку па лесе, бачу — мядзведзь казулю дзярэ, ды мяне гэтая карціна ў самае сэрца працінае, і нешта чалавечае ўва мне парчынаецца: «Што ж ты, нялюдскі ірад, вырабляеш? Жывую істоту — і пад разцы?» Дарэмна

ён мне нешта пра ланцуг харчавання і натуральны адбор мармыча — чапляюся драпежніку ў горла.

Дык вось, глядзім мы чвартаванне, а хазарская царэўна кажа:

— А што гэта вы, мужчына, на мяне воўкам пазіраеце?

Толькі што «Славік» курняўкала і прасіла мёду падліць, а раптам халоднае «мужчына» і нелітаратурныя параўнанні. Адным словам, пасля чвартавання адправіў царэўну назад у Хазарскае царства.

Ужо ў лесе заяц кажа: «Можа, табе які курс зёлак папіць?» — «Якія, пад халеру, зёлкі, зая? — абурыўся я. — Калі твая жанчына толькі твой адзін, парадны бок хоча бачыць, дык на чорта яна такая трэба?!»



Прачытаўшы некалькі пастоў, ты, шаноўны чытачу, ужо, пэўна, паспеў бліжэй пазнаёміцца з галоўнымі героямі гэтага блога, здолеў вызначыць і акрэсліць для сябе яго прыблізную дыспазіцыю: уведаў, хто тут супраць каго ці чаго. Бо Усяслаў змагаўся збольшага не супраць людства (і пагатоў не супраць зверства), а, хутчэй, проці сваёй біялагічнай перадвызначанасці і вонкавых, у цэлым неспрыяльных абставінаў.

Ты, шаноўны чытачу, ужо ўбачыў галоўнага героя не толькі ў хвілі ягонага трыумфу, але і заспеў Чарадзея на слабізне, аднак з таго, мусіць, толькі прывязаўся да фігуры галоўнага героя яшчэ мацней.

Вось жа і цяпер ты, занураючыся ў чытанне блога, цешышся наперад, бо мяркуеш, што гэты твор прынясе табе колькі ўтульных вечароў на канапе. Або магчымы варыянт, што ты, маючы хворыя гены запойнага чытача, бярэш зараз кнігу ў рукі, каб агараць усю яе ад дошчачкі да дошчачкі калі не з цікавасці, дык чыста з хваравітай цягі.

Што тут скажаш… Менавіта гэткія патрабаванні выстаўляюцца да цяперашніх твораў мастацтва-з-працягам, або серыялаў: каб захаплялі спажыўца такога «культурнага» прадукту, гледача або чы-

тача, без рэшты, не давалі яму спаць і працаваць (праўда, дазваляючы есці), аж пакуль ён не ўбачыць апошняе серыі.

Што паробіш, сапраўды, сцэнары да тых серыялаў піша цэлае войска таленавітых і падступных сцэнарыстаў, якім у свой час не ўдалося зрабіцца кадравымі раманістамі ды якія цяперака спаганяюцца за гэты факт на паспалітым гледачы. І, у дадатак, ці ведаеш ты, шаноўны чытачу, што ў сучаснай кінаіндустрыі ёсць нават спецыяльнасць «псіхолаг на вытворчасці»? Гэты адмысловец, мусім заўважыць, не займаецца лекаваннем эдыпавага комплексу першага памочніка галоўнага рэжысёра або аналізам псіхічных разладаў майстроў па піратэхніцы ці там дзіцячымі траўмамі каскадэраў. Таго псіхолага, як ні дзіўна, увогуле не цікавіць персанал, бо ягоная функцыя — дапамагчы рэжысёру выбудаваць сцэны стужкі і карцінку гэткім парадкам, каб у галовах гледачоў павысілася колькасць хімічнага рэчыва пад назвай дапамін, каб на яго ліха, які адказвае за прывыканне.

Чаму я, шаноўны чытачу, выкладаю табе ўсё гэта? Часткова таму, што хачу быць шчырым з табою. А хутчэй таму, што цяпер, калі ты загруз у павуцінні блога Усяслава Чарадзея і маіх каментароў ды ў лю-

бым выпадку будзеш чытаць гэтую кнігу да канца, я хачу на тле чужых злачынстваў адцяніць свае ўласнае ліхадзейства ды ўрэшце зрабіць яшчэ больш шакуючае прызнанне.

Дык вось: каментары да блога піша заяц.

Проста заяц.

У кніжнай справе поспех гарантаваны тады, калі галоўны герой — Дракула, чалавек і вампір. Ого, гэта адразу народзіць цікаўнасць публікі і інтарэс літаратурнае крытыкі. Яшчэ лепей, скажу я табе, шаноўны чытачу, калі раман напіша сам Дракула. Тут да чытачоў і літкусачоў адразу падключацца СМІ са сваімі пытаннямі: «Скажыце, спадар Дракула, а як клічуць Вашага дантыста?», «А кетчупу якой маркі Вы аддаяце перавагу, дарагі граф?» і г. д. да т. п.

Дык што скажаце рабіць, як размаўляць з радай Рагвалодавічаў, шаноўны чытачу, пры такіх раскладах сапраўды таленавітаму аўтару, які мае і цікавыя гісторыі ў запасе, і адметны погляд на свет, але які ёсць абсалютна шэрым, абсалютна шараговым зайчыкам? З пухнатымі лапкамі, даўжэзнымі такімі файнымі вушкамі і палкім літаратурным сэрцайкам?

«Вядома, надрукаваць блог і аздобіць яго каментарамі без дазволу рады! — адкажаш ты, шаноўны чытачу.

«Дык я так і зрабіў!» — адкажу я табе ў сваю чаргу.

Але ты, шаноўны чытачу, зноў спытаешся мяне, працягваючы свае дыскрымінацыйныя нападкі:

«А чаго гэта раптам заяц, ні з пушчы ні з поля?»

Па-першае, я, можа, і не з поля, але адназначна з пушчы. З самае гушчы гэтае пушчы. Чалавек з народа, ці, дакладней, звер з фаўны.

Па-другое, я хоць і заяц, але вучоны заяц. Гісторыя мая такая. Малым зайчанём мяне злавіў на паляванні Усяслаў і дзеля смеху пусціў палётаць навыперадкі з пацукамі па даўгіх калідорах сваёй бібліятэкі, дзе на мяне і забыўся. Трапіўшы ў бібліятэчныя лёхі, пабудаваныя яшчэ Чарадзеевым дзедам-кніжнікам Ізяславам, я, па недасведчанасці, з'еў колькі скруткаў старадаўняга Полацкага летапісу, прыняўшы іх за пекінскую капусту. Мне стала кепска і забрала на ваніты. Гэтак я вывучыў, што заўсёды трэба глядзець на запакоўку любога прадукту, дзе напісаны тэрмін прыдатнасці. Калі я, не раўнуючы як Тарзан (толькі наадварот), цалкам навучыўся чытаць па-людску і зразумеў,

што гэта не пекінская капуста, было запозна: палова кнігазбору знікла, а мой страўнік канчаткова прывык да бяросты.

Калі ж Усяслаў, схамянуўшыся, вярнуўся ў бібліятэчны лёх пабачыць, што сталася са мною і са скруткамі, дык мне ўжо было што́ заявіць яму з нагоды свайго незаконнага арышту, бо я ўжо, бачыце, паспеў пераструваваць некалькі тамоў рымскага права. Пачуўшы маю юрыдычную адповедзь, Усяслаў з неспадзеўкі засмяяўся. Раптам у яго на скуры палезла поўсць, на пальцах выраслі кіпці, пашча вышчарылася, і ён ператварыўся ў…

…Калі я, колькі хвілін таму самлелы ад жаху, урэшце расплюшчыў вочы, дык убачыў ваўка, які, ахінуты клятчастым пледам, гушкаўся насупраць мяне ў троне-гойдалцы. Той воўк, пяшчотным і крыху выбачальным голасам, трошкі падвываючы, сказаў, каб я не турбаваўся пра сваё жыццё, бо ён не па гэтых справах, і пасля, працягнуўшы мне яшчэ адну берасцяную грамату, Усяслаў Чарадзей — а з голасу я пазнаў, што гэта быў менавіта ён — прапанаваў дружбу і келіх свежага піва.

Так што не, шаноўны чытачу, каментары да блога Усяслава Чара-

дзея зрабіў я, заяц, бо ў адрозненне ад ягоных сваякоў добра ведаў яго і як чалавека, і як ваўка.

Ты, пэўна, быў не гатовы да гэткае дзікае праўды? Але, напрамілы Бог, шаноўны чытачу, у цябе ж XXI стагоддзе на дварэ: людзі больш не саромеюцца публічна прызнавацца, што яны, напрыклад, вегетарыянцы ці нават веганы. Яны наведваюць свае веганскія капішчы, гадуюць дзетак у веганстве і веганшчыне, нават ствараюць чыста веганскія шлюбы… А тут вялікая бяда — гаваркі (і трохі пісучы) заяц. Ну, далібог! «Дык дзе твая талерантнасць і разуменне, шаноўны чытачу?!» — пытаюся я ў цябе ўжо другім разам. Няўжо, калі б я ўзяў псеўданім Рагнеда, табе было б прасцей прыняць напісанае?!

І таму, шаноўны чытачу, даспадобы табе гэта ці не, але я — асоба з сямейства заечых (і мама і тата — чыстакроўныя), нягледзячы ні на якія дыскрымінацыйныя ўздыхі і фаўнафобскія выгукі, працягваю пісаць свае суправаджальныя нататкі да блога майго гаротнага сябра — Усяслава Чарадзея (напалову ваўка, між іншым). Пнуся ў моц маіх здатнасцяў перадаць дух і патлумачыць норавы ягонае эпохі. Даруй, чытачу, не буду маўчаць!

## Блог Усяслава Чарадзея. Пост № 8. Пра агульнаславянскія карані 1065 г. Май

Гэта ўсё агульнаславянскія карані вінаватыя. Надоечы на маё вялікае здзіўленне заявіліся наўгародскія паслы і прапанавалі быць іхнім князем. Я адразу на нараду да зайца: «Зая, я ж на іх паходам хадзіў, праўда, людзей там не кранаў (амаль), — кажу я, — але ж залез на Сафію і дэмантаваў званы, а яны мяне на княства цяпер просяць?! Нешта тут не так».

— Вось менавіта таму цябе і просяць, — адказаў заяц, — бо ты памяркоўны, а не кілер нейкі, і хобі ў цябе даволі мірнае — снэплінг, па будынках лазіш.

Карацей, пераканаў мяне вушасты яшчэ раз.

Паехаў я ў Ноўгарад. «Прыбыў я, — да тамтэйшага люду кажу я, — да вас княжыць». — «Яно, вядома, калі ласка — кажуць наўгародцы, — але ты і так наш валадар быў. Разам з тым, калі хочаш быць больш чым проста валадар: там, скажам, да ліку святых прылічыцца ці адразу ў багі скокнуць — дык нічога супраць не маем... Любы́, як той казаў, капрыз за вашу ўладу».

Здзівіўся я моцна, але не паспеў сказаць «таямніцыполацкайгісторыі», як да мяне дайшло: пераблытаў я Ноўгарад з Наваградкам, які для абароны ад балтаў заснаваў мой дзядзька Ярык!

Далей на далей, павярнуў я назад у Ноўгарад праз Полацак. А там у горадзе полаўцы заселі. «Мы называемся полаўцы,— кажуць, — а значыць, і горад Полацак — наш». — «А тады скажыце, калі ласка, дзе нам, палачанам, жыць?» — пытаюся я, зацікаўлены. «Вядома дзе — у рэчцы Палаце».
Ну, ясная рэч, чарговы раз давялося гвалт ужыць. Зразумела —

непрыемна: шэсць (ці сем) сыноў поруч расце і вось маеш: зрабіліся сведкамі прыкрых сцэн, але што тут з княжымі функцыямі паробіш? Неабходна ж было гэтым полаўцам патлумачыць, што іхняя назва ад слова «поле», дзе ім і месца. Яны ж качэўнікі!



Падчас высвятлення прычын ягонае дваістасці мы з Усяславам, які — не буду хаваць, шаноўны чытачу, — усё больш і больш прыпадаў мне да сэрца, мелі не толькі гутаркі на генетычна-спадчынныя тэмы, а таксама прамаўлялі шчырыя прызнанні. Гэтак я выявіў, што ён, Славік, часам хоча быць Вовікам — т. б. ператварацца ў ваўка.

Я падтрымаў Усяслава і распавёў, што сапраўды жывёльны свет больш прасунуты і што сярод лясных гушчароў паміж звярамі пануе згода. Свет людзей такі недасканалы, поўны сварак і звадак, у той час, калі астатняя, пераважна нялюдская, Галактыка ляціць да зор.

У лесе даўно ўсталявалася шматкультур'е і ліберальныя каштоўнасці, а таму адсутнічае такі часам бязлітасны падзел на добрых і кепскіх. І калі цябе зжэрлі, гэта значыць не тое, што ты добры, але табе кепска, а твой крыўдзіцель — кепскі, але яму добра; гэта азначае, што баланс і раўнавага ў прыродзе прыйшлі ў норму — толькі і ўсяго, і адпаведна, крыўдаваць і наракаць на паскуднае абыходжанне і дрэнны лёс зусім не выпадае. І яшчэ: ваўкоў у лесе з павагаю клічуць санітарамі, лісіц — медсёстрамі, мядзведзяў — хірургамі і г. д.

Потым мы збеглі ў лес і я пазнаёміў яго са сваімі ляснымі сябрамі — з драпежнымі вавёркамі, з Міхалам і ВаДзікам.

З цягам часу Чарадзей даверыў мне свой дзённік у форме блога. Адкуль паходзіць слова «блог», спытаеш ты, шаноўны чытачу. А халера яго ведае. Тлумачэнні пра серверы і біты мяне не пераконваюць. Дапускаю, што слова паходзіць ад якога-небудзь стараславянскага «блогвішча», што магло б азначаць «бруднае, поўнае блох, благое жытло ваўка». Прычыны гэтае назвы даволі празрыстыя: Усяслаў меў пакуты ад свайго цела — здрадлівай абалонкі сваёй кранальнай душы. І блог — гэта, відаць, метафара ягоных памкненняў, змардаваных недасканаласцю навакольнага свету.

О, так, тое была супярэчлівая натура, якая не ведала спакою ні ў адной з іпастасяў. Як, напрыклад, той выпадак з кіеўскім пасадам…

## Блог Усяслава Чарадзея. Пост № 5.
## Пра кіеўскі пасад і нерэальныя патрабаванні
## 1068 г. Май

Гэта ўсё мая людска-звярыная дваістасць вінаватая.

Запрасілі на княскі пасад у Кіеў. Я, вядома, доўга адпіраўся, бо слова «пасад» мне да канца не зразумелае. «Княскі пасад» — гэта калі князёў садзяць, і яны кіруюць, ці калі іх садзяць, і яны адбываюць турэмнае зняволенне?

Плюс, ведаю я гэтых кіеўцаў: яшчэ проста так не дадуць пасаду, а прымусяць з памаранчавымі харугвамі ў перадвыбарчую гонку ўключацца нароўні з іншымі кандыдатамі. «Не, — запэўнілі мяне кіеўцы, — будзеш княжыць, як ты прывык у сябе ў Полацку: сядзець на пасадзе без усялякіх выбараў да пенсіі».

Умовілі-такі — прыехаў я ў Кіеў. Дзень сяджу на пасадзе — мясцовых бунтаўнікоў-радыкалаў разагнаў, два сяджу — адміністрацыйныя рэформы правёў, скасаваўшы княскую раду… сем месяцаў сяджу — прыходзіць дэлегацыя кіеўцаў, вочы ў падлогу адводзяць:

— Слухай, тут такая рэч… заскочыў тут да нас адзін Ізяслаў… з войскам палякаў. Вось ты напалову чалавек, напалову воўк, а ён кажа, што напалову марскі коцік, напалову касатка.

— Дык чым, — абураны, пытаюся, — марскі коцік лепшы за ваўка?

— А тым, — кажа дэлегацыя. — Мы ж хочам быць імперыяй, і трэба шукаць выхады да мора, а марскі коцік у гэтай справе напоўніцу шчыраваць будзе, бо які ён без мора коцік? Так, кот драны…

— А касатка навошта?

— А гэта, — кажуць, — каб коціка кантраляваць, калі ён мора ўжо знойдзе, і каб тады ў Візантыю не сплыў.

— Я, — адказваю, — ні халеры цяпер не зразумеў.

Вярнуўся я ў Полацак. Заходжу ў палац, а насустрач палачане: «Ведаеш, у тваю адсутнасць мы ўзялі на пасад індыйскага магараджу: ён напалову слон, напалову арангутанг».

— Людзі! — кажу я. — Што ў вас за эпоха такая?!

І, перакінуўшыся ваўком, збег у лес.

## Блог Усяслава Чарадзея. Пост № 6. Пра дэманстрацыю вегетарыянцаў і драпежных вавёрак 1091 г. Сакавік

Гэта ўсё цяга да справядлівасці вінаватая. З тым князем, індыйскім магараджам, які напалову слон, напалову арангутанг, справы наладзіліся. У першы дзень кіравання ён, як арангутанг, палез на хвою, але якраз пачаўператварацца ў слана — дый сарваўся. Сам не вельмі пацярпеў: толькі хобат зламаў, аднак сваёю спінаю звёў са свету і гісторыі цэлы табар апошніх полацкіх эльфаў. Мяне, як чалавека больш звыклага да тутэйшай флоры, вярнулі на полацкі пасад.

Прыйшоў я ў поўны парадак і вырашыў ад спраў княскіх адпачыць: арганізаваць у лесе дэманстрацыю вегетарыянцаў надумаў. Ну,

проста чыста па-людску люблю справядлівасць, роўнасць, каб ніхто нікога не выкарыстоўваў — не, праўда — нават у такіх звыклых рэчах, як харчовыя ланцугі.

Адным словам, накрэмзаў кіпцямі лозунгі на бяросце: «Мяса-шмяса», «Не еш нас — мы табе яшчэ прыдадзімся», «Мясаеды паміраюць маладымі» і раздаў зайчыкам, вожыкам і вавёрачкам (не, ім не даў — яны, драпежнікі, мяса ядуць). Пайшлі ўсе: часткова таму, што я спецыяльны ваўчыны ўказ выдаў, але збольшага таму, што наш мядзведзь падахвоціўся быць сек’юрыці. Кажа, «буду на дэманстрацыі вегетарыянцаў прадстаўніком ад драпежных мас». Ну, усе, вядома, расслабіліся: вожыкі іголкавыя шубы паскідалі, зайцы зубы на цвік павесілі. Ідзём — раптам мядзведзь схапіў усіх дэманстрантаў і ў рот цягне.

— Міхал, ну што ж ты робіш? — абурыўся я. — Ты ж нас абараняць абяцаў!

— Ну, вось ты, Славік, — адказвае той, — напалову воўк, напалову чалавек, а я напалову вегетарыянец, напалову есці хочацца, — і апошнюю мышку гам-гам — і няма.

Карацей, за што яго толькі любяць у нашых казках: так, звычайны кілер.

Не, трэба мне назад у горад, у Полацак: там людзі, цывілізаваныя чалавечыя стасункі, урэшце.



Падчас адной з нашых гутарак Чарадзей пацікавіўся, ці не з'яўляецца ягонае ваўкалацтва прыроджаным спадчынным разладам, то бок, можа, у родзе Рагвалодавічаў былі яшчэ якія пярэваратні ў каронах?

Спусціліся мы з ім у бібліятэчныя сутарэнні і адгарнулі радаводы, шукаючы ў ягоных славянскіх, скандынаўскіх і балцкіх продкаў ваўчыныя рысы. Аднак калі пакінуць па-за ўвагаю імёны Вальдэмар і агульную непаголенасць і патлатасць, а таксама манеровую ваўкаватасць ягоных прашчураў-вікінгаў, дык можна з усёю пэўнасцю сцвердзіць, што сапраўдным ваўком з іх не выявіўся аніводны чалавек.

Хаця аднойчы, ужо пазней, Чарадзей прынёс на хвасце ад аднаго казачніка з венскага лесу, што ягоная ваўкаватасць — вынік комплекса віны, які ён сублімаваў у працы на пасадзе кіраўніка Полацкага княства…

## Блог Усяслава Чарадзея. Пост № 7.
## Пра фенаменальны слых і цвікі на троне
## 1091 г. Сакавік

Гэта ўсё мой фенаменальны слых вінаваты. Чую я на вялікія адлегласці, і, у прынцыпе, часам у такога дару ёсць перавагі. Бывае, на нашай Сафіі званы звоняць на вячэрню, а ў Кіеве ёй як бы адказваюць, і так яны хораша перагукваюцца — стаю пасярод палаца і заслухоўваюся, а чэлядзь навокал няўцямна пераглядаецца, бо я ж адзін такое чую!

Ці яшчэ полаўцы ў сваіх стэпах пачынаюць змовы плесці супраць мяне, а я ўсе іхнія гутаркі лаўлю (хоць мовы полаўскай і не разумею).

Аднак, разам з тым, пракідаюцца праз мой дар і праблемкі. Аднойчы падняўся я на ютрань. Памыўся, памаліўся і пайшоў на працу, у палац. І што я бачу?! Чаляднікі зусім край перайшлі: адзін

спакойненька так у віно атруту падмешвае, другі цвікі на трон кладзе.

«Што ж вы, звяры, робіце? — пытаю. — Хоць бы прыхаваліся».

А яны, разгубленыя: «А мы думалі, княжа, ты адно праз гадзіну прыйдзеш». Мяне як перуном працяла — я ў пасцельцы чуў званы, але толькі не полацкай Сафіі, а Наўгародскай, а гэта ж іншы часавы пояс — там усё на гадзіну раней. Вось і падскочыў гэтак рана.

Не, неспадзяванак мне не трэба — цэлая гадзіна здаровага сну, такім чынам, сабаку пад хвост, і палацавы персанал усхадзіўся. Карацей, сабраўся я і пайшоў паходам на Ноўгарад. Людзей там не кранаў (амаль), іхнюю Сафію не руйнаваў — толькі залез і дэмантаваў званы. А то моду ўзялі наўгародцы — будзільнік ставіць на гадзіну раней. Добра яшчэ, думаю, што больш усходняя Тмутаракань — паганцы і званоў не маюць, а то заяўляўся б на працу раней ужо на цэлых дзве гадзіны. І якія выбрыкі чаляднікаў я б бачыў тады — аднаму Богу вядома…

## Блог Усяслава Чарадзея. Пост № 9.
## Пра сярэднявечную паліткарэктнасць
## 1060 г. Май

Прыбег учора заяц і давай сваю ўлюбёную тэму прасоўваць: маўляў, навокал XI стагоддзе, пагалоўнае цемрашальства і дзікунства, а ты, шэры, павінен з гэтага ўсяго выкараскацца і народ за сабою пацягнуць. Я кажу яму: «Зая, я ж ужо Сафійскі сабор пабудаваў — агмень культуры і светач хрысціянства. Трыццаць гадоў на будоўлі жылы цягнуў». А ён мне: маўляў, аднаго культавага збудавання — замала. Трэба, каб пагалоўная пісьменнасць, асвета, каб кнігі…

— …Дык у мяне ў асабістым кнігазборы ўжо дзве ёсць, — кажу.

— Трэцюю купляй — узровень асветы ў княстве адразу на траціну скокне ўгору.

— Не, — кажу, — ведаеш, колькі гэтая рукапісная кніга цяпер, у часы пагалоўнага цемрашальства і дзікунства, каштуе? Мне працей другую Сафію адляскаць. А што? І бюджэтна, і мне поўны фэншуй: дзве кнігі ў кнігазборы, дзве Сафіі ў Полацку, два павешаныя полаўцы на брамах.

— Ты сваю сафістыку кінь, — кажа заяц, — трэба адукоўвацца. Пачынай з самога сябе: выражайся культурна, паліткарэктна…

— Як-як?

— Паліткарэктна, — кажа заяц. — Гэта калі ты кажаш не «павесіў полаўцаў», а «прыпыніў людское існаванне метадам гвалтоўнай асфіксіі», і не полаўцы, а «асобы качэўнай нацыянальнасці», ці проста «асобы без акрэсленага месца жыхарства», БАМЖы. Дапяў?

— Не.

— Ну, памятаеш, ты з Яраславічамі на Нямізе счапіўся?

— Ну...

— «...Як Нямігі крывавыя берагі засеяны касцямі рускіх сыноў». Што я сказаў?

— Нешта вельмі эфектнае і летапіснае...

— Гэта я ў паліткарэктным ключы апавёў, як ты з іншымі князямі-братанічамі не падзяліў удзельную тэрыторыю і ўчыніў той прыкры несімпатычны разбор проста на вуліцах Менска!

— Але, зая! — запратэставаў я. — У тваіх словах усё неяк узнёсла было!..

А заяц мне:

— Запомні, шэры: палíткарэктнасць — не для таго, каб сказаць праўду ці ўнесці яснасць. Палíткарэктнасць — гэта такі спракаветны спосаб пераканаць нашчадкаў, што ты, мяркуючы па мудрагелістых апісаннях гісторыкаў і тваіх аблітаратураных прамовах, быў у цэлым прыстойны хлопец і збольшага культурны кіраўнік. Не тое што іншыя прымітывы, валадары-галаварэзы…

— Увогуле, — дадаў ён яшчэ, — нават і самі летапісы ды сагі можна яшчэ больш абкультурваць. Давай вось ты. Як будзе па-палíткарэктнаму:

*Кладуць на Нямізе снапамі,*
*Упокат галовамі сцелюць,*
*Малоцяць цяжкімі цапамі*
*І веюць душу ад цела…?*

Пачухаў я сваю кашлатую патыліцу і неўзабаве выдаў:

*Кладуць на Нямізе снапамі —*
*Дажынкі ў разгары.*
*Малоціць інавацыйная*
*сельгастэхніка —*
*І вее душэўнай цеплатою.*

— Песня, балада і рыцарскі эпас адначасова! — ухваліў заяц. — За нашчадкамі, шэры, не заржавее.

# РАЗДЗЕЛ 2. Трактар часу

Сучаснікі Усяслава не ведалі словаў «паліткарэктнасць», «інавацыйная», «сельгастэхніка» і «Дажынкі» — словаў, якія з’явяцца адно ў далёкай будучыні. Дык як жа сам Усяслаў і я ўжываем іх?

Цярпенне, шаноўны чытачу, цябе чакае аповед пра падзеі, якія пераўзыходзяць зададзенасць нуднай дваістасці «воўк-чалавек» і аднамерную руціну апісання побыту сярэднявечнае сталіцы і шараговае полацкае пушчы старадаўніх часоў.

Хай брамай у гэтыя будучыя неверагодныя аповеды будзе той выпадак з прарочым сном Усяслава Чарадзея…

## Блог Усяслава Чарадзея. Пост № 10.
## Пра прарочы сон Чарадзея з пісьменнікам Уладзімірам Арловым
## 1065 г. Чэрвень

Гэта ўсё пісьменнік Уладзімір Арлоў са сваімі «Таямніцамі полацкай гісторыі» вінаваты. У мяне ўсё пытаюць, чаму я без дай прычыны і патрэбы на Ноўгарад і Пскоў у 65-м годзе пайшоў — яны ж нам, маўляў, на той момант вечнымі саюзнікамі і братамі былі. Заяўляю ўголас і публічна: «Прычына ўсё ж была, і імя ёй — Уладзімір Арлоў».

Панадзіўся адзін чалавек да мяне ў сон цягацца і патрабаваць: «Сходзі ды сходзі, спадару княжа, на наўгародцаў. І потым на пскоўцаў яшчэ!»

Я яму кажу: «Шаноўны, я не ведаю, хто вы такі і чаму заклікаеце

ваяваць, але я супраць».

А ён становіцца ў позу — нагадваю, дзеянне адбываецца ў маім уласным сне! — і кажа:

— Як гэта хто?! Я — Уладзімір Арлоў.

— Я ведаў, — кажу яму я, — аднаго Уладзіміра: Уладзіміра Яснае Сонейка, майго прадзеда. Дык гэты экс-паганец хоць і хрысціў Кіеў, але ўзяў наш Полацак і сілком ажаніўся з дачкой мясцовага кіраўніка, Рагнедай, маёй прабабкай.

— Князі і князёўны сыходзяць і прыходзяць, — трубным голасам працягваў гнуць на свой капыл Уладзімір Арлоў, — а мы, пісьменнікі, існуем у вечнасці і працуем дзеля яе. Вось таму я ў вечнасці цяпер і знаходжуся, з табой гутарку вяду.

— Спадар пісьменнік, вы не ў вечнасці, вы ў маім сне, — нагадаў яму я.

— Гэта непрынцыпова, — кажа Арлоў. — Самае галоўнае, каб ты схадзіў з мячом на Ноўгарад і Пскоў.

А потым дадаў:

— Бо я ўжо ў сваёй кнізе твой паход маляўніча апісаў, удзячныя водгукі чытачоў атрымаў, ганарар у выдавецтве мне заплацілі. І як не прыйдзеш — у людзей настрой упадзе, зняверацца ў сваіх сілах. Бо што гэта за продкі, калі без ратных подзвігаў і дзёрзкіх нападаў на іншыя княствы? А каму гэта трэба? Так што давай, дуй на Ноўгарад! Потым па маім плане трэба яшчэ кіеўскі пасад заняць. І т. д. і да т. п.

Я з ім трохі пагадзіўся — схадзіў з мячом на Ноўгарад і Пскоў, але далей пастанавіў не слухацца. Пракраўся я ў спачывальню да ўласнай унучкі і прарочым голасам соннага персанажа ёй, прыспанай, сказаў:

— Прадславачка, Еўфрасіннечка, ужо і не ведаю, як цябе клікаць,

адным словам, унучачка, напрамілы Бог, не ідзі ў манастыр, не рабіся святой і не давай загадаў адліваць свой суперкрыж, каб дзядзьку Арлову з будучыні не патураць з ягонымі кніжкамі! Хай чухае патыліцу, пра што яму цяпер у «Таямніцах полацкай гісторыі» пісаць.

**P. S.** Так, я трохі помслівы, але гэта, здаецца, ад справядлівасці.

* * *

Ну, добра, шаноўны чытачу, яшчэ адна гісторыя перад пачаткам вялікіх прыгодаў. Яна пра тое… Адным словам, дзе пачынаецца творчасць, там таксама пачынаюць муляць аўтарскія правы на яе…

## Блог Усяслава Чарадзея. Пост № 11.
## Пра аўтарскія правы на Сафійскі сабор
## 1091 г. Чэрвень

Вядома, гэта ўсё мая празмерная мудрасць вінаватая.

Замежныя старцы ды малапісьменныя інакі (скарочана — СМІ) пачалі распускаць чуткі, што я, маўляў, для сваіх патрэбаў скраў, маўляў, чарцёж Сафійскага сабора з Канстанцінопаля і пабудаваў чужое як сваё. Я, нібыта, парушальнік, нібыта, аўтарскіх правоў, злодзей і паўтарака.

Паехаў я ў Кіеў і там, у тым Кіеве, на чарговым з’ездзе князёў-уладальнікаў Сафійскіх сабораў, якіх нахабна абылгалі, прамову цісканўў.

Пачаў здалёк: «Вось возьмем, напрыклад, тых жа мусульманаў. Чаму ў іх жонак некалькі? Не таму, што адна жонка рады не дае. Як мы ведаем на сваім хрысціянскім прыкладзе, адной жонкі аж занадта.

Тут іншая рэч: у адной жонкі можа характар сапсавацца, ці яна ў студню ўваліцца, ці здрадзіць урэшце. І тады як быць? Вось таму і трэба парачку жонак на запас мецека.

...Тое самае і з храмамі. Вось што рабіць, калі канстанцінопальскую Сафію мусульмане, барані Божа, захочуць у мячэт перабудаваць, ці якому князю намуляе перайначыць яе на замак у заморскім стылі ці ў музей або ў іншае абы-што? І тады дзе скажаце агменю культуры і светачу хрысціянства туліцца?

— Мы зараз нічога не зразумелі, да чаго хіліш, вайны хочаш? — не зразумелі мяне іншыя князі.

— Ды не, адказваю, не хачу, а прапаную вам, мае абылганыя сафіяўладальнікі, называць нашы свежапабудаваныя полацкую (1030–1060), наўгародскую (1045–1050) і кіеўскую Сафіі (1017–1037)

**РЭЗЕРВОВЫМІ КОПІЯМІ.**

…Адным словам, насілі мяне на тым з’ездзе на руках і нават у астрог, як вядзецца ў кіеўцаў, не запраторылі.

Вярнуўся я да сваіх у лес адсвяткаваць паспяховы саміт. Гляджу, у маім начальніцкім логвішчы леў пасяліўся.

— Зая, што за цырк? — пытаюся.

— Хто? — нібыта недачуў заяц. — А-а, гэты леў? Ну, ты ж… ты ж у Кіеў паехаў, а ў іх завядзёнка цябе ці то ў астрог пхаць, ці то катлету па-кіеўску з цябе рубіць, дык мы падумалі… падумалі і завялі сабе рэзервовую копію.

* * *

Вось, шаноўны чытачу, табе і абяцаныя вялікія прыгоды Усяслава Чарадзея ў часе…

* * *

Шыбенік і перагоншчык машын часу, паэт Баян з'явіўся ў княскім палацы, як заўжды, ні з пушчы ні з поля, а з кіеўскага тракту. Шырокімі крокамі абмінуў заўсёдныя калюжыны на дзядзінцы, амаль ветла павітаўся з пасадскімі бабкамі, якія адпачывалі на лаве ля палацавае брамы (яны адразу за вочы кінуліся зласліва абмяркоўваць ягоныя новыя пазалачоныя строі), і няцвёрдым крокам зайшоў у палац.

Звяры ведаюць норы свая, рыбы — віры свая, Баян жа дбайна песціў нішы свая. Ад ягонай чарговай шахер-махернай прапановы Чарадзей змог бы адмовіцца наўрад. Уцешны ашчэр скрывіў тоўстыя Баянавы вусны…

Трэба прызнаць, што разам з амаль нічым не прыхаванымі афёрамі і кепствамі, як то ненапісанне славянскага гераічнага эпасу пасля ўрачыстага прысягання на Сафіі і атрымання сотні грыўняў

у якасці задатку або напісанне самвыдатаўскіх прыпевак, дзе княская дынастыя паўстае ў незайздросным і непрыглядным святле, ад Баяна часам пракідвалася і карысць.

Аддаючы Баяну належнае, варта адзначыць: пакуль Чарадзей гібеў і марнеў, заняты выключна выжываннем у драпежным лесе полацкай палітыкі або дакучлівымі думкамі пра сваю ваўкалацкую дваістасць, дык Баян, усё роўна як чорцік з партабакі, з'яўляўся ў палацы, дэманструючы венцаноснаму — зразумелая рэч, не задарма — абсалютна новыя камбінацыі і хітрыкі, гэткім супярэчлівым спосабам адцягваючы ўвагу князя ад яго засмучанасці і нуды. Гэтаксама праз многа стагоддзяў шматлікія гіпермаркеты будуць паспяхова здымаць стрэс і агульную напругу пры дапамозе закупатэрапіі, наўзамен патрабуючы змесціва вашага кашалька.

«Хочаш быць у вечнасці?» — кінуў завіталы ў прыватныя княскія харомы Баян, не зняўшы шапкі і не разуўшыся, дарма што гэтага ў XI стагоддзі і так ніхто не рабіў.

Чарадзей, што скурчаны ляжаў у цяжкім одуме, з надзеяй глянуў на хітраваты твар Баяна, узняўся і звесіў ногі з масіўнага, падорана-

га ўсходнімі братанічамі цар-ложка — да падлогі заставалася, можа, метры тры. Прапанова яўна ўсцешыла Чарадзея — ён вельмі жадаў зведаць сакрэт вячыстага жыцця.

Злезжы пры дапамозе драбінаў долу, Усяслаў адказаў Баяну, што сапраўды хацеў бы зрабіцца неўміручым: калі атрымаецца — цалам, а як не, дык застацца ў людской памяці — таксама нішто сабе варыянцік.

— Не, княжа, ты крыху блытаеш, — адказаў яму Баян. — Быць у вечнасці і быць неўміручым — гэта розныя рэчы.

* * *

Як высветлілася з Баянавых словаў, быць у вечнасці — гэта проста быць у вечнасці. Павалэндацца па розных часах, зайсці на Губернатарскую, а выскачыць на Кірава, потым збочыць на праспект Вітаўта Вялікага. Памяняць у габрэя-ліхвяра ці ў філіяле «Белінвестбанка» талеры ці рублі, паслухаць, што з лексічнага запасу ўжываюць узлаваныя будаўнікі, якіх амбітныя дойліды азадачылі загадам пакрыць дахоўкай мудрагелістыя вежы полацкага замка або абавязалі вы-

разаць шкло для ромбакубаактаэдра нацбібліятэкі. А на дэсерт наведнік вечнасці можа высветліць, якім спосабам беларускі селянін XVIII стагоддзя пазбаўляецца ад прывезенага яму дзяржаўнымі чыноўнікамі на пасеў новага дзіўнага карняплода — бульбы: спальвае разам з Юр'еўскім вогнішчам на выгане ці банальна засыпае вапняком дзесьці ва ўрочышчы. Адным словам, Баян прапаноўваў старыя добрыя падарожжы ў часе…

**«Падарожжы ў часе не застрахуюць падарожніка ў часе ад смерці».**

Гэты сказ напісаны вялікімі чырвонымі літарамі ва ўсіх кіраўніцтвах па экспулатацыі для ўсіх машын часу.

Усяслаў быў здзіўлены пачуць ад Баяна, што, па вялікім рахунку, падарожжы ў часе — такія ж самыя падарожжы, цягам якіх вас можа нагнаць няшчасны выпадак, хапіць якая пошасць ці вы можаце проста заўчасна памерці.

Так, сапраўды, шаноўны чытачу. Калі ты будзеш, зразумелая і ясная рэч, дастаткова стары або дастаткова смяротнахворы (ці, як варыянт, калі зробішся, барані Божа, удзельнікам ДТЗ дзвюх машын часу

з летальным вынікам), дык смертухна да цябе, нават у вечнасці, усё роўна прыйдзе.

Заспее па дарозе з Сярэднявечча ў Адраджэнне, заграбе сваёй кастлявай правіцай падчас назірання гладыятарскіх баёў, нават у час, калі ты, поўны адчування сваёй абранасці ды абароненасці, з крыху адстароненым позіркам будзеш рабіць надчасовыя высновы пра ўсю людскую прыроду. Кастлявая ўсё роўна рубане сваёй навостранаю коскаю, калі ты знаёмішся з уласным прапрапрапраўнукам, або абарве твае тлумачэнні сабе-маладому, ад якіх бедаў у будучым варта было б адкруціцца.

І што ў выніку? Усё роўна як людзі XXIII стагоддзя, што залятаюць у супермаркет па дробязь, там па бензолавае малако ці дэхлебаваны хлеб, а выходзяць з яго ўжо з лічбавай муляпкай і фенам для веек, так і Чарадзей, што прагнуў неўміручасці, а не турботаў у выглядзе штогадовага тэхагляду, усё ж, пасля палкіх пераконванняў, такі прыдбаў у Баяна патрыманую машыну часу. Усяго пара тысячаў гадоў прабегу, да яго ёй валодаў нейкі італьянскі тытан Адраджэння,

які пры ейнай дапамозе апярэдзіў сваю эпоху.

…Прыгналі Чарадзею машыну ў палац — радаваўся, як малое ваўчаня: вішчаў, ставаў на заднія лапы, правяраў, ці дастае да стырна ў звярыным абліччы. І, не паглядзеўшы нават даручальных грамат на машыну, паехаў катацца па XI-м стагоддзі і ваколіцах.

# Блог Усяслава Чарадзея. Пост № 14. Пра Чорны Каптурок

Гэта ўсё паэт Баян вінаваты. Сеў я ў ягоную машыну часу і праз колькі хвілін язды завітаў у новы час і эпоху. Прыгожа тут: замкі, палацы, вершнікі… Ну, думаю, у казку трапіў. Падыходзіць да мяне літаратар — я па чарцы з мёдам у ягонай руцэ гэта зразумеў. І твар, нават нягледзячы на тое, што ён быў старанна закрыты класічнай маскай драмы, мне да болю знаёмым падаўся.

— Маска-маска, дзе я і хто ты? — спытаў я.

— Грым, а не маска… — кажа гэты літаратар нейкімі натужлівым ненатуральным голасам. — Я тут у драматычны вобраз казачніка ўжываюся… Ага… І тут, разумееш… табе таксама трэба ў адну ролевую гульню пагуляць — маленькую дзяўчынку праглынуць.

— За каго ты мяне, шаноўны Грыме, маеш? За скуралупа? — абурыўся я. — Я вегетарыянец і дзяцей глытаць не буду!

— Яшчэ як будзеш, калі дадому хочаш, — як адрэзаў крыважэрны казачнік Грым. — Бо я адзін ведаю, як табе ў Полацак і XI стагоддзе вярнуцца, бо саляра ў цябе ў ба́ках скончылася…

— Паслухай, княжа, усё ж будзе ўсё роўна як ненасамрэч, — дадаў крыважэрны казачнік Грым. — Ты ж потым тую дзяўчынку выплюнуць назад, жывенькую і здаровенькую, зможаш. Мне толькі для натхнення трэба, каб ты яе праглынуў. Каб я з натуры казку напісаў.

Што паробіш — адзеў я бабчын сарафан, пысу ваўчыную коўдрай прыкрыў. І неўзабаве сапраўды завітала дзяўчынка.

— Унучачка-ўнучачка, а чаму ў цябе каптурок чорны? — пытаю.
— Бабуля-бабуля, а можна адказаць пытаннечкам на тваё

пытанне, — папрасіла дзяўчынка і гэтак пяшчотна паглядзела на мяне. Я кіўнуў. Яна запытала:

— Бабуля-бабуля, а чаму ў цябе такія вялікія зубы?..

* * *

…Ну, праглынуў я яе, праглынуў! Потым усё было як быццам у казцы: вядома, уварваліся казачныя мужыкі, разрэзалі мне жывот, выпусцілі Чорнага Каптурка на волю. І толькі тады, пры святле іхніх паходняў, я заўважыў, што яны — не казачныя, а нашыя, полацкія, і сяджу я дома, у Полацку, у сваім родным XI ст., і ніякай казачнай краіны няма, а дзяўчынка, якую я праглынуў, — у дадатак сапраўды мая ўнучка, Прадслава слэш Еўфрасіння. А каптурок чорны, бо манашка.

— Фросечка, унучачка, гэта ўсё Грым збіў мяне з панталыку! — праз боль прамармытаў я прабачэнні.

— Які яшчэ Грым? Гэта наш паэт Баян, твой сябра, махляр і прайдзісвет, чарговы здзек з людзей чыніць! — адказала Еўфрасіння, якая абышлася лёгкім спалохам. — Пераапранаецца ў абы-каго і натхнення шукае. Далібог, княжа, забраў бы ты яго на якую сечу, на Нямігу ці ў палавецкія стэпы — з натуры паэмы пісаць, а то ён тут, у Полацку, са сваімі ролевымі гульнямі і рэаліці-шоу ўсім страшна абрыдзеў. І між іншым, каб машына часу падалей за тваю эпоху ездзіла, дык трэба ў яе саляру раз-пораз не шкадуючы заліваць.

**P. S.** ...Калі шчыра, дык уся гэтая сітуацыя з праглынаннем унучкі толькі дадала да маёй воўкачалавечай дваістасці галаўнога болю і параноі. Бо хто я ўрэшце — любячы дзед ці ненажэрная бабка?

## Блог Усяслава Чарадзея. Пост № 12.
## Пра заснаванне Вільні

Гэта ўсё зноў машына часу вінаватая. Яна хоць і была на хаду, але раптам паваліў з яе чорны дым, прыборная дошка расплавілася, ключы запалення з адтуліны вываліліся — і замест маіх любых адраджэнскіх часоў трапіў я ў абсалютна нязнаную эпоху. Ветру носам — па-ранейшаму тут Сярэднявечча і цемрашальства. І проста цемра, бо ноч. На ўсялякую бяду ў ваўка перакінуўся і яшчэ зверху кальчугу адзеў, бо, думаю: «Ого, браце, дзе Сярэднявечча, там і ножычкам парнуць могуць!»

Гляджу, пасярод пушчы мужык на гары спіць — сны бачыць. Побач тур забіты ляжыць і чэлядзь стомленая пасля палявання храпе. Пачаў мужыка катурхаць. «Дзе ключы ад машыны часу?» — пытаюся.

Ён мяне ўбачыў ды як пачаў гарлаць:

— Жалезная ваўчыца, жалезная ваўчыца!

Ну які я жалезны? Звычайны ваўкалак, з плоці і крыві.

— Проста на мне, чалавеча, — тлумачу я мужчыну-крыкуну, — кальчуга… І які я ваўчыца?.. Ты ж уважліва, без нерваў, прыгледзься. Асабліва ў гэтым месцы.

А ён сваё:

— Жалезная ваўчыца, гэта знак, як тады з Рымам было, на гэтым месцы горад трэба будаваць!

— Я што, на лаціне якой замежнай размаўляю, пры чым тут Рым? — зароў я, нібыта сто ваўкоў. — Шчэ раз пытаю: ключоў ад машыны часу не бачылі?

Тут ужо чэлядзь з вешчунамі паганскімі падляцела: «О, Гедыміне! О, гэты прарочы сон! О, гэтая жалезная ваўчыца, што раве, як сто ваўкоў! О, працы падваліла, о, інвестыцый падваліла, о, сталіцу з бізнес-сіці будаваць тут будзем!

— Хлопцы і ты, Гедымін, — кажу, — гэта не прарочы сон, а панурая рэальнасць — у мяне ключы ад машыны часу згубленыя, а вы спасярод дзікай пушчы, і ніводзін інвестар у ваш дрымучы праект па ўзвядзенні сталіцы з бізнес-цэнтрамі ў такой глухмені ані грывенькі не адшпіліць.

— А як праектаваны сіці, о, ваўчыца, назваць? — не адстаюць вешчуны.

— The city **will not** be built, — адказаў я з націскам гэтым аматарам усяго заморскага таксама не нашай фразай, якая ў перакладзе азначае «гэты горад **не будзе** пабудаваны».

— О, Wilno-сіці, о, Вільня-места, цудоўнае імя для новай сталіцы, о, будзе пабудавана, о, працы паболела, о, новых працоўных месцаў падваліла! — заверашчалі вешчуны зноў.

Што тут паробіш? Перакінуўшыся ў чалавека, пабег я ў лес ключы ад машыны часу далей шукаць.

## Блог Усяслава Чарадзея.
## Пост ужо не 12, але яшчэ не 14.
## Пра сустрэчу Усяслава Чарадзея з Гарві Лі Освальдам

Што, Менск?! Гэтая вёска?! І сталіца?! Ад абурэння я ператварыўся ў ваўка і закусіў хвост.

Ключы ад машыны часу знайсціся не могуць, машыну кідае з эпохі ў эпоху, а я трапляю ў час, дзе мы ў адной дзяржаве з цюркамі, армянамі і эстамі (як такі саюз чыста фізічна ўмагчыміўся, не ўяўляю!), плацім даніну нейкай Маскве, і рыцарскія гербы якіясьці надта крыважэрныя зрабіліся — нават не меч ці які трызубец, а серп і малаток. І ў дадатак сталіца нашага ўдзельнага княства — нават не Полацак, а дробны Менск. У-у-у!

А галоўны ў іх сказаў:

— Вось глядзіце, таварышы, наглядны прыклад таго, як сярэднявечны князь-феадал, паэксплуатаваўшы ўсмак прыгоннае сялянства, на вачах страчвае людское аблічча.

А потым дадаў асабіста для мяне:

— Ну, наконт Менска вы, княжа, самі вінаваты. Усё са сваімі братанічамі феадальныя разборкі клеілі на берагах Нямігі, вось прадажныя летапісцы і царкоўныя клерыкалы іх і разрэкламавалі, а адурманены народ — за імі: пішчом у той Менск палез. А Менск не гумовы!

Потым дадаў:

— А што, з Полацкам усё добра. Што яму, вечнаму, зробіцца? Застаўся, старэча — раённы цэнтр цяперака, праўда. Дык мы яму ў падтрымку Наваполацак у 1958 годзе побач пабудавалі.

Растлумачылі мне таварышы, што трапіў я ў Менск, а дакладней, Мінск, стаю я ў 1962 годзе пасярод гэтага блюзнерства, якое гістарычным музеем называецца.

Потым галоўны падвёў да мяне аднаго экскурсанта: недалужнага, непрыкметнага.

— Вось, княжа, пазнаёмцеся, у нас у тургрупе якраз таксама асоба з іншага свету: наш малады амерыканскі спецыяліст Гарві Лі Освальд: добраахвотна жыве ў нашай краіне, працуе на мінскім заводзе «Гарызонт»…

Адным словам, пасябравалі мы з тым Освальдам, дзве адзіноты з нягэтага свету. Сядзелі ў ягоных двухпакаёвых харомах з выглядам на Свіслач: я ў людскім абліччы і гаспадары — Освальд з жонкаю — пілі менскае піва, гаманілі, сышліся на тым, што трэба кожнаму ў свой свет вяртацца, бо тутэйшым гербавым арсеналам, сярпом і малатком, па мазгаўні атрымаць не надта хочацца.

Освальд паказаў сваю калекцыю зброі, бо заўважыў, што любіць на паляванне хадзіць. А я Освальду паказаў усялякія стралковыя хітрыкі, напрыклад, як, цаляючы, трэба браць у рахубу вецер і рух ахвяры — асабліва калі яна на кані ці якім возе едзе. Адным словам, харошы чалавек мне трапіўся, вельмі ўважлівы.

І да валадароў краінаў, хачу заўважаць, у адрозненне ад савецкіх менчукоў, з вялікай павагай ставіцца.



На вялікае шчасце Чарадзея, шаноўны чытачу, Беларусь другой паловы XX стагоддзя была раем для ўладальнікаў машын часу: у калгасах з'явілася МТС, дзе любы механік, не міргнуўшы вокам і не прыйшоўшы да памяці, вам такую машыну мог паправіць.

??

Дазволь патлумачыць.

Шмат хто перакананы, што машына часу працуе на нейкіх фантастычных прынцыпах, і, можа, таму ў мастацкай літаратуры і кінематографе панадзіліся рабіць яе ў форме вядзьмарскага катла з прымацаванымі да таго катла шматлікімі празрыстымі трубачкамі, якія бязладна вытыркаюцца ва ўсе бакі. Палічыўшы, што гэтага недастаткова, пісьменнікі і кінематаграфісты ў даважак аздабляюць вымысленыя машыны часу зіхоткімі лямпачкамі-катафотамі ды нікеляванай цэнтрыфугай, з якой раз-пораз валіць густая па́ра.

Дык вось, мусім з усёй адказнасцю заявіць: сапраўдная машына часу не выглядае як плод любові самагоннага апарата з роварам «Арлёнак». Далібог не! Насамрэч машына часу, што працуе на простых,

як шасцярэнька, прынцыпах рухавіка ўнутранага запалення і пасавай перадачы (плюс невялічкія нанатэхналогіі і лёгкія ўдасканаленні формы задніх пырскавікоў), мае выгляд і начынне трактара МТЗ-80.

Адзінае, што, можа быць, лучыць сапраўдную машыну часу з яе выявамі ў фантастычных творах, гэта клубы па́ры — часам яны сапраўды вырываюцца з сапсаванага радыятара машыны, якая раптоўна загрузла дзе-небудзь пасярод голага поля беларускай гісторыі XIX стагоддзя, скажам, на шырокай мяжы пасля выхаду «Дудкі беларускай» Францішка Багушэвіча і перад паўставаннем нашаніўскага асяродка.



Вынаходства машыны часу — асобная гісторыя, адначасна цікавая і пажыўная для розуму.

Як водзіцца з машынамі часу, усё ў гэтай гісторыі пачалося з канца, то бок з будучыні. У XXIII стагоддзі вынаходнік-наватар Актавіян Капацька замест таго, каб далучыцца да даўжэзнага спісу ўсіх тых няўдахаў, якім за доўгую сваю кар'еру так і не пашчасціла адшукаць прынцып дзеяння машыны часу (ці, на благі канец, вечнага рухавіка), зрабіў дзёрзкае дапушчэнне, маўляў, старадаўнія цывілізацыі — якія, па вялікім рахунку, былі мудрэйшыя і прасунуцейшыя за нашую (у сэнсе ягоную) — ужо калісь, яшчэ даўней, напэўна ж, вынайшлі ўсе нашыя вынаходкі, ды сярод іх, мусіць таксама перабываць і time machine.

Каб пацвердзіць сваю гіпотэзу, замест тэхнічных выпрабаванняў на палігонах Капацька занурыўся ў гістарычныя крыніцы. І неўзабаве, спраўна абнікаўшы архівы і скарыстаўшыся парадамі гісторыкаў свайго стагоддзя, ён адкрыў, што аснова для машыны часу была пачаткова распрацаваная ў савецкай Беларусі, а канчаткова эпохаперасоўчы агрэгат быў вынайдзены ў Беларусі пасавецкай.

Цывілізацыя, сцвярджаў Капацька, якая з неймавернай нязмуша-

насцю ставіла на адну роўніцу час і прастору, фактычна накрэсліўшы знак тоеснасці між імі (возьмем, да прыкладу, савецкія вайсковыя загады кшталту «Капаць адсюль і да абеду»), цывілізацыя, якая лёгкім росчыркам пэндзля магла прыспешыць хаду часу (лозунгі кшталту «Пяцілетку — за чатыры гады»), гэтаксама выдатна ведала — а ў навукоўца не засталося на гэты конт ані ценю сумневу — сакрэт перасоўванняў у часе.

На наступным этапе пошукаў Капацьку дапамагла Другая Гістарычная аксіёма, якую яшчэ раней вывелі гісторыкі XXIII стагоддзя. Аксіёма пастанаўляе, што ўсе прыборы і прыборчыкі made in USSR, ад мясарэзкі да месяцахода, абсалютна без аніякіх выключэнняў, зробленыя на базе аднаго з двух прыстасаванняў: або аўтамата Калашнікава, або трактара «Беларус».

Знайшоўшы ў гістарычным музеі РБ абодва экзэмпляры цудам захаваных прыстасаванняў і памаліўшыся шклоўскаму ідалу (культ шклоўскага ідала — вельмі пашыраная рэлігія ў XXIII стагоддзі), Капацька стаў вывучаць тыя экзэмпляры на прадмет наяўнасці ў іх машыначасавага механізма.

Не зважаючы на лямант збройнага лобі сярод сваіх сучаснікаў, якое палка даводзіла, што менавіта аўтамат Калашнікава сам па сабе і ёсць выдатнай машынай часу, бо той аўтамат з бліскавічнай хуткасцю здольны перасунуць любога чалавека ў самы скрайні пункт ягонага жыцця, Капацька ў сваіх пошуках усё ж вырашыў спярша паставіць на «Беларуса». І не памыліўся.

Пасля правядзення спектральнага аналізу трактарных запчастак, раблення рэнтгену і чытання падшывак часопіса «Вясёлка» за 70-я гады XX стагоддзя вось што ён высветліў.

Трактар «Беларус» — эпахальная вынаходка, якая на колькі стагоддзяў наперад вызначыла ўсю тэхнічную думку крывіцкага этнасу. МТЗ-80 барануе, жне, засявае. Бульбакапалка, ротарная жатка, касілка і проста цяглавая моц у восемдзесят конскіх сілаў. І ўсё гэта фактычна адзін-адзінюткі механізм, сэрца, магутнае і дасканалае. Алгарытм любых будучых мадыфікацыяў і любых інавацыяў заўжды нязменны: усё, што трэба было зрабіць, каб з базавай мадэлі згламэздаць швейную машынку або хатнюю электрастанцыю — гэта прышрубаваць да корпуса адпаведную прыстаўку і крыху памяняць форму

задніх пырскавікоў пры дапамозе напільніка.

Капацька пайшоў далей. Як вядома, у 90-я гады XX стагоддзя, пасля атрымання незалежнасці, трактарабудаванне набыло дадатковы штуршок, і ўніверсальны ўжытак «Беларусаў» толькі ўзмацніўся: на вуліцах беларускіх гарадоў з'явіліся міліцэйскія трактары-эвакуатары. Гісторыя давала файны шанец «Беларусу». І ён яго выкарыстаў напоўніцу: адразу пасля падзеяў 2011 года, пасля павышэння мыта і, як вынік, рэзкага росту цэнаў на замежныя аўтамабілі, у 2013 годзе МТЗ выпусціў эксперыментальную, 10-тысячную партыю «Беларусаў»-легкавікоў. Партыя была раскупленая за двое сутак.

У сярэднестатыстычную беларускую сям'ю трактар-легкавушка прынёс нязнаную раней радасць і пачуццё ўсёабдымнага камфорту. Цешча была на сёмым небе, бо зяць, прыехаўшы на вёску ці лецішча, адразу, без затрымак і недарэчных адчэпак, мог прыступаць да пасяўной ці да любых уборачных працаў. Аднак, з іншага боку, зяць таксама не заставаўся пакрыўджаным: цяпер, з нагоды абмежаванага месца ў кабіне, ён меў законную прычыну не браць цешчу на лецішча ды мог баляваць там са шматлікімі сябрамі, якіх ён патаемна прывозіў

у прычэпе. Цесць і дачка ад пакупкі трактара таксама выгадвалі, бо цяпер, адцененыя бітвамі паміж зяцем і цешчай за ўраджай і персанальную самастойнасць, яны маглі беспакарана займацца ўлюбёнай справай: у выпадку цесця — ляжаць у гаражы пад «Масквічом-414», які гадоў дваццаць як не ездзіць, у выпадку яго дачкі — бавіць час з каханкам у кавярні «Стары горад» у Траецкім перадмесці.

Ужо ў 2020 годзе вуліцамі беларускіх гарадоў гойсалі «Беларусы»-пікапы, «Беларусы»-кабрыялеты, «Беларусы»-амбулансы (хворага кладуць зноў жа ў прычэп), «Беларусы»-катафалкі (куды кладуць нябожчыка, гл. «Беларусы»-амбулансы») і нават «Беларусы»-лімузіны (усё, што трэба зрабіць— гэта зварыць тры-шэсць кабінаў разам, а лімузінавым барам-заначкай ужо і так забяспечаны спаконвеку кожны звычайны «Беларус»).

Вуліцамі хадзілі нават «Беларусы»-аўтазакі. За адсутнасцю лішняга месца ў кабіне арыштаваныя самастойна бралі ключы ў міліцыянера-кіроўцы і ў дысцыплінаваным парадку пад'язджалі да прымальнікаў-размеркавальнікаў самаабслугоўвання, дзе перад тым як замкнуць саміх сябе ў турэмнай камеры, пакідалі ключы на вахце.

Выклік машыначасных тэхналогій, як высветліў дапытлівы навуковец Актавіян Капацька, МТЗ сустрэў годным адказам. У 2030 годзе, папярэдне апрацаваўшы заднія пырскавікі звышдакладным дыяментавым напільнікам, да базавай мадэлі механізатары дадалі нейкую небальшэнькую такую, хітравымудроную, ну очынна такенькую супер-дупер нанатэхналагічненькую насадку, якіх у другой палове XXI стагоддзя было паўсюль, як вядома, хоць задавіся, ды якая формамі крыху нагадвала ці то мініятурную ротарную жатку, ці то мікраскапічны абмалот. Гэтак, па сутнасці, і была выштукавана машына часу.

Машыны часу на базе МТЗ-80 з гонарам усталявалі ў кожным райцэнтры пасярод цэнтральных плошчаў на пастаментах, адкуль раней паскідвалі бронзавых і бетонных Леніных, то бок якія такім чынам урэшце дачакаліся сваёй абяцанай светлай будучыні. На тых пастаментах машыны часу, шчасліва забытыя, прастаялі гадоў сто пяцьдзясят, аж да эпахальнага адкрыцця іх Капацькам у XXIII стагоддзі.

Нягледзячы на тое, што Капацькавы пошукі завяршыліся больш чым паспяхова, уся гісторыя мела нешчаслівы канец. Рэч у тым, што

Капацька, на вялікі для яго жаль, у сваіх пошуках не абмежаваўся вышукам страчанай машыны часу, чаго рабіць было няварта.

Дык вось, працягваючы свае даследаванні ў архівах, Капацька высветліў, што ўжо ў 2040 годзе запчасткі ад «Беларусаў» пачалі выкарыстоўваць у якасці чалавечых трансплантантаў, а праз якое дзесяцігоддзе дык увогуле МТЗ выпусціў 10-мільённую партыю «Беларусаў», якая замяніла звычайных грамадзян РБ.

Дарэчы, у сувязі з гэтым нашыя жалезныя нашчадкі крыху выправілі класічны верш Янкі Купалы, першы радок якога цяпер гучаў так:

«А хто там едзе?»

І вось: фініта ля Капацька. Даведаўшыся, што ўсе вакол — «Беларусы», ён завяршыў сваё жыццё ў вар’ятні-санаторыі «Жалезныя коні», дзе на пацеху санітарам даводзіў, што ён не трактар з адпаведнай насадкай навукоўца і падпілаванымі згодна з узростам і статусам гісторыка заднімі пырскавікамі, а жывая, з плоці і костак, двухногая істота на вугляроднай аснове, якая вядзе свой радавод ад малпаў*.

….Аднак, шаноўны чытачу, вернемся да нашай галоўнай каляіны: Чарадзея і ягонай паламанай машыны часу. Адным словам, адрамантавалі Чарадзею ягоную машыну ў сельскай МТС хутка і лёгка. Вярнуўся ён дадому ў Полацак і першай справай загадаў затрымаць Баяна за продаж сапсаваных машын.

Ужо ў КПЗ (казематах полацкага замка) на вочнай стаўцы з дыбай Баян прызнаўся, што самы надзейны спосаб вандраваць у часе — не трактарам часу, а праз уваход на кактэйль-вечарныну ў гонар былых валадароў дзяржавы.

* Мусім заўважыць, што заяц тут крыху згушчае фарбы: на канферэнцыі футуролагаў у Плешчаніцах у 2130 годзе гэтае тэхнакратычнае развіццё будучыні прызнанае «не адзіным магчымым, факультатыўным і ўвогуле неабавязковым да выканання». *(Заўвага стыль-рэдактара).*

# РАЗДЗЕЛ 3. Кактэйль-вечарына ў гонар былых валадароў дзяржавы

## Блог Усяслава Чарадзея. Пост № 16, у якім Усяслаў Чарадзей суцяшае Пятра Машэрава

Гэта ўсё мая ўзважанасць вінаватая. На той кактэйль-вечарынцы ў гонар былых валадароў дзяржавы, куды я трапіў па наводцы Баяна, да мяне падвялі нестарога яшчэ спадара.

«Вось, — кажуць, — княжа, пазнаёмся: савецкі валадар Пётр Машэраў. У цябе з ім шмат чаго агульнага: ён таксама ў свой час добра-такі па Нямізе прайшоўся. Усю гістарычную забудову зруйнаваў».

— Рады пазнаёміцца, — кажу.

— Мне дагэтуль за Нямігу сорамна, таварыш князь, — раптам прызнаўся Машэраў і апусціў вочы.

— От, вялікая бяда! Няма чаго саромецца, шаноўны Машэра! Ты ўсяго толькі старую вуліцу разбурыў, а я на Нямізе жывых Яраславічаў на рэпу пасек — і нічога: як бачыш, нармальна маюся.

— Во і я маюся, бо не толькі за гэта сорамна… — працягваў бедаваць Машэраў. — Я яшчэ ўсе школы на роднай мове ў гарадах пазачыняў…

— А я ніводнай і не адчыніў, — працягваю супакойваць яго я. — У мяне ў Полацку чытаць умелі ўсяго пяць чалавек: заяц, які ўвогуле не чалавек, пара старцаў і малапісьменных інакаў (скарочана — СМІ), паэт Баян і ўнучка Прадслаўка слэш Еўфрасіння. Якая, дарэчы, і была Баянавай фан-групай. І нават гэтыя пяцёра ўсё больш да грэцкай, лаціны і царкоўнаславянскай хіліліся. А пра родную мову нават

гаворкі не было. Заяц жа ўвогуле на іўрыт налягаў. Таму, шаноўны Машэра, не бяры ты да галавы. Усё на гэтым свеце адносна.

Але Машэраў зусім расклеіўся:

— Нашто гэта я, — кажа, — напрамілы Бог, Палессе гэтак нялітасціва асушыў?

— Гэта ты сапраўды дарэмна, — пагадзіўся я. — Цяпер Яраславічы, нашы кіеўскія партнёры, змогуць да нас простай наводкай паходамі посуху хадзіць…

— Але і мы пад іхнія муры можам таксама хутка і лёгка трапіць, — раптам працяла думка Машэрава.

— Ну вось, шаноўны Машэра, ты паціху пачынаеш разумець дыялектычны падыход. Усё на гэтым свеце адноснае і мае свае плюсы і мінусы.

…Потым ён мне расказаў пра найноўшы заморскі караняплод, які зрабіўся сімвалам ягонай дзяржавы, а я сваім канструктыўным досведам падзяліўся, як у Полацку трэба падземныя хады капаць, калі ён з будынка райкама да ўрадавай дачы хоча на рыбалку цішком трапіць. Міла пагаманілі. Вярнуўся я на машыне часу назад, у Полацак, які ў гэты дзень якраз полаўцы захапілі.

— Зараз мы цябе над вогнішчам падсмажым, княжа, — звязаўшы мяне, кажуць полаўцы. — Але табе толькі на дабро пойдзе — вакол жа зіма і маразы, а ты ў тонкіх ботах і лёгкім смокінгу… Усё на гэтым свеце, княжа, мае свае плюсы і мінусы.



Ты, шаноўны чытачу, пэўна, пацікавішся, а што гэта за кактэйль-вечарына ў гонар былых валадароў дзяржавы, дзе Усяслаў сустракаў такіх неардынарных асобаў?

Усё апавяду. Дык вось, кактэйль-вечарына ў гонар былых валадароў дзяржавы адбылася, ці, дакладней, адбывалася на трэцім паверсе новага корпуса часава-прасторавага кантынуума і доўгі час мела вялікую папулярнасць не толькі сярод полацкіх і літоўскіх князёў, але таксама між урадоўцаў БНР і БССР. Тут панавала прыязная дэмакратычная атмасфера, уласцівая людскому калектыву пасля чацвертай чаркі. Вечарына суправаджалася выступам гарадзенскага індырок гурта «Кантры-банда» і дэгустацыяй традыцыйных напояў, такіх як крупнік, збіцень і пладовыя настойкі «Талака» і «Рэнесанс», а яшчэ — цікавымі размовамі з (ды не ўзбаімся зноў ужыць гэтае слова) цікавымі суразмоўцамі. У тых размовах мадэрновыя валадары маглі, напрыклад, выхваляцца перад сярэднявечнымі валадарамі новымі відамі зброі і найноўшымі электроннымі цацкамі-пецкамі. Пагодным майскім вечарам паваенны кіраўнік БССР Панцеляймон Панамарэн-

ка давёў да стану «злосці поўныя косці» вялікага князя Вітаўта, апавядаючы яму пра прынцып дзеяння прывезенага са зваяванага Берліна прыстасавання, якое называлася тэлевізар. «Ты ж разумны мужык! — стаў ушчуваць Панамарэнку пераможца Грунвальдскай бітвы. — Якія яшчэ зебры ў скрынях? Ты што, верыш гэтым тэўтонам?»

У сваю чаргу валадары XVIII стагоддзя давалі паслядоўнікам з XXI стагоддзя простыя і карысныя парады, як за 30–40 гадоў, не вельмі моцна пры гэтым напінаючы жылы, хапаючы напоўніцу пазыкаў і вайсковай дапамогі ад знянацку расшчадрэлых суседзяў, давесці прыстойную краіну да торбы і аншлюса.

На кактэйль-вечарыну ў гонар былых валадароў дзяржавы можна было патрапіць адусюль, з любой эпохі. Напрыклад, у пачатку XXI стагоддзя брама туды месцілася на сёмым паверсе гандлёва-забаўляльнага цэнтра Ждановіцкага рынку, дзе побач з уваходам на дыскатэку «Арыён» стаялі такія ж дубовыя, такія ж дзвюхпалавінкавыя дзверы і дзе наведнікам ахова адціскала такую ж няўцямную пячатку на руку. Хіба толькі ля брамы на кактэйль-вечарыну начыста паголеныя, укормленыя ахоўнікі моцна нагадвалі татараў, якія змагаліся

на баку саюзнага войска падчас Грунвальдскай бітвы. Другія, дыскатэчныя, таксама крыху нагадвалі саюзных байцоў-татараў, але гэтыя, з кактэйль-вечарыны, усё ж нагадвалі больш.

Найвялікшая вартасць кактэйль-вечарыны ў гонар былых валадароў дзяржавы была ў тым, што праходзіла яна безупынку, у сэнсе 24 гадзіны на суткі, 365 дзён на год, 100 гадоў на стагоддзе, 10 стагоддзяў на міленіум. Тыя з валадароў, хто ў выніку выхаду ў адстаўку атрымаў вольную часінку, маглі завітаць сюды хоць сярэдначы, паколькі алкаголь і цікавыя суразмоўцы, у адрозненне ад іншых вечарынак, на ёй не заканчваліся ніколі.

І ўсё роўна некаторыя кіраўнікі прымудраліся не абмяжоўвацца адной такой вечарынай. Вялікае Княства Літоўскае, як агульна вядома, з'яўлялася не толькі нашай дзяржавай, але і літоўцаў, і таму вялікія князі Міндоўг і Гедымін (раз-пораз паасобку, а часцей — шумлівым дуэтам) наведвалі за адзін раз дзве вечарыны — менскую і віленскую. Усіх пераўзышоў вялікі князь Ягайла, які на зайздрасць абаім рабым Міндоўгу і Гедыміну зрабіўся яшчэ і польскім каралём, то бок фактычна абзавёўся тытулам, які дазваляў яму на пенсіі за выходныя

абнікаць ажно тры месцы: Вільню, Менск і Варшаву. Ужо досыць падвесялёны віленскай вечарынай, ён купляў у супермаркеце ІКІ ля стоціса свіныя вушы і крупнік віленскага разліву, садзіўся ў цягнік Вільня-Магілёў, дзе пры дапамозе свайго аўтарытэта і прыгаданай вышэй пляшкі пераконваў машыніста прыехаць на менскі вакзал на дваццаць хвілін раней, каб Ягонай Мосці ўмагчымілася паспець купіць у буфеце «Хвілінка» пляшку шампані «Князь Вітаўт» і хадуна без кетчупа. Потым Ягайла хапаў пад паху апошні нумар «Głosa z-nad Niemna» ды ўскокваў на начнік Менск-Варшава з мэтаю дагнацца наступным днём на вечарыне ў гонар ужо польскіх кіраўнікоў*.

А калі дадаць да гэтага незлічоную колькасць паралельных светаў і, як вынік, незлічоную колькасць паралельных гісторый Беларусі, Літвы і Польшчы, ды, адпаведна, шалёную прорву кактэйль-вечарын у гонар былых валадароў дзяржавы, дык робіцца зразумела, чаму Ягайліха, вядомая ў стольным Кракаве як каралева Ядвіга, мела

* Заяц ушчэнт забываецца на вугорца Стэфана Баторыя, вялікага князя літоўскага і караля польскага, які меў права наведваць ажно чатыры вечарыны: менскую, віленскую, варшаўскую і будапешцкую. *(Заўвага стыль-рэдактара)*

ад усяго гэтага вялікае раздражненне ды ўрэшце наогул забараніла мужу хадзіць на такія мерапрыемствы, паставіўшы сужонца перад цяжкім выбарам: «Albo ja, albo ta cholerna impreza koktajlowa».

* * *

Аднойчы пакаштаваць шырока разрэкламаванага збітня да дзвярэй кактэйль-вечарыны завітаў дзейны кіраўнік дзяржавы. На вялікае сваё здзіўленне ён быў спынены начыста паголенымі, укормленымі ахоўнікамі, якія моцна нагадвалі татараў, што змагаліся на баку саюзнага войска падчас Грунвальдскай бітвы. Спынены далікатна, але няўмольна.

— Я ж валадар гэтай дзяржавы! — па сваёй завядзёнцы стаў качаць правы дзейны кіраўнік дзяржавы.

— Але ж без ганаровага звання «былы», — пыхліва кінуў якісьці экс-валадар, бесперашкодна мінаючы фэйс-кантроль.

Спакуса пакаштаваць збітня — неймаверная, і вось дзейны кіраўнік дзяржавы вагаецца, муляецца, разглядае свае пазногці і варыянт самаімпічменту (ці як там называецца гэтая працэдура ўласнага адхілення ад улады), і вось ён ужо амаль гатовы, каб… рука цягнецца да мабілы…

Але не, не! Чорт з гэтымі даражэзнымі збітнямі — у сямейным (чытай дзяржаўным) бюджэце кішка кішцы хвігу паказвае.

У гэты час, зайшоўшы ўсярэдзіну, былы валадар дзяржавы, што кінуў крыўдную рэмарку на адрас дзейнага кіраўніка, адразу ж замовіў дзвесце збітня (хаця яшчэ дома вырашыў, што будзе піць ядлаўцоўку). «Станіслаў Станіслававіч, Ваш столік ужо вызваліўся», — ветліва сказаў яму бармен і напоўніў келіх цёплай бурштынавай вадкасцю.

Іншага небараку, Кастуся Каліноўскага, няўмольны фэйс-кантроль не пусціў таксама. Кастусь стаяў і, ад крыўды складаючы вершы да Марыські, прапускаў наперад сваіх заклятых ворагаў, былых кіраўнікоў забранага краю: расійскага генерал-губернатара і кіраўніка БССР — Мураўёва-Вешальніка і Мяснікова-Мяснікяна.

На вечарыне гэтая парачка гора-валадароў не магла падтрымаць прыстойную гутарку па-беларуску, чым выклікала скосыя позіркі з боку іншых прысутных, але досыць мілыміківамі патлумачыўшы свае хоцькі, усцешыла прынамсі бармена: зрабіла яму гадавы план па расійскай гарэлцы і армянскаму каньяку, якія тут акрамя іх больш ніхто не ўжываў.

## Блог Усяслава Чарадзея. Пост № 18, у якім Усяслаў Чарадзей сустракаецца з Містэрам Не і тлумачыць яму полацкую палітыку

У калідорах трэцяга паверха часава-пpасторавага кантынуума, па дарозе ў прыбіральню, ля ўваходу на вечарынку ў гонар былых валадароў дзяржавы перастрэўся я з дзядком. Стаім, усміхаемся, паціскаем рукі. Пытае ён мяне:

— А вы, таварыш, хто такі? З капіталістычнага ці з сацыялістычнага блоку?

— Я, — кажу я, — не з блокаў, а з плоці і крыві, бо не помнік, а чалавек, хоць і напалову. Усяслаў Чарадзей мяне клічуць, князь полацкі.

— А-а! Гэта вы той, што дэструктыўны падкоп пад вялікую Русь капаў? На Нямізе дырдыганам уздырдыганіўся, сваіх братанічаў Яраславічаў мячом сек…

— Нікуды я не дырдыганіўся, — абурыўся я, — яны першыя пачалі…

І дэталёва патлумачыў яму полацкую палітыку:

— Гэтыя кіеўцы і наўгародцы, хлопцы, вядома, неблагія, але першыя — садысты: усё пнуліся мяне без дай прычыны ў турму на суткі ці нават на месяцы запраторыць, а другія — мазахісты: увесь час даставалі са сваімі прапановамі сталец наўгародскі заняць, нават нягледзячы на тое, што я званы з іхняй Сафіі гвалтам паздымаў і набег на Ноўгарад учыніў.

— Ага, так і ёсць, я ўсё прыгадаў, — усё ніяк не адчэпіцца дзядок. — Гэта ж вы ў часы Кіеўскай Русі праводзілі палітыку валюнтарызму і махровага сепаратызму?

— Чаго, дзеду, прабачце?

— Святая Русь, кажу, вам па барабане была? — на агульназразумелую пераклаў для мяне дзядок.

— Русь — гэта святое, — адбрахаўся я. І прыняў дзяржаўніцкую паставу. — Я ж таксама быў збіральнікам рускіх земляў… вакол сябе. Хацелася, ведаеце, каб Русь была, але каб не Кіеўская, а Полацкая. А вы хто такі? — каб адвесці ўвагу ад маіх замежнапалітычных грахоў хітрамудра змяніў тэму гутаркі я.

— Я, — кажа дзядок, — Містэр Не.

— А, нешта такое прыпамінаю. Вы такі ўвесь у чорным плашчы і масцы, арыі спяваеце.

— Ды не Містэр Х, гэта з іншай оперы, я — Містэр Не, — абурыўся дзядок. — Я — Андрэй Андрэевіч Грамыка, ураджэнец вёскі Старыя

Грамыкі, што на Гомельшчыне, незаступны міністр замежных справаў СССР. У свой час сустракаўся з Чэрчылем, Кенэдзі, Чарлі Чаплінам, Айнштайнам, між іншым. За сваю непадатлівасць у перамовах з Захадам быў названы Містэрам Не.

Тады я спытаў Грамыку:

— Спадару Містэр Не, вы ўсім і заўжды кажаце «не»?

— Так.

— Вы толькі што сказалі «так».

— Не.

— Значыць, вы «так» не казалі?

— Так, не казаў.

— Вось вы зноўку сказалі «так».

— Не, не сказаў.

І гэтак далей да бясконцасці. Бачу, размова ў нас не клеіцца. Думаю сабе: «Э-э, з такім цікавым суразмоўцам трэба больш пагутарыць. Лепей працягну я гутарку з Містэрам Не ў наступным пасце...»



Шаноўны чытачу, пагадзіся — пэўную з'едлівасць і ўпірыстасць Андрэя Грамыкі ў размове з Усяславам чыста па-людску лёгка зразумець — савецкага міністра не пусцілі на выдатную кактэйль-вечарыну. Не дапамагло нават тэрміновае стварэнне ячэйкі камуністычнай партыі Заходняй Беларусі сярод кухаранятаў, пры пасяродку якой Грамыка спадзяваўся праскочыць на вечарыну праз службовы ўваход.

Калі фармаванне пятай калоны хракнулася, замест упрошванняў аховы Андрэй Грамыка адразу звярнуўся да арганізатара вечарыны, немаладога мужчыны ў акулярах на паўтвару з вельмі тоўстымі шкельцамі, і пераканаўча давёў яму, што, можа быць, і не з'яўляецца кіраўніком Беларусі і, у дадатак, аддае перавагу Маскве перад Мінскам (і расейшчыне перад беларушчынай, і акрошцы перад халадніком), але сам ёсць настолькі магутнай фігурай у крамлёўскай ерархіі, што нават зможа, калі захоча, вырашыць лёс усіх кіраўнікоў БССР, аднаго за адным.

І каторы раз арганізатар вечарыны, немалады мужчына ў акулярах на паўтвару з вельмі тоўстымі шкельцамі, быў няўмольны — толькі

валадары. Грамыка паўпінаўся, ужыў ядравую зброю і нават здзейсніў увод абмежаванага вайсковага кантынгенту. Але праз дваццаць хвілін з Заслаўя прыцёгся старэнькі «жыгуль» з нарадам Ждановіцкага РАУСа. Разагнаўшы дручкамі гэтую «чырвоную пагрозу», нарад забраў Грамыку ў аддзяленне.

«Як вы можаце адмаўляць мне ва ўваходзе?! Містэр Не — гэта я, а не вы!» — крычаў ужо ў камеры КПЗ Андрэй Андрэевіч Грамыка.

## Блог Усяслава Чарадзея. Пост № 19, у якім Усяслаў Чарадзей працягвае сустракаецца з Містэрам Не і наносіць удар у адказ

— …А вы, спадар Грамыка, — пацікавіўся я, — у сваіх замежнапалітычных справах ніколі не памыляліся?

— Не, ніколі, — адказаў Містэр Не.

— І ніколі не было дылемы, хто добры, а хто — дрэнны?

— Не, не было.

— Цікава, — кажу, — я вось, калі наўгародскія з кіеўскімі міжсобку разбіраліся, усё ніяк не мог вырашыць, хто які. Кагосьці, вядома, з іх аднаго, урэшце, падтрымаеш: наваюешся, нагармідарыш, варожую

дружыну на кол пасадзіш, а потым ад згрызотаў сумлення ў княскім ложку круцішся: «А ці правільна я зрабіў усё? Ці, можа, добрыя былі якраз праціўнікі?»

— Зашмат, княжа, думаеш — усё значна прасцей, — адказаў Містэр Не. — Рэч у тым, што дабро і праўда выходзяць наверх па прынцыпе выключэння.

— Дык, спадару Містэру Не, раскажы пра прынцып! — не вытрымаў я. — Скажам, за каго СССР трэба было ў Афганістане ваяваць: за крывавых маджахедаў ці бязлітасных наджыбулістаў, або каго — Іран ці Ірак — падтрымліваць? Як жа вам, савецкім, гэта ўдавалася — заўсёды ведаць, дзе праўда?

— Ну, як-як, — кажа Містэр Не, — як рэпу грызці. Заходзім, значыцца, у якую краіну, з верталётамі і гарнізонамі, і адразу аглядаемся: за чый бок амерыканцы? А паколькі, як мы ўсе цудоўна ведаем, яны са сваім няправільным, няправедным палітычным ладам заўсёды

ліхі, памылковы бок падтрымаюць, дык, значыцца, трэба хіліцца да процілеглага лагера.

— Так проста? — здзівіўся я. — А калі з авіяцыяй і гарнізонамі вы ўваходзіце ў якую-небудзь краіну адначасова з амерыканцамі?

— Тады хаваешся: сядзеш сабе з авіяцыяй і гарнізонамі за барханам — назіраеш, у якім кірунку пашкандыбалі штатаўцы. А потым — шмыг у адваротны бок.

— Спрытна. А калі амерыканцы засталіся за барханамі самі, покуль у краіну вы ўварваліся?

— Тады... — тут вочы Містэра Не зрабіліся глыбокія і каламутныя, як воды ягонай роднай рэчкі Бесядзь. — Добра, скажу табе, земляку, усю праўду... Тады мы становімся паміж варожымі войскамі... якраз пасярэдзіне... паварочваемся да іх абодвух анфасам... і ўжываем нашую звышсакрэтную зброю, супернадзейную распрацоўку

савецкіх навукоўцаў — стратэгічную лічылку: «Раз, два, тры, чатыры, пяць, выйшаў зайчык пагуляць». І гэтак, зноў жа метадам выключэння, вылічваем харошых і варожых, і толькі пасля гэтага пачынаем ваенныя дзеянні… А хто не схаваўся, я не вінаваты!



Пачаткам канца кактэйль-вечарыны зрабіліся менскія марксісты — людзі, перакананыя ў тым, што дзяржавай можа кіраваць нават кухарка з Серабранкі. Яны ад самага пачатку былі супраць правядзення такіх элітарных закрытых вечарынаў.

Адной суботай на вечарыну ўварваўся атрад з трыццаці раззлаваных і ахвочых да крамбамбулі кухарак з Серабранкі — відовішча, якое ўразіла не падрыхтаваных да таго, начыста паголеных, укормленых ахоўнікаў. Гэтае дапушчэнне аб уражанасці аховы вынікае з таго факту, што тая без зыку і крыку прапусціла кухарак ў сярэдзіну.

Спачатку таварыства былых валадароў дзяржавы, якое цалкам складалі мужчыны, усцешылася свежаму ўліванню жаночай кампаніі. Аднак зразумеўшы па каторым часе, што гэтак вечарына губляе сваю валадарную элітарнасць і эксклюзіўную надчасовасць, ператвараючыся ў звычайную пятніцавую п'янку з кухаркамі (занятак, трэба заўважыць, таксама нясумны і дужа прыемны), валадары цэлымі дынастыямі сталі спехам пакідаць памяшканне.

Іншымі прыкрымі інцыдэнтамі зрабіліся частыя сустрэчы на вечарыне былых валадароў з блізкіх эпох, асабліва тых, якія ў свой час збавілі адзін аднаго са свету. У тых сустрэчах талерантнасць і дэмакратычнасць, уласцівая кактэйль-вечарыне, саступала месца зусім не гістарыяграфічным разборам, а векапомным абразам і нават непрыхаванаму мардабою. І гэта адбывалася, што самае цікавае, акурат пасля чацвертай чаркі.

# Блог Усяслава Чарадзея. Пост № 25. Пан Адам, ці апошні наезд на Міцкевіча

Гэта ўсё дзікія законы беларускай літаратуры вінаватыя. Карацей, пабіліся два Міцкевічы, Адам і Кастусь.

Калі на кактэйль-вечарыне ў гонар былых валадароў дзяржавы расейскі генерал-губернатар Паўночна-Заходняга края граф Мураўёў-Вешальнік паведаміў, што два мае́ землякі б'юцца ля ўваходу, я спярша не паварухнуўся — па-расейску ж я разумею слаба, можа, гэты граф нешта іншае меў на ўвазе… Але тады расеец паўтарыў на старaславянскіх жэстах. Кінуў я недапіты мёд на барную стойку і кінуўся да выхаду. Якім іншым разам я б на гэтую бойку проста плюнуў, але толькі не цяпер. Перад іншаземцамі, ведаеце, няёмка… Нават калі тыя іншаземцы — нашыя вешальнікі.

Прыбягаю — сапраўды непрыемная сцэна бойкі двух, як бы сказаў граф, аднафамільцаў, Адама і Кастуся. Б’юцца на жывот — або пан, або спадар. Высвятляецца, у сумежным памяшканні дыскатэкі «Арыён» у маральных аўтарытэтаў якраз праходзіў свой невялічкі тысячагадовы сход, на якім павінны былі прыйсці да адзінай думкі па будынку новай Нацыянальнай бібліятэкі — ці ён вельмі прыгожы, ці ж ён проста прыгожы. А паколькі ў маральных аўтарытэтаў адной думкі быць не можа, дык прыязнай, дэмакратычнай атмасферай, уласцівай нашай вечарыне былых валадароў дзяржавы, на тым сходзе і не пахла.

І вось, рыхтуючыся да хука ў Кастусёва левае вока, Адам гэтак тэатральна мне кідае:

— Пакіньце, пане Усяславе, гэтую спрэчку славян міжсобку.

— Э, не, не пакіну! — загарачыўся я і гайда задзіраў разнімаць.

Ледзьве даў рады.

— Што не падзялілі? — пытаюся, задыханы, і ўжо ўладальнік пары файных ліхтароў пад вачыма. — Бо паводле моцы ўдараў бачу, што тут не нацбібліятэка прычынаю, гэта нешта асабістае.

Міцкевіч, які Адам, кажа:

— Я тут паэму стварыў «Пан Тадэвуш, ці Апошні наезд на Літве» — тры гады, між іншым, працаваў, — і пачаў яе такімі словамі:

*«Літва, мая Айчына! Ты нібы здароўе:*
*Цябе той цэніць, хто ўжо страціў!»…*

І потым Адам запытаў:

— Хораша ж, га?

Я кіўнуў на знак згоды.

— А гэты паўтарака напісаў сваю паэму і скраў у мяне гэтыя радкі…

Але тут у гутарку ўмяшаўся Міцкевіч, які Кастусь:

— Я б гэтаму чалавеку не верыў, спадар Чарадзей. Нейкі двурушны. Нават чатырохрушны. Кажа, з аднаго боку, што літвін, з другога ж — піша па-польску, а з трэцяга боку ўслаўляе шляхцянскую Літву, якая з чацвертага боку насамрэч з’яўляецца Беларуссю.

— Але ж ты мой уступ прысабечыў! — не сунімаецца Адам.

— Так, я зрабіў уступ да маёй паэмы «Новая зямля»:

*Мой родны кут, як ты мне мілы!*
*Забыць цябе не маю сілы.*

І нечым ён, прызнаюся, падобны да Адамавага. Аднак у мяне ўсё празрыста і шчыра: гэтыя радкі я, беларус, напісаў па-беларуску, і што характэрна, напісаў пра Беларусь, якая, як вядома, Беларусь і ў Афрыцы.

— Э-э, пачакайце, пане Усяславе, не ўсё так з гэтым паэтам зразумела, не такі ён празрысты, як кажа, — схамянуўся тут ужо Міцкевіч, які Адам. — А ці ведаеце вы, што ён толькі па пашпарце Кастусь Міцкевіч, а насамрэч яго ўсе клічуць Якубам Коласам?

І зноў мне давялося разнімаць літаратараў. Калі яны, убачыўшы мае іклы, трохі супакоіліся, я, пачухаўшы патыліцу, зазначыў:

— Хлопцы, нашто вашыя сваркі і звады, калі я прыдумаў для вашых паэмаў агульны, камбінаваны ўступ. Вось паслухайце:

*«Мой родны літ, як ты мне пільны!*
*Цябе той цэніць, хто ў Вільні!»*



Міліцыя занесла кактэйль-вечарыну ў гонар былых валадароў дзяржавы ў свой чорны спіс злачынных месцаў, а ўчастковы стаў завальваць гарвыканкам афіцыйнымі просьбамі аб яе закрыцці праз крымінагенную небяспеку.

Зрэшты, убачыўшы, што вечарына ператварылася ў чарговае абы-што, яе арганізатар, немалады мужчына ў акулярах на паўтвару з вельмі тоўстымі шкельцамі, зрабіў з яе ціхі малочны бар для былых валадароў-дзяцей.

Цяпер, сустракаючы адзін аднаго ў стрэмных падваротнях часава-прасторавага кантынуума, беспрытульныя былыя валадары дзяржавы па-сяброўску паляпвалі адзін аднаго па плячы і казалі: «Вось, Гедымінавіч (ці Міронавіч), а памятаеш, як мы тады накактэйліліся? Ого!.. Толькі адно шкада, браце, — такую вечарыну развалілі!»

# РАЗДЗЕЛ 4. Развал СССР вачыма гісторыкаў XXIII стагоддзя



…Існаванне такой краіны, як СССР, што на цэлыя семдзесят чатыры гады XX стагоддзя разлягласе сваімі занебакрайнымі абшарамі, акрамя іншых мясцовасцяў, таксама на полацкіх землях, нарадзіла, шаноўны чытачу, у гісторыкаў ужо XXIII стагоддзя безліч пытанняў.

Напрыклад, праблема развалу Савецкага Саюза, а дакладней, існаванне самой фразы «развал СССР». Паводле падлікаў навукоўцаў, гэтая фраза настолькі часта сустракаецца ў тагачасных летапісах (на тадышняй мове — «прэсе»), ажно яна па частаце згадак на дванаццаць адсоткаў выпярэджвае саму абрэвіятуру «СССР»…

Не засталіся па-за ўвагай гісторыкаў аўдыё- ды відэалетапісы. Паводле іх, словы «развал Савецкага Саюза» тагачасныя людзі прамаўлялі ў сярэднім на 0,001 секунды хутчэй, чым уласна спалучэнне «Савецкі Саюз». Нават нягледзячы на тое, што апошняе словазлучэнне карацейшае за першае ажно на чатыры склады.

Адсюль гісторыкамі XXIII стагоддзя была зроблена наступная выснова: **«развал Савецкага Саюза», або проста «развал СССР», і ёсць больш звыклым словазлучэннем, і менавіта яно было сапраўднай назвай гэтай краіны.**

Менавіта з гэтае прычыны правільна трэба казаць «Зборная РСССР па футболе» і «Развал СССР — гарант міру і братэрства», правільна трэба пісаць «Развальная авіяцыя — самая надзейная авіяцыя ў свеце» і правільна трэба спяваць «Мой адрас не дом і не вуліца, мой адрас — Развал СэСэСэР».

У дадатак да гэтай тэорыі Карнэліюс Ціцька ў сваёй кнізе «Атлантыда, Эльдарада, СССР» (Полацак: выдавецтва «Скарынка», 2212 год) дапускае, што хутчэй за ўсё СССР (ці РСССР) спярша разваліілі, а потым заснавалі, з той логікі, што калі саветы казалі пра мір, дык неўзабаве абавязкова ў якую-небудзь краіну збройна ўрываліся, а калі падымалі на шчыт роўнасць і правы народаў, дык зазвычай каго-небудзь з гэтых народаў высылалі туды, дзе Макар цялят не ганяў. «Такім парадкам, — парадаксальным чынам высноўвае К. Ціцька, — савецкія ўлады, кажучы пра заснаванне самай справядлівай краіны ў свеце, развалілі яе яшчэ ў зародку».

Аднак навуковыя колы XXIII стагоддзя адкінулі гіпотэзу Ціцькі, часткова праз ягонае смешнае імя і прозвішча, а часткова — праз па-

пулярную ў тым стагоддзі Тэорыю Зачараванага Кола (іншая назва — Дзірка-Бублікавая Гіпотэза), паводле якой цягам сваёй кар'еры любы палітык з невядомых гістарычнай навуцы прычынаў лічыць за гонар паспрабаваць адрадзіць (ці на благі канец — разваліць) які-небудзь СССР, і таму гэтую дзяржаву на працягу гісторыі ў розных частках планеты адраджалі (і развальвалі) бясконцую колькасць разоў. З гэтага вынікае, што абсалютна няважна, што было спярша, заснаванне ці развал, бо любому развалу СССР папярэднічала нейкая больш ранняе яго заснаванне, а любому заснаванню — яго развал на іншым, больш раннім вітку гісторыі.

На жаль, тэорыі гісторыкаў XXIII стагоддзя так і засталіся ўсяго толькі тэорыямі, якія немажліва ані даказаць, ані адпрэчыць. Рэч у тым, што XXIII стагоддзе кішма кішыць усялякімі карыснымі прыстасаваннямі — такімі, як нанашчотка для пупка і саманаводная бензапілка для пазногцяў. А ўсе гэтыя прылады не толькі істотна палягчаюць жыццё чалавецтву, але ў дадатак уганяюць тое чалавецтва ў стан гультаяватай апатыі. І вось менавіта праз гэтую невыносную лёгкасць быцця ў XXIII стагоддзі чалавецтва да таго зленавалася, аж-

но ўжо ніхто ў тыя часы не выходзіць на вуліцу, а гэта для гісторыкаў прыкрая загана, бо ніводзін з іх за сваю навуковую кар’еру, каб спраўдзіць ці зняпраўдзіць сваё чарговае геніяльнае дапушчэнне, так ні разу і не адведаў ніводнай машыны часу, усталяванай, між іншым, ва ўсіх вялікіх райцэнтрах рэспублікі на галоўнай плошчы на пастаменце перад будынкам райвыканкама.

Менавіта з гэтае прычыны, дарэчы, большасць гісторыкаў XXIII стагоддзя перакананая, што папулярная ў канцы XX стагоддзя фраза «Якую краіну развалілі» з’яўляецца пытальным сказам…

Аднак, зноў жа дзякуючы аднаму з захаваных пастоў майго сябра Усяслава Чарадзея, гэтага ўсюдыіснага сведкі ці не ўсіх вядомых эпох, мы можам з упэўненасцю сказаць: парадак менавіта такі — спярша СССР быў заснаваны, а потым яго развалілі.

І развалілі жахлівым чынам…

## Блог Усяслава Чарадзея. Пост № 20, у якім Усяслаў Чарадзей робіць намаганні прадухіліць развал СССР і даведваецца пра ваўчыныя законы гісторыі

Гэта ўсё Шушкевіч вінаваты.

Нарэшце я вярнуўся ў Полацак на перабыўку: акунуўся я ў такі мілы сэрцу полацкі побыт — ем рукамі і сплю з мечам. І тут пасярод гэтых (сярэдня)вечных каштоўнасцяў урываецца да мяне ў палаці паэт Баян, здарожаны, з будучыні. Твару няма. «Падгледзеў я ў будучыні, княжа, — галосіць, — як у Белавежскай пушчы трое славянскіх мужчын вялікую імперыю развальваюць! Якая, дарэчы кажучы, і на нашай тэрыторыі разляглася!»

Ну, што паробіш — трэба ратаваць спадчыну, якая нам ад праўнукаў

спакон вякоў засталася. Я на скорую лапу сабраў ваўчыную зграю з Міхалам і ВаДзікам на чале, а таксама полк драпежных вавёрак — і гайда па часе і прасторы, імперыю ратаваць. У часе мы якраз хутка дабраліся — селі сабе ў машыну часу і тут як тут, а вось у прасторы — гэта ж сур’ёзней: ад Полацка да Белавежскай пушчы цэлых 600 кэмэ на сваіх чатырох трэба шкандыбаць!

Урэшце я з ляснымі братамі (і з языком на плячы) дабег да вёскі Віскулі і ўварваўся ў паляўнічы дамок. Бачу траіх — падбег да самага інтэлігентнага і загырчаў на вуха:

«Не развальвай эСэСэСэРу — ён і нашая імперыя таксама!»

— А мы ўжо ўсё развалілі, — радасна адказвае мужчына.

— Як жа так?! У нас жа цяпер не будзе мора, — забедаваў я.

— Ну і што? — абыякава кажа мужчына.

— А тое, што выхад да яго — першая прыкмета нармальнай імперыі, — кажу.

— Ды не пераймайся ты, княжа, — ёсць у нашай рэспубліцы мора, — гне на свой капыл мужчына, якога іншыя два мужчыны Станіславам Станіслававічам клікалі. — Мінскае называецца.

— Ды ведаю я вашыя БээСэСэРаўскія моры, — адмахнуўся я. — І максімум, куды гэтае Мінскае мора выходзіць, — гэта ў Вілейскае вадасховішча. А хочацца ж марскога прасцягу, армады ладзей, замарскіх трафеяў урэшце. А якія трафеі можна ўзяць у вілейцаў? Маласольныя гуркі і вешанкі?

— Як жа так увогуле сталася, — кажу яшчэ, — што няма нармальнага мора? Калі я Вітаўта адведваў, які пасля мяне праз 250 гадоў жыў, дык той мяне запэўніваў, што ў будучай нашай дзяржаве ўсё з гэтым добра — выхад да мораў гарантаваны… Балтыка і бурштын Беларусі…

— Як бы табе, венцаносец кашлаты, усё разумна ды на рэаліях знаёмай табе дзікай прыроды патлумачыць? — чухае патыліцу

Станіслаў Станіслававіч. Пасля паўзы ён дадаў:

— На дадзеным гістарычным этапе мы не вялікія і зубастыя, а маленькія і пухнатыя. І атрыманне незалежнасці з адначасовай стратай выхадаў да ўсіх мораў — гэта не тое, што мы, карасі, аднаго смачнага чарвячка злавілі, а другога з уласных зубоў праз недагляд выпусцілі, гэта тое, што ў кракадзілаў з нашай рэчкі раптоўны прыпадак карыесу здарыўся. Не да нас драпежным захопнікам першы раз за чатырыста дваццаць два гады зрабілася. Вось такія вось ваўчыныя законы.

Карацей, выйшаў я з паляўнічага дамка і моцна засмуціўся. Якую краіну развалілі! І адкуль, скажыце, у Белавежскай пушчы кракадзілы? І чаму яны жывуць паводле ваўчыных законаў?

**P. S.** І чаму першы раз менавіта за 422 гады? Што за 1569 год такі? Што тады адбылося?

**P. P. S.** Хто ў часы БССР скраў крыж маёй унучкі Еўфрасінні?

* * *

Жудасны быў канец СССР, шаноўны чытачу. У цэлым гісторыкі XXIII стагоддзя — а 99,9 адсоткаў з іх складаюць веганы і 0,01 — вегетарыянцы — вельмі-вельмі негатыўна ацэнваюць развал Савецкага Саюза, азмрочаны пачварным дрэвацыдам і гнюсным зверацыдам. Справа ў тым, што паводле шматлікіх сведчанняў, кіраўнікі Беларусі, Украіны і Расіі ў Белавежскай пушчы ля вёскі Віскулі сярод лясоў і балот, замест таго каб ціха-мірна віламі па вадзе ці на скрайні выпадак на электронных планшэтах падпісаць акт аб спыненні вялікай дзяржавы, зрабілі гэта на сапраўднай паперы (!) ў 3-х (!!!) экзэмплярах, загубіўшы пры гэтым 1/3 (!!!!!!!!!) бярозы. У дадатак, перад тым крыважэрная троіца яшчэ схадзіла на паляванне, падчас якога ад рук найвышэйшых дзяржаўных службоўцаў па-пакутніцку загінулі тры ні ў чым не вінаватыя жывыя істоты: дзве качкі і адзін дзік. Вось сапраўды, Імперыя Зла, шаноўны чытачу!

## Блог Усяслава Чарадзея. Пост № 17. Пра тое, што часам чарніла ≠ атрамант

эта ўсё нелегальны перагон машын часу вінаваты. У мяне пастаянна пытаюцца, нашто я завёў блог. Адказваю: бо не давяраю прыдворным літаратарам увогуле і асабіста — паэту Баяну, шыбеніку і перагоншчыку машын часу. Часам у прыватным жыцці такое адпаліць, ажно за галаву хапаешся: што ж ты, партач і боўдзіла, у такім разе ў сваіх паэмах пішаш? Можа, выстаўляеш манаршую асобу перад нашчадкамі драпежным тыранам-недачалавекам?..

А яшчэ я папяровую версію блога завёў, бо з некаторых часоў дармавога чарніла ў мяне хоць заліся…

…З чарговай сваёй творчай камандзіроўкі ў паралельныя сусветы

і будучыя часіны, дзе, акрамя патрыманых машын часу, шукаў натхнення і таннага алкаголю, заскочыў да мяне зноў жа паэт Баян ды кажа:

— Давай, княжа, чарніла спажывём, я з аднаго паралельнага Барысава будучыні скрыню хвацкага чарніла прынёс…

— Рарытэт жа, княжа! — не адчапляецца ён. — Тадышнія барысаўцы, якія беларусамі называюцца, тое чарніла выпусцілі абмежаваным тыражом. Усяго ў адзін мільён экзэмпляраў.

Добра, кажу, атрамант дык атрамант.

— А які гатунак спажываць будзем, — не адстае Баян, — «Крыжачок», «Букет восені» ці «Рагнеду пладовую»?

— Вядома, «Рагнеду», — кажу, — бо, перш за ўсё, яна мая прабабка была. І ейны сынок Ізяслаў у перапынках паміж

сваркамі са сваім бацькам, Уладзімірам Ясным Сонейкам, словам перапісаным цікавіўся. Я ўжо не кажу пра сваю ўнучку Фросю, якая не хоча жаніцца, а хоча вучыцца, усё нешта піша, піша, піша. Таму я за «Рагнеду» дзвюма лапамі, то бок, э-э… рукамі.

— За што я цябе люблю, княжа, — кажа Баян, — ты ж пад любую забаву ідэалагічны падмурак падвядзеш.

— А што мы будзем з дапамогай гэтага чарніла тварыць? — запытаўся я.

— Ды што захочам. Можам з дзеўкамі ў карчму зашыцца, можам нямецкі гандлёвы дом абрабаваць і спаліць, ці якіх полаўцаў на Балтыйскім тракце знайсці і без дай прычыны дачапіцца.

І гэтак, усміхаючыся і балбочучы, лінуў сабе паўбутэлькі чарніла ў глотку!

— Што ж ты, пёс ад літаратуры, — крычу, — робіш? Ты нашто чарніла хапіў? Нам што, цяпер у твой рот пяро мачаць?

— Княжа ты мой, у паралельным Барысаве будучыні чарнілам не пішуць — яго тамака п’юць! — пракаўтнуўшы вадкасць, адказаў Баян.

— Я чарніла піць не буду, — запратэставаў я. — Гэта як найменей антыгуманна ў дачыненні да маёй чалавечай іпастасі, а дакладней пячонкі гэтай іпастасі.

— Можа, княжа, піць чарнілы і антыгуманна, — адказаў Баян, — але ж мільён беларусаў не можа памыляцца!

І што? Урэшце кожны пры сваім застаўся — Баян пад плотам адпачывае, а я вось пішу гэтыя радкі падораным чарнілам. Літару «Г» у пачатку паста бачылі? Гэта мой улюбёны гатунак чарніла з будучыні, «Рэнесанс моцнае» называецца.

# РАЗДЗЕЛ 5. Піяр-агенцтва «Чара дзей»



У сваім папулярным даведніку «Усе беларускія адраджэнні» гісторыкі XXIII стагоддзя сыходзяцца ў думцы, што наяўнасць свойскіх сонца і месяца, якія красуюцца пад сталом у паліграфічным цэху Францішка Скарыны (здымак невядомага фатографа XV ст.), падмацоўвае гіпотэзу пра спрыянне зорак першадрукару.

Адкуль такая пэўнасць? Бо гэтыя два свяцілы страшэнна дарагія. Выгадаваць у нанацяпліцы сонечную сістэму (нават партатыўных памераў) нават у XXIII стагоддзі каштуе астранамічнай сумы і некалькіх гадоў чакання

ў чарзе перад нанацяплічным камбінатам. Толькі напраўду заможныя людзі, якія маюць ста́лы, шматгадовы поспех, могуць дазволіць сабе падобную раскошу. «Дык што тады казаць, — рытарычна пытаюцца гісторыкі XXIII стагоддзя, — пра ўзровень коштаў на такую элітарную паслугу ў XV стагоддзі?»

У тыя часы рэдка хто мог дазволіць сабе свяціла, бо сапраўды заможных людзей былі адзінкі. У сваім трактаце гісторыкі XXIII стагоддзя падаюць прыклад геніяльнага Леанарда Да Вінчы, які вынайшаў падводную лодку і верталёт, дык еўрапейскім урадам спатрэбілася ажно 400 гадоў, каб назбіраць грошай на гэтыя, па сутнасці, капеечныя праекты!

У процівагу Скарыну, які ў далёкія 1510-я гады меў сродкі ажно на два свяцілы, у 10-я гады XX стагоддзя адзінае выдавецтва чарговага беларускага адраджэння бярэ сабе красамоўную назву «Загляне сонца і ў наша аконца». «У гэтай назве, — зноў сцвярджаюць гісторыкі XXIII стагоддзя, — яскрава адлюстроўваецца няўпэўненасць тагачасных адраджэнцаў і рэнесансаўцаў у сваёй моцы назбіраць мінімальнае фінансаванне з боку дзяржавы і прыхільных фундатараў

нават на адно-адзінюткае партатыўнае свяціла». Ды і то, гаворка ідзе не пра персанальнае беларускае сонца, якое было б унутры выдавецкага памяшкання (а фірма, якая набывае такое сонца, прымае на сябе абавязкі па забеспячэнні гэтаму сонцу годных заходаў і ўсходаў), а ўсяго толькі пра грамадскае, тое, якое свяціцьме звонку, ды якое праз вокны трэба будзе дзяліць з іншымі менскімі насельнікамі.

У паслямове свайго даведніка гісторыкі XXIII стагоддзя задаюць сабе і чытачам шчымлівае пытанне: «Дык што, знакам тым, у нашай краіне і культура і навука з цягам гадоў робяцца толькі горшымі, бо ўсе папярэднія адраджэнні былі шыкоўнейшыя і маштабнейшыя за наступныя?»…

Увогуле пытанні кшталту «Чаму калісь было добра, а цяпераканевельмі?», «Чаму раней было ВКЛ, а цяпер суцэльны ВЫКЛ?», «Чаму даўней вада была макрэйшая, трава — зялянейшая, а марская капуста — і тое і тое адначасна?» вярэдзілі не толькі гісторыкаў XXIII стагоддзя. Разам з келіхам чаго-небудзь моцнага былыя валадары дзяржавы таксама не аднойчы падымалі гэтую пякучую праблему цяперашняга заняпаду крывіцкай цывілізацыі ў параўнанні з яе

колішняй веліччу (чаго, дарэчы, з імі ніколі не адбывалася, калі яны былі дзейнымі валадарамі).

У той дзень на кактэйль-вечарыне ў гонар былых валадароў дзяржавы супала ўсё-ўсенькае: і пятнічны вечар, які папярэднічаў доўгім выходным, і «Крамбамбуля пярцовая», з няўважлівасці забытая на разтурзанне венцаносным дэгустатарам каралём Панятоўскім (яму якраз прынеслі благую вестку пра трэці падзел Рэчы Паспалітай), і недаравальная колькасць гэтай самай «Крамбамбулі» (дзве скрыні). Так ці інакш, аднак пасля восьмай-дзясятай чаркі былыя валадары пастанавілі прыняць мемарандум «Аб залатой эпосе», дзе былі наступныя пункты:

а. Мы, былыя валадары нашай любай Бацькаўшчыны, вялікія князі літоўскія і рускія, каралі польскія, губернатары заходнекрайнія, сакратары бэээсэсэраўскія і прэзідэнты эрбэшныя, склікаўшы ўсе свае сілы і загукаўшы ў сведкі Усявышняга і натарыуса, з усёй адказнасцю паўнамоцна заяўляем, што раней было лепей.

б. Мы, былыя валадары нашай любай Бацькаўшчыны, вялікія князі літоўскія і гэтак далей, з усёй катэгарычнасцю, дадзенай нам ад

Усявышняга і кепскіх манер, на ўвесь белы свет заяўляем, што так далей нельга.

в. Аднак Мы, былыя і г. д., вялікія і г. д., з усёй і г. д., не прызнаёмся ў тым, што наша дзяржава ёсць незаможнай усходнееўрапейскай краінай з невысокай працягласцю жыцця, — гэткім ёсць толькі яе цяперашні імідж у вачах суграмадзянаў і замежнікаў, негатыўны і згубны, які падлягае выпраўленню і карэкцыі.

Дата, подпісы.

Потым былыя валадары дружна пастанавілі, што паляпшаць імідж дзяржавы ў вачах суграмадзянаў і замежнікаў трэба на прафесійнай аснове, і што адказным за пазітыўны імідж нашай краіны павінен зрабіцца не хто іншы, як Усяслаў Чарадзей і я, ягоны сябра.

Нападпітку расшчадрэлыя экс-валадары нават вылучылі нам бюджэт — неразменны талер, а таксама сёе-тое для службовай машыны часу: гербавы нумар 0002 МІ-7 і 400 літраў саляркі.

* * *

За падвышэнне іміджу мой кашлаты сябар узяўся з нечуваным імпэтам. Абсалютна натуральным чынам ягоны позірк насамперш скіраваўся ў мінулае. І гэта лагічна: усё, што трэба зрабіць, калі ты, шаноўны чытачу, маючы ў сваім распараджэнні машыну часу, хочаш пазбыцца напаткалай цябе няўдачы, скажам, на ўступных экзаменах у ВНУ, — гэта вярнуцца назад у часе і парваць школьны атэстат на дробныя шматкі. Гарантавана: гэтым учынкам ты стоадсоткава пазбавіш сябе ад будучага правалу на прыйманні ва ўніверсітэце.

Усяслаў Чарадзей гарэў жаданнем унесці праўкі ў старадаўнія дакументы, каб зрабіць Тураў старажытнейшым за Трою, а падняпроўскую цывілізацыю — роўную векам міжземнаморскай ці нават міжрэчанскай. Яму карцела прызначыць старадаўніх палачанаў адказнымі не толькі за насып кургуноў, але і за пабудову пірамідаў.

На пачатку, выправіўшыся ў сівую мінуўшчыну, Усяслаў вёў агітацыйныя гутаркі з уплывовымі людзьмі, выбітнымі гісторыкамі мінуўшчыны, Герадотам і Ёсіфам Флавіем.

Аднак ужо з першым навукоўцам Усяслаў не сышоўся ў памерах мора, якое паводле звестак навукоўца колісь разлівалася на абшарах Беларусі. Усяслаў настойваў, каб Герадот занатаваў, што тое мора ўсё ж дзе-нідзе адступалася, разрывалася, утвараючы ў розных абласцях нашага краю выспы і нават архіпелагі, то бок Усяслаў напінаў, каб гісторык пакінуў сухой тэрыторыю, дзе і расквітнела б старадаўняя прыморская цывілізацыя крывічоў. Аднак Герадот, гэты ўпарты аквафіл і заўзяты аграфоб, з грэцкай грунтоўнасцю на старонках сваіх сачыненняў залівае сваім морам усю Беларусь дарэшты, гэтак, па сутнасці, даючы ў будучым права выжыць на нашай тэрыторыі толькі адной цывілізацыі, Атлантыдавай, і расквітнець толькі адной расе, іхціяндравай. Безумоўна, гэтыя выкладкі прыйшліся Чарадзею не даспадобы, і ён абвясціў усё Герадотава мора — плёткай наравістага дзеда, а не гістарычным фактам, здабытым навукоўцам.

Што ж — вольнаму воля, шалёнаму поле (даследаванняў). Калі шчыра, дык Чарадзей як чалавек з багатай фантазіяй акурат мог спакойна ўявіць заліты вадою Полацак, бо пры любых раскладах высозныя купалы ўзведзенай ім Сафіі ды гонкія вежы ягонага княскага

палаца павінны былі трыумфальна і красамоўна вытыркацца па-над занебакрайнымі абсягамі Герадотава мора. З гэтае нагоды князь у думках нават пераназваў Полацак у Сармацкую Венецыю. Аднак ужо Чарадзей-воўк не змог змірыцца, што цяпер у падводнай Полаччыне замест смакоцця ляснога корму яму давядзецца жывіцца цэлай плоймай няўежных морапрадуктаў: марскімі коцікамі і вожыкамі.

Другім апісальнікам гераічнага паўставання полацкай цывілізацыі мог стацца рымскі гісторык Ёсіф Флавій, аўтар «Юдэйскіх войнаў». І не стаўся.

«Ці нельга перанесці месца акта калектыўнага самагубства габрэяў на патрыятычнай глебе ў 73 годзе н. э., якія адмовіліся падпарадкавацца зненавіднаму рымскаму панаванню, з ізраільскай гары Мацады на Замкавую гару ў Полацку? — цікавіўся Усяслаў Чарадзей у старажытнага гісторыка, седзячы на каменнай кушэтцы ў ягонай рымскай гасподзе. — І ці можна пры гэтым гераічных габрэяў замяніць палачанамі, а паганых рымлянаў… скажам, напрыклад,

дапусцім, кіеўцамі? І ці можна тых дзёрзкіх і адважных палачанаў не ўсмерчваць да смерці?»

Ёсіф Флавій адмовіўся. Ён прамямліў нешта кшталту таго, што ў адрозненне ад габрэяў, якія могуць дазволіць сабе даваць ганьбу і грэкам, і вавіланянам, і рымлянам (а ўсе тыя народы зніклі ці маюць знікнуць неўзабаве), палачанам, якім яшчэ доўгія стагоддзі давядзецца пражываць у атачэнні кіеўцаў і ноўгарадцаў, трэба быць усё ж больш дыпламатычнымі ў выказваннях.

Але ж насамрэч прычына адмовы палягала ў тым, што Ёсіф Флавій, габрэй з паходжання, быў пакрыўджаны на Усяслава Чарадзея, бо аднёс полацкага князя да ліку ўсіх тых хрысціянскіх манархаў XI стагоддзя, якія — як прачытаў гісторык у прывезеных яму з будучыні кніг — падтрымалі разбуральны для Зямлі Ізраіля Першы крыжовы паход у 1096 г.

І гэта нават нягледзячы на тое, што Усяслаў, у сваю чаргу, нагадаў Ёсіфу — а ягоныя словы маглі пацвердзіць і гістарычныя крыніцы, і ягоныя пасты ў блогу, — што Полацак застаўся ці не адзіным еўрапейскім каралеўствам, якое не падтрымала рабаўнічага рушэння тадыш-

## Блог Усяслава Чарадзея. Пост № 4.
## Пра ерусалімскія грыўні і паход на Святую Зямлю

Гэта ўсё нястача заморскай валюты вінаватая. Звязаліся са мною з прыёмнай папы Урбана II: ці не хочаце, шаноўны княжа, далучыцца — арганізуецца першая турыстычная крыжовая паездка на Святую Зямлю па святых мясцінах заадно з вызваленнем Ерусаліма ад егіпецкага султана. І Міхал кажа: «З'ездзіш урэшце на поўдзень адпачнеш, паганцаў мечыкам пасячэш — спортам зоймешся». Падумаў я: а чаму і не? Сядзіш тут поседам у полацкіх балотах, а там пясочак, мора, узоры раннехрысціянскага дойлідства, шаўрма, рахат-лукум. Зноў жа які шахер-махер з недабітымі персамі вытанцуецца.

Перад выхадам намысліў я запасціся ерусалімскімі грыўнямі. Кінуўся сюды, кінуўся туды, і што высвятляецца? НЯМА! Нідзе. Ні ў кога. Ані грывенькі! Прыехаў у Кіеў да тамтэйшых мянял: што такое?

«У іх там, у паганцаў, — кажуць кіеўскія мянялы, — як заўсёды глыбокі крызіс каштоўнасцяў і бунт».

Пачухаў я патыліцу: што я, той, хто чаканіў свае ўласныя грыўні, не здолею накаваць нейкіх там ерусалімскіх?» Вярнуўся ў лес, даверыў усю справу зайцу — паказаў тэхналогію коўкі, даў коштметалаў. З новымі накаванымі ерусалімскімі грыўнямі вярнуўся ў Кіеў. Але, на маё здзіўленне, кіеўскія мянялы з дазволу гарадскога веча мяне тут жа ў астрог здалі. Я, вядома, спрабаваў абараніцца сваёй княжацкай недатыкальнасцю, але тыя запярэчылі: «Нам пляваць, князь ты ці не — тут табе не Полацак, падробка грошай караецца ў Кіеве па законе, які ты сам, княжа, і прыняў».

Давялося прыкінуцца вытрыбушанай ваўчынай скурай і бачком-бачком, па падлозе, у лес шмыгануць.

Сустрэў зайца, кажу: «Слухай, вушасты, ну нельга грошы — нават ерусалімскія — на свой, звярыны, розум рабіць: з выявамі вавёрак,

зайцаў, баброў і ласёў! Не, праўда, зая, лапу на сэрца: дзе, у якой краіне ты такія грошы са звярамі бачыў?»

…Вось так я ў аздараўленчы паход у Палесціну не пайшоў. Я ўвогуле цяпер лічу: калі дзе на поўдні адпачываць, дык не варта ў Кіеў ці Ерусалім шчаміцца, не трэба далей за Палессе ад’язджацца. Эх, Палессе — тры цудоўныя П: поўдзень, Прыпяць і пясочак.

**P. S.** Я яшчэ верш напісаў. Пра цяжкую працу полацкіх фальшываманетчыкаў і, вядома, пра сябе, каханенькага:

*…Куе, забыўшыся, рука*
*Заміж персідскага ўзору*
*Свайго любімага ваўка.*

* * *

Так, шаноўны чытачу, гісторыкі і героі мінулага выявіліся досыць апантанамі суб'ектамі, якія не прымалі рэвалюцыйнага мыслення полацкага валадара. Візіт нават у недалёкае мінулае рабіўся выпрабаваннем аптымізму і талерантнасці майго сябра. Як у той размове з Кірылам і Мяфодзіем…

## Блог Усяслава Чарадзея. Пост № 15.
## Пра сустрэчу з Кірылам і Мяфодзіем

Гэта ўсё «˘» вінаватае.

*Ты слухай, паслухай, таварыш і брат,*
*Годзе наперад, падайся назад!*

Гэта я такі вершык склаў, бо колькі можна па будучыні валэндацца, трэба ж і па мінулым прашвырнуцца — памяняць сёе-тое, каб потым усім нам выгод і шанцунку падваліла.

Скокнуў я на пару стагоддзяў назад, у 863 г., да Кірылы і Мяфодзія: прасіць, каб яны ў сваім алфавіце над «у» чупрынку паставілі (і гэтак нам, палачанам, павагу далі).

Братоў-манахаў я заспеў у тагачасным іхнім маленькім, 2×2, шрыфт-дызайнерскім офісе: яны толькі што грант ад візантыйскага патрыярха на распрацоўку азбукі атрымалі і нешта насупраць байніцы ўжо керпалі. Паглядзеў Мяфодзій на маё ваўчынае аблічча і кажа: «Я ведаў, што палачане не толькі славяне, але і балты, але цяпер бачу, што яны ў дадатак і асобы валасатай нацыянальнасці».

— Браты! — перапыніў яго я. — Напрамілы Бог, дайце нам літару «ў» адразу, а то мы яе толькі праз тысячу гадоў, у 1860-х, вынайдзем. Яна ж нам пазарэз трэба — адметнасць нашую дэманструе.

Кірыла кажа:

— А ну, палачанін, каб мы ўбачылі тваю патрэбу, паўўкай!

— Ў-ў, — заскавытаў я. — Ў-ў-ў!.. ПайшоЎ, убачыЎ, пераадолеЎ.

— Непераканаўча, — кажа Мяфодзій.

— ПапіЎ кроЎ! — дадаў я і паказаў сваю ваўказубую ўсмешку. — Бо зусім без тармазоЎ!

Але Мяфодзій спрытна выцягнуў з-пад лавы двухручны меч.

— Ўўкаеш ты як мае быць, — сказаў ён, млява памахваючы мячом перад маім носам. — Аднак нешта нехуць нам.

— Браты-балгары! — ужо прымірэнча папрасіў я. — Дайце «ў» — страх як хочацца свайго, непаўторнага, адметнага. «Ў» — гэта тое, што нас аб’ядноўвае і робіць унікальнымі.

— Разумееш, палачанін, такая справа, — кажа ўжо Кірыла, які ледзьве ўхіліўся ад братавых піруэтаў з мечам. — Мы дзяржзамову ад візантыйскага патрыярха атрымалі — зрабіць азбуку для ўсіх без выключэння славян. І што гэта будзе, калі адзін славянін замест «и» будзе лацінскую «і» пісаць? Ці другому славяніну над усімі тымі «ї» увогуле па другой кропцы расставіць захочацца,

або ён «є» ва ўсе бакі злачынна круціць стане? Ці трэці нахаба ўвогуле na łacinski šryft piarojdzie? Дзе ж тады адзінству славянскаму быць?

— Ну, толькі не трэба фанатычнымі шрыфт-дызайнерамі прыкідвацца! — абурыўся я. — Вы ж самі ад грэкаў процьму літар прысабечылі, а «ш» і «ц» увогуле з іўрыту сцягнулі!

І, ператварыўшыся ў чалавека, збег я на чатырыста пяцьдзясят гадоў назад да Месропа Маштоца, дызайнера армянскага алфавіта. Бо, можа, і нам, палачанам, якога-небудзь такога-разгэтага альфабэта згламэздаць?

**P. S.** Ինչէքկարծում?



Выйшаўшы з Усяслававага кабінета, дзе атрымаў прачуханку ад шэрага за тое, што ў справаздачы пра медыйныя дывідэнды ад паўстання Тадэвуша Касцюшкі назваў душыцеля Суворава «нашым слаўным палкаводцам», сутыкнуўся я, шаноўны чытачу, з Чорнай Паннай Нясвіжа. Ну, не тое што сутыкнуўся — проста Чорная Панна, адстаронена гледзячы некуды ў далячынь, прашпацыравала напрасткі скрозь мяне. І нават нягледзячы на тое, што істота яна бясплотная, я ўсё роўна адчуў дакрананне.

Гэта называецца «фантомнымі болямі». У адрозненне ад людскога фантомнага болю (калі чалавеку шчыміць орган, якога больш няма) у саміх фантомаў фантомны боль абазначае з'яву крыху іншага кшталту.

Якую? Тлумачу. Паводле фантомаў, фантомны боль — гэта боль ад сутыкнення з фантомам. І той боль, натуральная рэч, адчувае не сам наляцелы на вас прывід (пасля смерці ён робіцца абсалютна нязздольнай да адчування істотай), а вы сам, калі сутыкаецеся з ім у доўгіх калідорах замкаў або, як у маім выпадку, пасярод офіснага калідора на Бернардынскай вуліцы.

І мушу вас запэўніць, гэтыя фантомныя болі часам бываюць досыць адчувальныя.

«Чаму ж гэта так, яны ж здані бясплотныя?» — запытаешся ты, шаноўны чытачу, здзіўлены навіне.

Адкажу. Справа ў тым, што $E=mc^2$ ніхто не адмяняў, ды любая энергія можа быць выражаная праз масу. То бок, нават тваё, шаноўны чытачу, здзіўленне ад сустрэчы з прывідам (а яно, без сумневу, ніштаваты выплеск нервовае энергіі) таксама будзе мець масавы эквівалент.

І вось маем: за тысячы гадоў сваёй эвалюцыі прывід навучыўся пераганяць энергію здзіўлення ў масу. Спярша ён, ушчэнт знуджаны сваімі беспрытульнымі бадзяннямі ў палацах і замках, рабіў гэтыя ператварэнні знарок, дзеля забавы. Ловячы ад чалавека, жывога насельніка палаца, здзіўленыя выгукі, ахі ды ўздыхі, прывід потым вяртаў іх у выглядзе слядоў на падлозе або гучнага тупату ці пранізлівага скавытання ў гулкіх калідорах.

Ад гэтых праяваў іншасвеччыны чалавек крычаў яшчэ мацней, і, як вынік, сляды рабіліся больш заўважнымі, а тупат — гучнейшым.

Прыгнечаны страхам перад невядомым, чалавек зусім выбіваўся са сну, пераставаў есці, піць, спаганяць з прыгонных нядоімкі, пачынаў бязмэтна туляцца па замкавых калідорах, тым часам як сам прывід, падсілкаваны чалавечай энергіяй здзіўлення і страху, квітнеў і праўнеў. Яго бясплотныя абрысы дзе-нідзе набывалі патрэбныя аб'ём і масу: у яго нават вымалёўвалася невялічкае пухкае брушка і з'яўлялася другое бясплотнае падбароддзе. Жонка чалавека пачынала блытаць, дзе здань, а дзе — яе сужонец, чым некаторыя прывіды, не вагаючыся, карысталіся.

Жыццё чалавека канчаткова ператваралася ў суцэльны кашмар, які, дарэчы, як мы цяпер ведаем, таксама мае свой масавы эквівалент. І замкнёнае кола фізікі фантомнага болю круцілася яшчэ шпарчэй.

На вялікае шчасце чалавека, па каторым часе прывіду, істоце ад прыроды няўстойлівай і нясталай учынкамі, абрыдаў і гэты занятак. Аднак стагоддзі раблення шуму і слядоў не міналіся бясследна, ды ператварэнне энергіі людскога здзіўлення ў масу зрабілася ў прывіда нечым кшталту несвядомага рэфлексу — абсалютна аўтаматычнага, часам нават некантраляванага дзеяння. Гэтае дзеянне, дарэчы, узмац-

няецца, калі здані хвалююцца або калі яны моцна засяроджаныя на нейкіх сваіх прывідных справах.

Вось і Чорная Панна, імкліва крочачы кудысьці, часам гэтак балюча наступала нам з Чарадзеем сваімі абцасамі на лапы, аж раз-пораз нам нават карцела самім сабе тыя лапы адсячы, каб абмежаваць сваё адчуванне толькі людской версіяй фантомных боляў. Гэта быў ужо трэці раз за сённяшні дзень, як Чорная Панна ўціснула мне лапку. Ну, далібог, колькі можна лунаць у надхмар'і і не заўважаць калегаў — мы ж робім у адным офісе!!

* * *

Цяпер, калі праца над іміджам краіны вымагала руплівейшага падыходу, пасля бясплённай гаварнечы з закасцянелымі і негатовымі да дыялогу патрыярхамі мінуўшчыны, з'явілася пільная патрэба ў актыўнай працы з таленавітай моладдзю будучыні, і мы, Чарадзей і я, і я, пасярод беларускай гісторыі, у Полацку на Бернардынскай вуліцы — ля саменькай Сафіі — заарандавалі ўтульны офіс, аформілі ў гарадской управе ўсе паперкі і адкрылі піяр-агенцтва «Чара дзей».

Купілі пісьмовыя стол і прылады, а таксама нанялі элегантную кемную сакратарку, Чорную Панну Нясвіжа.

У справаводстве Чарадзей настойваў на жаночай руцэ ды нават спярша хацеў прапанаваць вакантнае і пачэснае сакратарскае крэсла Кацярыне ІІ, паколькі перасоўвацца ў часе, апроч шчаслівых уладальнікаў машыны часу, могуць выключна былыя валадары дзяржавы, а сярод былых валадароў нашай дзяржавы з жанчын была, на жаль, толькі расійская імператрыца Кацярына ІІ, гарачая прыхільніца падзелу Рэчы Паспалітай. Але нават яна адмовілася быць нашай сакратаркай, бо якраз у той самы час іншыя колішнія падданыя Расійскай імперыі, украінцы, якія таксама ніколі не мелі за кіраўніцу жанчыну, стварылі падобную піяр-агенцыю па падвышэнні іміджу свайго краю і цяпер, таксама прагнучы ў сваім офісе жаночай рукі, зрабілі Кацярыне больш тлустую прапанову.

Так, шаноўны чытачу: нават сярод паняволеных народаў няма роўнасці.

Але тут сітуацыю з жаночым сакратарствам выратавала Барбара Радзівіл, Чорная Панна Нясвіжа, што выявіла ў сабе здольнасці беспрашкодна праходзіць не толькі праз сценкі будынкаў, але і часавыя

межы. Калі аднаго дня Чорная Панна з’явілася на парозе нашага офіса (хоць дзверы, дакладна памятаю, я ў той дзень замкнуў на два замкі), мы з Усяславам, убачыўшы лёгкую постаць, што лунала, рыхтык ратавальны анёл, адно нягучна енкнулі.

Чорная Панна выявілася выдатнай працаўніцай: акрамя справавога спрыту яна мела непараўнальны талент да змешвання напояў, магчыма, таму, што гэтага майстэрства яна глынула напоўніцу ад сваёй свякрухі, Боны Сфорцы.

І вось, Чорная Панна, мая цяперашняя каляжанка, не заўважыўшы мяне, пабегла скрозь далей. Калі яна ўсхваляваная, дык можа неўпрыкмет выбегчы за сценкі будынка і залунаць у паветры па-над Бернардынскай вуліцай. А што калі яе ўбачаць чаляднікі, ды яшчэ зробяць выснову, што эра паветраплавання шчасліва надышла? Усе ж кінуцца майстраваць крылы і прапелеры. Дык хто ў такім выпадку будзе гатаваць нам з Чарадзеем сняданкі, і дзе тады напасціся на пенсіі па калецтве для ўсіх гэтых чаляднікаў?

— Бася, вярніся! — крыкнуў Чорнай Панне Чарадзей, які выскачыў на калідор са свайго кабінета, пачуўшы мой нечалавечы крык

зайца, якому наступілі на лапу жаночым абцасам і якому пагражала адлучэнне ад пастаянных сняданкаў. — Што здарылася?

Высветлілася, што да нас завітаў першы наведнік — былы Басін муж, Жыгімонт Аўгуст.

Калі быць дакладным, дык першым наведнікам быў не Жыгімонт Аўгуст, а Францішак Скарына, які, па неймаверным супадзенні, здымаў офіс па суседстве і раз-пораз завітваў на аганёк. Але мы яго лічылі хутчэй суседам-назолам, чым паўнавартасным наведнікам. Вядома, першы раз, калі Скарына зайшоў да нас ды пацікавіўся, чым мы тут займаемся, мы сустрэлі яго як госця.

«Гуманізмам займаемся, пане Скарына, — коўдру на нашую краіну перацягваем», — пажартаваў Чарадзей. Потым, наліўшы пяцьдзясят «Крамбамбулі», па-панібрацку запэўніваў першадрукара, што пры першай жа патрэбе мы абавязкова скарыстаемся паслугамі ягонай друкарні, каб выдаць свае піяр-матэрыялы.

«Ну, зразумела, толькі, калі ласка, не обчи яким языком, але своим уласным», — казаў, куляючы кілішак «Крамбамбулі», улагоджаны Скарына, які выявіўся заўзятым патрыётам.

«Натуральна, пане Скарына, ды і абы-якімі мовамі мы і не валодаем», — у тон яму адказваў Чарадзей.

Аднак вернемся да нашага піяр-агенцтва «Чара дзей», маёй каляжанкі Чорнай Панны Нясвіжа і візіту Жыгімонта Аўгуста. Прываблены абвесткай пра адкрыццё піяр-агенцтва, Жыгімонт, чалавек імпульсіўны, падумаў, пэўна, што мы нешта накшталт вядзьмарскай гільдыі і сіламі магіі здолеем вярнуць ягоную жонку з замагільнага свету.

На вялікае нашае здзіўленне, Чорная Панна была якраз супраць узʼяднання са сваім былым мужам. Пачуўшы пра гэтую акалічнасць, Усяслаў заўшчуваў яе: «Ён жа твой муж і каханне ўсяго твайго жыцця! Пра вас жа легенды складаюць!»

— Муж абʼеўся груш, — бязлітасна адказала Барбара. — А дакладней, абʼелася груш я. Атручаных. Там, можа, ён і праўда каханне ўсяго майго жыцця, але ж цяпер маё жыццё — цю-цю, няма, а значыць і каханне тудысама.

І тут яна сарвалася на крык:

— Княжа, далібог, не хачу я да яго! Мне ж ён без патрэбы, як і я яму. Нашто жонка, калі ёсць мама, Бона Сфорца?

«І ўвогуле мне ў вас больш падабаецца, княжа, працаваць на карысць Бацькаўшчыны, паляпшаць імідж і ўсё такое», — дадала яна ціхім голасам.

На ейныя вочы нагарнуліся вялікія, як брыльянты ў Вітаўтавай кароне, слёзы.

Ад гэтага жалюгоднага і адначасна шчымлівага відовішча ў нас з Чарадзеем імгненна сапсаваўся настрой.

Але калі так падумаць, нашая засмучанасць ад слёз Чорнай Панны была фантомным болем у квадраце. Мяркуйце самі: душэўны, то бок эфемерны боль, які прычыняла нам істота, якой насамрэч няма.

Аднак Чарадзей адно буркнуў, што нешта ды прыдумае, і, зачыніўшы Чорную Панну ў канферэнц-залі, выйшаў да госця.

## Блог Усяслава Чарадзея. Пост № 24, у якім Чарадзея наведвае Жыгімонт Аўгуст

Гэта ўсё энцыклапедыі вінаватыя.

«Вялікі княжа, вы пераблыталі: я не ўсёмагутны чарадзей, я — У-ся-слаў Ча-ра-дзей, — сказаў я. — І гэта, як кажуць у Херсанэскім Ханстве, — тут я падняў палец угору, — дзве вялікія розніцы.

Перада мною стаяў, а дакладней, лунаў у паветры малады чалавек, што прасвечваўся быццам тонкая бялясая свечка.

Я дадаў:

— Бо Чарадзей тут — не род заняткаў, а мянушка, фактычна прозвішча. Колькі ўжо мне трэба пазначаць у летапісах для

нашчадкаў, што асноўная і адзіная мая праца — кіраваць княствам. Я на дзяржаўнай службе, кіраўнік гаспадарства — такі самы, як і вы, спадар Жыгімонт Аўгуст. Я не нейкі там чарнакніжнік на паўстаўкі. І я, тэарэтычна, тое-сёе, вядома, у чарадзейнай галіне магу згламэздаць, але на практыцы толькі ў ваўка калі-нікалі ператвараюся. А дух вашай жонкі, Барбары Радзівіл, я пагатоў не выклічу. Часткова бо не ўмею, а збольшага бо не хачу і не маю часу.

— Але, княжа, злітуйся, — гугнявым голасам заскуголіў Жыгімонт і зрабіўся яшчэ больш празрыстым, нагадваючы цяпер вялізную пляму сіліконавага клею. — Дзе твая салідарнасць? Ты ж таксама нешта кшталту прадстаўніка замагільнага свету.

— О не, аўгусцейшы Жыгімонт і жыгімонтны Аўгуст! Давайце катлеты асобна, а мухі асобна. Я ў адрозненне ад вас не прывід, які памёр, а просты жывы ваўкалак, які падарожнічае ў часе.

— Але мне абяцалі чарадзея, які выкліча маю Басечку, — зусім

расклеіўся вялікі князь літоўскі і кароль польскі. — Яна ж цяпер у якасці Чорнай Панны Нясвіжа кругі па тамтэйшым замку, гаротніца, без мэты і кірунку наразае, а я тут во ў разлуцы: захрас на прывіднай пасадзе ў кракаўскім каралеўскім палацы!

— Жыга, я цябе ўмаляю, — не трэба гэтых слязлівых цюхцей-мухцей пра выкліканне духаў, — прамовіў я проста. — Што гэта за цемрашальства такое? Я што, Інтэрнэт ці Першы канал?

Потым я дадаў:

— Падбаў бы ты, Жыгімонце, лепей пра сябе і сваю Басю — глянь, якія вы абое бледныя. На вуліцу не выходзіце, колькі стагоддзяў туляецеся пыльнымі і сырымі калідорамі туды-сюды, туды-сюды… Толькі залётныя турысты і цешацца, а нармальным людзям — дык моташна глядзець… Калі далёка ляцець да Нясвіжа, дык прызначыў бы ты Барбары спатканне дзе-небудзь пасярэдзіне. Дапрыкладу, у Гародні, там, кажуць, таксама палац нішто сабе такі. Каралеўскі.

З калідорамі і закуткамі. І мяжа для цябе празрыстая — візы ў РБ браць не трэба.

* * *

…Ізноў у нас на працы крык, лямант, гармідар — а так усё ціхамірна, шаноўны чытачу, пачыналася… Мы з Чарадзеем зрабілі новы праект па папулярызацыі айчыннай гісторыі: павесілі аб'явы ў СМІ ўсіх часоў, што складаем «Топ-5 герояў Беларусі». Каб розныя палкаводцы, валадары дзяржаваў, асветнікі і гуманісты рэзюмэ дасылалі. Не паспелі азірнуцца — цэлы гурт ашмянскіх цётак-чаўночніц на парозе, без усялякіх рэзюмэ патрабуе ад нас немагчымага…

# Блог Усяслава Чарадзея. Пост № 28.
# Тадэвуш Касцюшка супраць ашмянскіх цётак

Гэта ўсё культ асобы ў нашай гісторыі вінаваты.

— Можа, дзяўчаты, у другую пяцёрку? — млява прапанаваў я. — Там якраз за Касцюшкам месца вызвалілася. Вы ж чаўночніцы, да першай пяцёркі не дацягваеце — бо не для дзяржаўнай карысці працуеце, а для сябе, прыгожых…



— Якое там для сябе? — абурыліся яны. — Ды твой Касцюшка сам гастарбайтарам у Амерыку рвануў, на высокааплатную пасаду генерала інжынерных войскаў, калі яму Сувораў не даў вайсковай справай дома

займацца! А мы хоць штодня за мяжу з’язджаем, але заўсёды да вечара вяртаемся… Валюту ў краіну прыносім, між іншым.

— Але Касцюшка, у адрозненне ад вас, таленавіты палкаводзец, — не здаюся я. — Такія аперацыі ажыццяўляў — хавайся ў бульбу!

— Ды мы самі такія аперацыі, валютныя, з літамі, злотымі і далярамі пракручваем, ажно твой Касцюшка можа толькі аблізнуцца, — амаль хорам загаманілі ашмянскія цёткі. — І палкаводцы мы выдатныя — перад мытным аглядам палку кілбасы любых памераў на тры-пятнаццаць увядзем у любую шчыліну, нават у разетку.

— Ты зразумей, начальнік, у нас кожная цётка — баяздольны чаўнок, — выскачыла паперадзе чарнявая цётка ў футравай шапцы і абкручаная сасіскавым патранташам. — А калі трэба, дык увесь горад ад малога да старога па клятчастай торбе возьме — і ў бой, у сэнсе на мяжу.

— Аднак калі хочаце трапіць у героі Беларусі, дзе ў вашай дзейнасці культурны ўнёсак, асветніцтва, гуманізм урэшце? — не саступаю я. — Дзе цывілізацыйнае значэнне вашай працы?
Пасля гэтых словаў ашмянская цётка пазелянела (пралілася схаваная ў шапцы кантрабандная зялёнка).

— Як дзе культурны ўнёсак?! — загаласіла. — А хто ў ліхія 90-я і такія ж 2000-я дзетак і ўнучкаў, нашчадкаў нашых, мацаваў і «Снікерсамі» жывіў?! Калі б не мы, плацёжаздольныя, дык яны б не тое што ў свае інстытуты не папаступалі — падручнікаў ад нямогласці і недаядання не разгарнулі б! Вось табе, княжа, і асветніцтва і гуманізм у адным, халера на яго, флаконе, — дадала цётка і зняла набрынялую зялёнкай шапку.

Цывілізацыйнае значэнне працы ашмянскіх цётак стала яшчэ больш ясна, калі тыя прыгразілі мне яшчэ смаргонскіх цётак у Топ-5 зацягнуць. І гудагайскіх… і… адным словам, пасля скрупулёзнай апрацоўкі інфармацыі па рэзюмэ «Топ-5 герояў Беларусі» выглядае

наступным чынам:

1. **Усяслаў Чарадзей** (паводле абсалютна ўсіх абсалютна незалежных экспертаў так выйшла)

2. **Еўфрасіння Полацкая** (каб не казалі, што ў спісе няма жанчын)

3. **Янка Купала** (каб не казалі, што ў спісе няма непалачан)

4. **Ашмянскія цёткі**

5. **Тадэвуш Касцюшка**

## Блог Усяслава Чарадзея. Пост № 26. Пра пазітыўны імідж нашай краіны

Гэта ўсё мамы вінаватыя.

— Дык што, значыцца, «Песня пра ваўкалака»? — перапытаў іміджмэйкер Мікола.

— Ага, — пацвердзіў я. — Вампіры і пярэваратні цяпер руляць. Але цымус у тым, каб чалавек-воўк быў шляхетнага паходжання — гэта публіцы страх як падабаецца: скажам, граф. А лепей князь. І імя якое-небудзь таямнічае: граф Дракула ці, скажам, князь… Чарадзей.

З тых часоў, як на вечарыне ў гонар былых валадароў дзяржавы сяброўская рада прызначыла мяне адказным за пазітыўны імідж нашай краіны, спакою няма. Гойсаю па тысячагадовым лесе

айчыннай гісторыі — шукаю таленты, якія будуць паляпшаць вобраз Бацькаўшчыны. А ўсе дамарослыя таленты ў нас са сваімі хоцькамі: гэты жадае друкавацца толькі ў Празе, таму пуцёўку ў Крым давай, бач — санеты не напісаныя...

І вось у познім Рэнесансе, а дакладней у нашым ВКЛаўскім пасольстве ў Рыме, знайшоў я таленавітага хлопца, падняпроўскага іміджмэйкера Міколу. Рэкламны тэкст яму заказваю: каб там акрамя асноўнага сюжэта — легенды пра пярэваратня, якая там будзе абсалютна для прыліку, — яшчэ апявалася б для замежнікаў нашая цудоўная прырода і іншая тутэйшая замануха: натур-харчаванне, натур-паляванне, культур-баляванне.

— У мяне толькі адна ўмова, княжа, — адказвае мне Мікола. — Напішу я твор пра ваўкалака на лаціне.

— Ты што, — пытаю, — рымскай інквізіцыі не баішся? Яны ж змогуць прачытаць — і на кол за гуманізм пасадзяць.

— Я сваёй мамы баюся значна больш, — адказвае Мікола. — Яна ўсё яшчэ думае, што я на медфаку ў Падуі вучуся. А прачытае па-нашаму паэму, даведаецца пра маё паэцтва — дык мне сутарэнні інквізітараў міжземнаморскім курортам здадуцца.

— Але родная мова!.. — пачаў быў я.

— На лаціне лепей, — заўпінаўся іміджмэйкер. — Інакш давялося б перакладчыка на еўрапейскія мовы шукаць, а часу ў нас, княжа, бракуе — кожны дзень дывідэнды губляем: не ўсе яшчэ еўрапейцы пераканаліся, якія мы класныя (ў) натуры.

— І яшчэ адна нявыкрутка, — пасля прафесійнае паўзы дадае Мікола. — Ваўкалак — праблемны персанаж.

— Як праблемны? — папярхнуўся я.

— Пастаянства брэнду ў ім няма. То ён воўк, то чалавек, поўнае

бязладдзе і неўладкаванасць. А трэба такі, які выпраменьвае ўпэўненасць у заўтрашнім дні. Каб замежныя турысты пераканаліся, што яны свае талеры на нашы памяняць заўсёды змогуць, і што ў прыдарожнай карчме іх ніякі карчмар не аблічыць. «Традыцыі і надзейнасць», штосьці ў такой манеры. Якісьці брэнд, што трывала стаіць на зямлі, так бы мовіць, дзвюма, а лепей чатырма нагамі…

І пасля паўзы дадаў:

— …Скажам, слон.

— Дзе я табе ў Вялікім Княстве слана вазьму? — вызверыўся я.

— А што ты такі ваўкаваты, княжа? — падазрона стуліўшы вочы, запытаў іміджмэйкер. — Добра, давай возьмем не слана, а нашую ягоную версію — маманта.

— Няма мамантаў, павыміралі!

— Тады якога бізона…

Я толькі махнуў рукой.

— Такім чынам, падсумуем твой заказ, шаноўны княжа, — сказаў іміджмэйкер Мікола. — Паэма на лаціне: «Carmen de bisontis», «Песня пра зубра», аўтар Мікола Гусоўскі.

Я ледзьве стрываў, каб не перакінуцца ў ваўка і не загрызці гэтага іміджмэйкера.

# РАЗДЗЕЛ 6. Каму выгадны канец свету ў 2012 годзе?

## Блог Усяслава Чарадзея. Пост № 29. Пра канец свету ў 2012 годзе

Гэта ўсё дранікі вінаватыя.

— Бо табе, пане Скарына, выгадны канец свету! — закрычаў заяц.

Скарына толькі заматляў галавой з залепленым скотчам ротам.

— Прызнавайся! — крыкнуў Скарыну ўжо я. Падчас чарговага візіту Скарыны да нас у офіс на Бернардынскай вуліцы мы схапілі першадрукара і звязалі яго.

— Гэта ты арганізатар канца свету ў 2012 годзе!.. Франак, як ты мог?! А яшчэ доктарам прыкідваўся!

О, так, мы стаялі на парозе найвялікшага крызісу. Амігі з Лацінскай Амерыкі, ацтэкі, данеслі па пісьмовых крыніцах, што хутка бліжэе канец свету. Мы з зайцам адпрэчылі ўсе справы: які тут піяр, калі ПК, ВКЛ, БНР і РБ адным пакетам ратаваць трэба?! І вось пасля бяссоных начэй, праведзеных за моцнай цынамонавай кавай, запаранай нам Чорнай Паннай Нясвіжа, мы з зайцам (а найбольш адзін заяц) дзядоўскім метадам, дэдукцыяй, урэшце паспяхова вылічылі, хто плануе канец свету ў 2012 годзе…

Звязаныя ногі Скарыны заторгаліся ў рытме.

«Я найперш доктар навук, а лекар — толькі потым», — вось што выгрукvалі Скарынавы ногі марзянкай.

— Абяцаеш не крычаць, калі развяжу? — гнеўна запытаў я.

«Працяжнік, паўза, кропка і працяжнік, паўза, працяжнік кропка працяжнік», — адгрукаў нагамі Скарына, што азначала «так».

— Ці ведаеш, як мы цябе, грэшніка апакаліпсіса, выкрылі?

— Не, — шчыра сказаў Скарына і, распрацоўваючы, пачаў варушыць сківіцамі, якія знямелі ад скотча. — І не грэшніка, а вершніка.

— Памятаеш, ты колісь ляпнуў: «Не абы-якой мовай, але сваёй уласнай»? — сказаў заяц. — І вось нешта мне ў гэтай фразе муляла. Паглядзеў я па дакументах — і праўда! Гэтыя словы канцлер Леў Сапега ў прадмове да Трэцяга Статута ВКЛ у 1588 годзе напісаў. А гэта, заўваж, добрых трыццаць гадкоў пасля тваёй смерці.

Я дадаў:

— Гэтак мы высветлілі, што ты маеш доступ да падарожжаў у часе. А паколькі на вочнай стаўцы з дыбай шыбенік і перагоншчык машын часу паэт Баян прызнаўся, што ніякіх машын табе не прадаваў, дык

вынікае, што ты можаш трапіць туды толькі праз express кактэйль-вечарыну ў гонар былых валадароў дзяржавы. А паколькі я асабіста знаёмы з усімі валадарамі дзяржавы і ты — не ў іх ліку, дык значыць адзіны варыянт — ты зрабіўся ім падчас 2012 года ці калі пасля, то бок у час ці пасля канца свету.

— Ну, надвое бабка варажыла, — адкінуў мае тлумачэнні Скарына. — А якія супраць мяне больш канкрэтныя довады?

Заяц загарачыўся:

— Ёсць, Франачак, і больш канкрэтныя довады тваёй віны. Довад першы: дзеля запалохвання насельніцтва і дэстабілізацыі абстаноўкі ў дзяржаве ты першы пераклаў на беларускую мову Біблію з жахлівымі сцэнамі апакаліпсіса.

— Ну, ведаеце, кожны можа напісаць, а пагатоў перакласці, што яму заманецца, — адпарыраваў Скарына.

— Довад другі, — не сунімаўся заяц. — Падступны, ты вышукаў сабе месцейка роўненька пасярод тысячагоддзя беларускай гісторыі, каб усю, яе самы пачатак і саменькі канец, жорстка кантраляваць.

— Ну, годзе, зая! — здзівіўся нават я. — Ну ўжо так і роўненька?

— Лічы сам, шэры. Вось адымі ад 1517 года, года выдання скарынаўскага «Псалтыра», пяцьсот гадоў.

— Згодны, вушасты, маем 1017 год, год майго меркаванага нараджэння. Усё з мяне і закруцілася: першая незалежнасць, першая культура…

— А цяпер да 1517 пяцьсот дадай, — прыпусціў далей заяц, — што маем?

— 2017… — няцямна прамовіў я. — І што гэта за год такі?

— Як?! Гэта год канца беларускай гісторыі.

— Ага, зая, тут і няўвязачка, — кажу. — Канец свету ў 2012, а канец беларускай гісторыі ў 2017. Як такое можа быць?

— Ну, у 2017 адбудзецца тая лёсавая вечарынка з нагоды пяцігоддзя канца свету. Ну, тая, на якой усе беларусы сапсаванымі дранікамі атруцяцца і памруць.

— Стоп-стоп… — засумняваўся я. — А чаму беларусы павінны ўвогуле перажыць канец свету?

Тут ужо ганарліва заўсміхаўся Скарына:

— Ну, гэта праўда. Памятаеце, пане Усяславе, анекдот, што калі акупанты павесілі беларуса, расійца і ўкраінца, і па няхуткім часе прыйшлі да месца пакарання вызваліцелі, дык убачылі, што беларус яшчэ варушыцца ў пятлі. Тады вызваліцелі яго пытаюць: «Як так

здарылася, што ты яшчэ жывы?» — «Ну, ведаеце, паночкі, — адказвае вызваліцелям беларус, — спярша было, канечне, пагана, а потым неяк павісеў і прыцярпеўся».

— Ну, вядома, памятаю, — адказваю я. — Гэтую показку ў школе апавядаюць.

— Дык вось: гэты анекдот прыдумаў я, — сказаў Скарына.

Заяц са здзіўленнем паглядзеў на мяне, я — на Скарыну. А той павярнуўся ямчэй на падлозе і пачаў свой расповед:

— Пасля прыезду з Багеміі ў Полацак я шмат чым займаўся. Спярша гнаў напой «Злата Брага» па чэшскай ліцэнзіі, а збанкрутаваўшы, таксама, як вы, адкрыў піяр-агенцыю «СКАрынак». І так сталася, што гэты анекдот — мой самы першы заказ. Рэч у тым, што аднойчы вось да нас завітаў заказчык, сівы дзядок у даўгой белай кашулі, і папрасіў такі анекдот, які з аднаго боку метафарычна падбадзёрвае беларусаў

перад будучымі выпрабаваннямі, намякае, што яны са сваёй трываласцю перажывуць нават канец свету, а з іншага — культурна ім пра няўмольнасць таго канца свету нагадвае.

— Падбадзёрыць? Анекдотам? Беларусаў? Метафарычна? — я нічога не разумеў.

— Канец свету сапраўды будзе! — працягваў Скарына, — Так, сапраўды кажуць, што ў пачатку канца свету будзе значна паскудней: недахоп кіслароду, адусюль валяцца горы, шалеюць цунамі,— але ўсе ў Беларусі неяк папрывыкнуць, прыцерпяцца і той канец перажывуць патроху.

— «Прыцерпяцца, перажывуць канец свету»? — перапытаў ашаломлены я, не могучы паверыць, што ўсё гэта я чую ад Францішка Скарыны.

— А вось так. Мне мой заказчык, сівы дзядок у даўгой белай кашулі, усё апавёў пад сакрэтам. У апакаліпсісе, сказаў ён, сярод

выпарэнняў серкі і ў жахлівым цені магутных ваярстваў анёлаў і дэманаў беларусам спярша будзе, канечне, паганенька, — але ж, як вы ведаеце, ім не прывыкаць быць між двума агнямі. Яны, вядома, будуць вельмі пакутаваць: апакаліпсіс — гэта ўсё ж не бойка на Трэцяй Пасялковай, але потым перад фінальнай бітвай беларусы знойдуць спасярод Армагедона нейкі лес, зладзяць невялічкую партызанку — палыя анёлы з чорнага войска падуць яшчэ ніжэй — беларусы іх скінуць пад адхон, а звычайныя анёлы апаляць крылы над фальшывымі партызанскімі вогнішчамі. Да таго ж у 2012 годзе, у апошняе лета перад апакаліпсісам, бульба няблага ўродзіць — кожны з нашых назапасіць у кішэнях па 100 кэгэ. Так што неяк ядравую зіму переразімуюць. Выкруцяцца і перажывуць…

— … а потым праз пяць гадоў усе яны паўміраюць на пагулянцы з нагоды пяцігоддзя канца свету, — у тон яму дадаў я.

Потым я запытаўся:

— Дык што будзе пасля…

— Што пасля, што пасля… — перадражніў мяне Скарына. — Колькі можна мучыць шаноўных чытачоў такім даўгім пастом, давай перанясём нашы высвятленні адносін у наступны…

## Блог Усяслава Чарадзея. Пост № 30. Шчаслівага Новага апакаліпсіса!

Гэта ўсё рука Менска вінаватая.

— ...А што будзе потым: праз пяць гадоў пасля канца свету ўсе беларусы паўміраюць на вечарынцы з нагоды пяцігоддзя канца свету? — спытаў я Скарыну, схопленага па падазрэнні ў арганізацыі несанкцыянаванага апакаліпсіса.

— А потым наноў пачнецца ўся гэтая цяганіна з пачаткам цывілізацыі, — адказаў яўна адчулы свабоду Скарына, утульна ўладкоўваючыся на падлозе. — Зноў Адам і Ева, Каін і Авель, Ноеў каўчэг... Усё як заўсёды.

— Паканкрэтней, — папрасіў я.

— Ты што, майго перакладу Бібліі не чытаў? — зноў запытаў Скарына. — Гэта будзе паўтарэнне пройдзенага. Ад чарговых Адама і Евы народзяцца першыя людзі, будуць зноў абжываць панішчаную Зямлю, потым іх неба за кепскія манеры пакарае патопам, а Ной і Ноевічы ў адказ скляпаюць звераносец. А потым панеслася: шумерская культура, Парфенон, навала барбараў, дзесяць крыжпаходаў, тры падзелы Рэчы Паспалітай і вынаходства ротарнай жаткі. Усё як заўсёды…

— Акрамя адной маленькай дэталькі, — укленіўся ў размову заяц. — І яна цябе выкрывае, падступны Скарына!

Я няўцямна павярнуўся ў зайцаў бок.

Заяц, не марудзячы, працягваў:

— Разумееш, шэры, пасля канца свету імаверны пачатак новай цывілізацыі будзе такі самы, як старазапаветны, акрамя адной

дробнай, аднак вельмі істотнай дэталькі: Біблія будзе напісаная не на іўрыце, а па-беларуску.

— Абсалютна так, — усміхнуўся Скарына хітраватай усмешкай Мона Лізы. — Бо цяпер у дадатак існуе вялізарная імавернасць, што праз сваю трывушчасць яшчэ якая пара беларусаў перажыве нават тое лёсавае атручанне дранікамі на пагулянцы з нагоды пяцігоддзя канца свету, ды першым людзьмі стануць не габрэі, а беларусы…

Тут заяц ужо не вытрымаў і пачаў заўзята тузаць Скарыну за фалды ягонага доктарскага халата:

— Вось дзеля гэтай верагоднасці, дзеля трыумфу беларушчыны, ты, Скарына, гора-патрыёт і такі-разгэтакі прыхільнік беларушчыны, і замысліў здзейсніць канец свету!

Скарына ляжаў і не падаваў прыкметаў жыцця. Але заяц ужо звяртаўся да мяне:

— Ну, шэры, пагана мне! Чаму ўсе патрыятычныя памкненні заўжды ператвараюцца ў непрыгожыя злачынствы? Першыя людзі беларусы — добра, арыгінал Бібліі па-беларуску — проста песня песняў, але чаму заўсёды падобныя здзяйсненні ляжаць праз усялякія скрайнасці кшталту планетазабойства?

— Стоп, стоп, зая, не часці, — перапыніў заечую экспрэсію і рэфлексію я. — Ты толькі што сказаў, Біблія, напісаная беларускай мовай, — гэта добра?

— Ну, вядома, добра, — не ўцяміў заяц. — Хіба не так?

— Вядома, так. Аднак гэтае развіццё падзеяў з першым чалавекам-беларусам цудоўнае і шчаснае, аднак толькі не для Скарыны…

— Як не для Скарыны?! Нягледзячы на тое, што ён пашыўся ў полацкія марыярці, Скарыну ўсё ж нельга абвінаваціць, што ён не наш чалавек ды не хоча, каб беларушчына заняла пазіцыі лідэра.

Якраз менавіта дзеля таго, каб наша ўзяло, ён зробіць усё. Нават калі недасканалая і ненатхняльная для нашай справы цывілізацыя склеіць дошчачкі.

— Разумееш, зая, тут усё складаней…

— Дык і не ўскладняй, шэры! Вось ты быў бы супраць, каб нашая культура і мова была магутная і першасная і панавала? Каб першыя вынаходкі чалавецтва — крывіцкія, а словы «На пачатку стварыў Бог зямлю і неба» — у беларускім арыгінале?

— Але, зая, калі Біблія будзе першапачаткова напісаная па-беларуску, дык нашто нам паслугі перакладчыка на гэтую мову?! — выпаліў, не сцярпеўшы зайцавай някемнасці, я.

Заяц ашаломлена зірнуў на мяне. Я працягваў:

— Вось і вынікае, што Скарыну, як перакладчыку Бібліі

на беларускую, ну ніяк не выгадны беларускі сцэнар пачатку цывілізацыі, а значыць, не цешыць і канец старой.

Заяц зноў няўцямна пастрыг вушамі.

— Зая, Скарына *не* арганізоўваў канца свету і не дапамагаў яго арганізатарам з тае простае прычыны, што *яго ўсё задавальняе ў цяперашняй гісторыі:* ён першы перакладчык Бібліі, першадрукар, светач Адраджэння… А кім ён будзе пры новым парадку — так, дробным букіністам і другасным тлумачом.

Заяц заківаў галавой. Да яго нарэшце дайшло.

— Шэры, прабач мне! Ты ўсё ж геній, — сказаў заяц. — Ну што ж, хадзем. Будзем далей шукаць ініцыятара канца свету…

**P. S.** — Што значыць «хадзем», а я? — прастагнаў Скарына. — Развяжыце вашага першадрукара, злыдні.

— Сам вінаваты, — сказаў заяц, вострымі разцамі адкусваючы вяроўкі за спінаю светача Адраджэння. — Нашто людзей палохаў, пра апакаліпсіс перакладаў?

— Падвышэнне інфармаванасці насельніцтва перад надыходам глабальнай катастрофы вы называеце запалохваннем? — абурыўся Скарына. — Вось аўтараў падручніка па грамадзянскай абароне ці рэжысёраў кінастужкі «2012» вы ж не абвяшчаеце дэстабілізатарамі абстаноўкі ў Рэспубліцы Беларусь, праўда? І дарэчы, Адкрыццё Яна Багаслова, дзе ўсе гэтыя жахі пра прыход Звера апісаныя, я яшчэ перакласці не паспеў… Бо пераклад, мае вы невукі, пакуль што застапарыўся на Старым Запавеце.

І дадаў:

— А ў часе я вандраваў усяго адзін раз — мяне запрасілі на тысячагадовы сход маральных аўтарытэтаў, каб урэшце прыняць адназначнае рашэнне па будынку новай Нацыянальнай

бібліятэкі — ці ён вельмі прыгожы, ці ён проста прыгожы… Сход праходзіў на Ждановіцкім рынку, у памяшканні дыскатэкі «Арыён», побач з кактэйль-вечарынай у гонар былых валадароў дзяржавы. На ім мы, дарэчы, так ні аб чым асаблівым, як зазвычай вядзецца сярод маральных аўтарытэтаў, не дамовіліся. І вось пасля сходу, на зваротным шляху — ну, не прападаць жа адзінаму майму падарожжу ў часе — я скокнуў да Сапегі ў 1588 год: хацеў параіцца з Лёвам, ці не час нам у XV стагоддзі ўжо ўводзіць літару «ў», якая нашую адметнасць падкрэслівае.

Я паглядзеў на Скарыну ўжо нават з павагай.

— Княжа, далібог, не глядзі на мяне з павагай, — сказаў Скарына. — Развязвай ногі давай.

* * *

Вось так, шаноўны чытачу, мінаюць нашыя дні: у офісе на Бернардынскай вуліцы толькі жлукцім цынамонавую каву, якую нам носіць Барабара, і думаем, думаем, думаем…

«Бо час кароткі,» — папярэджвае нас Біблія, і яе папярэджанне разам з жахлівымі сцэнамі Адкрыцця Яна Багаслова цяпер, у трывожны 2012 год, з доўгатэрміновага цьмянага прароцтва, такое адчуванне, на вачах ператвараецца ў кароткачасовы прагноз надвор’я.

## Блог Усяслава Чарадзея. Пост № 31, у якім, дзякуй Богу, нічога апакаліптычнага не адбудзецца

— А навошта мы, зая, увогуле шукаем віноўніка? — запытаў я. — Можа, лепей перадухіліць сам канец?

— Немэтазгодна, — адказаў заяц. — Ну што ты можаш зрабіць, каб перадухіліць канец свету? Ну, добра: хай сабе, з гіпатэтыкай напапалам, ты, Усярукі Чакрадзей, ужыўшы ўсю сваю магію, вылузнуўшыся з усіх сваіх скураў, згукаўшы ўсіх сваіх уплывовых сяброў з найвышэйшых сфер і іншых вымярэнняў, такі спыняеш глабальнае цунамі і сусветныя вывяржэнні вулканаў. Але лапу на сэрца, шэры: аніякі звышасілак у Галактыцы не зможа выдраць у беларуса з рота дранік на пагулянцы. Гэта я пра будучую пагулянку ў гонар пяцігоддзя канца свету, якую ніхто адмяніць не ў стане.

— Але, зая, мы ж проста спынім канец свету, каб усім беларусам не было чаго святкаваць у 2017, і, адпаведна, тая прынагодная пагулянка адменіцца, і тады аніхто не атруціцца дранікамі…

— Наіўны ты, шэры, як ваўчаня.

— Зая, а можна паканструктыўней?

— Ну пакруці мазгамі. Пагулянкі — святое, іх расклад спраўна распісаны на пяцігодку наперад, і з рэспубліканскага бюджэту выдаткоўваецца на іх у поўным аб’ёме. Нават калі ўсеагульны капец у 2012 не грымне, калі ты, тытан, прылюдна на вачах у ашаломленай публікі, счапіўшыся з ліхімі сіламі ў апошняй схопцы, прадухіліш яго, дык тады беларусы з не меншым імпэтам і размахам усе ўсё роўна будуць святкаваць, хіба толькі пяцігоддзе вялікай перамогі над канцом свету. Зноў жа, як ты разумееш, з прыездам калектываў народнай самадзейнасці, рэканструкцыяй якога-небудзь райцэнтра, паходнымі буфетамі, шашлыкамі і бульбяной прадукцыяй.

Вось і атрымліваецца, што канец свету спыніць можна, а вось смерцяносную пагулянку з нагоды пяцігоддзя канца свету — не-маг-чы-ма. І начорта тады нам у такім выпадку чалавечая цывілізацыя без нас, беларусаў?

Тут зая дадаў:

— Так што знаходзім завадатара апакаліпсіса і, каб ніхто не даведаўся, цішком-нішком нейтралізуем менавіта яго…

— Ясна. Яшчэ пытанне: адкуль ты ведаеш, што ў канцы свету зацікаўлены найперш хтосьці з Беларусі, а не з іншых краёў?

— Ну, тут нават да вяшчункі не хадзі, — пачаў запэўніваць заяц. — Вось у якога іншага народа, шэры, дзеля магчымасці не працаваць яшчэ пару дзён, цэлая краіна штогод старанна робіць выгляд, што адзін і той жа бог нарадзіўся і ўваскрос двойчы?

Зайца панесла:

— … Я ўжо не кажу пра двайны Новы год… І нават прамаўчу, як беларусы, каб пабольш святкаваць, таксама прымудраюцца схітрыць пра дзень нараджэння, здаецца, адзінай і непадзельнай незалежнасці. «Беларуская незалежнасць? — нібы ўзрушаныя пытаннем, кажуць яны, ускідваюць свае сінія, як валошкі, вочы, і гіпнатычна глядзяць на суразмоўцу. — А гэта, даражэнькі, гледзячы ад каго яна. Калі ад Расійскай імперыі, дык 25 сакавіка. Калі ад нацысцкай Нямеччыны, то 3 ліпеня, а вось як ад Савецкага Саюза, то 27 ліпеня». І пры гэтым старанна імітуюць поўную нацыянальную нязгоду і канфрантацыю, хаця іх душа пяе ад яшчэ аднаго свята.

Заяц бязлітасна зазначыў:

— У РБ ж усе навукоўцы гуманітарнай сферы — і прыўладныя, і апазіцыйныя — толькі тое і робяць, што шукаюць якую гістарычную зачэпку, каб яшчэ адзін дзень на працу не схадзіць. Будзь пэўны,

што і ў канцы свету рука Менска прасочваецца — яшчэ адзін дзень вольны вынікне.

Потым заяц дадаў шматдумна:

— Для каго Судны дзень, шэры, а для каго — законны выходны, у які пад агульны шумок можна шыфер на дачу адтарабаніць…

— Усё, зая, пераканаў, — сказаў я. — Будзем шукаць далей. Калі б я быў савецкім рэжысёрам, дык я б, пэўна, зняў пра цябе (і пра сябе) кіно: «Следства вядуць ну пагадзі».



«…Кастусь Каліноўскі? Сімяон Полацкі? Вацлаў Ластоўскі?»

Імёны патэнцыйных завадатараў апакаліпсіса, што шалёныя, круціліся ў нашых з Чарадзеем галовах. Каму выгадны канец свету, які няўмольна набліжаецца на нас дзень пры дні?

Так, шаноўны чытачу: жыццё ператварылася ў суцэльнае следства. Мы з Усяславам Чарадзеем размаўлялі ўсё роўна як праз сон, блукалі па нашым офісе, гарталі гістарычныя кнігі і дакументы, размаўлялі (такое ўражанне, што тэлепатыяй), пілі цынамонавую каву, што спраўна падавала нам Чорная Панна і, перагружаныя разумовай працай, засыналі на офісных крэслах… Потым прачыналіся, зноў пілі цынамонавую каву, размаўлялі як праз сон… Усё было ў нейкім сутонні, мроіве, быццам усе дзеянні адбываліся ў опіумні.

«Мялецій Сматрыцкі? Рагвалод? Булак-Булаховіч?»

Адным днём пасярод гэтага ачмуру на калідоры пачуліся гулкія крокі, і ў кабінет уварваўся шыбенік і перагоншчык машын часу паэт Баян.

Яшчэ раней, толькі пачуўшы пра апакаліпсіс у 2012 годзе, ён вымавіў фразу, якая ў вузкіх колах плешчаніцкіх футуролагаў хутка зрабілася культавай:

— Гісторыкі XXIII стагоддзя гэтага не пераживуць!

138-тамовы збор твораў паэта Баяна плешчаніцкія футуролагі купляюць часткова з-за гэтай фразы (па адным томе ў кнігарні «логвінаЎ» па-ранейшаму не прадаюць), а часткова таму, што ўсе тамы ў зборы твораў маюць адмысловыя налепкі, пры дапамозе якіх можна, змацаваўшы кнігі разам, уфармаваць трывалыя і практычныя сходы на гарышча або ў сутарэнне, у якіх плешчаніцкія футуролагі XXIII стагоддзя па дзядоўскай завядзёнцы любяць захоўваць бульбу.

Нягледзячы на трывогу за лёс іншых, якую так і выпраменьвала гэтая фраза, шчыра кажучы, паэт Баян вярнуўся, бо скеміў, што канца свету можа не перажыць якраз ён сам, паколькі гісторыкі XXIII стагоддзя былі ягонымі найвялікшымі пастаўнікамі паскраданых машын часу.

Крадзяжы чыніліся наступным чынам. Некаторыя не асабліва сумленныя гісторыкі XXIII стагоддзя аб'ядноўваліся ў злачынныя

групоўкі, прыязджалі ў які-колечы раённы цэнтр на галоўную плошчу. На плошчы, пад полагам ночы яны скідалі з п’едэстала зробленую на аснове трактара «МТЗ-80» машыну часу і зганялі яе, каб увапхнуць легкаверным пакупнікам дэталі ў менскай галерэі сучаснага мастацтва «Ў» пад выглядам артэфактаў сацрэалізму і поп-арту. Каб заблытаць сляды, чорныя скідачы ўсталёўвалі замест машын зрынутыя яшчэ даўней статуі Леніных, якія, запыленыя, валяліся побач з п’едэсталам. І пераважная большасць людзей будучыні падмены не заўважала…

## Блог Усяслава Чарадзея. Пост № 32, у якім да следства падключаецца паэт Баян

— Значыць, давайце падсумуем, што мы ведаем, — сказаў Баян. Каб раскатурхаць грамаду, ён пачаў актыўна падымаць нас з офісных тронаў, чытаючы сагі ўласнага сачынення. Мы з жахам прачнуліся.

— Прыйдзе апакаліпсіс, і яго арганізатарам будзе нейкая асоба з Беларусі, — мерна забубніў заяц праз сон.

— То бок жанчына? — удакладніў Баян.

— Чаму жанчына? — здзівіўся заяц і канчаткова прачнуўся. Баянавыя словы яго раздаражнілі.

— Ты сказаў «нейкая асоба». А слова «асоба» жаночага роду.

— Не, асоба — гэта яшчэ і мужчына, мой мілы пясняр, — мала не

закіпеў заяц, і спыніла яго толькі тое, што Чорная Панна прынесла яму яшчэ адну філіжанку цынамонавай кавы.

— Добра, зая, — пагадзіўся Баян, — то давай усю дыспазіцыю спачатку.

— Будзе апакаліпсіс, і яго арганізатарам выступіць нейкая асоба, жанчына ці мужчына, і гэта не Францішак Скарына…

— Ну, я ж сказаў— жанчына! — зноў стаў гнуць на свой капыл Баян.

Пачуўшы гэтую фразу, у зайца заторгаліся лапы. Прысутнасць Баяна яго відавочна нервавала.

Баян пачаў імпэтна тлумачыць:

— Ну, глядзі, арганізатар апакаліпсіса — не Скарына. А вось як выглядае сам Скарына? Мужчына ў бярэтцы, халаце і вусах.

Значыцца робім выснову, што арганізатар канца свету — наадварот: проставалосая неадзетая бязвусая жанчына.

Раптам пачуўся грукат — гэта Чорная Панна выпусціла з рук запарнік з цынамонавай кавай. Пакуль я глядзеў на Панну, як яна чамусьці дрыгатлівымі рукамі збірае кававую гушчу і аскепкі, заяц ужо ўчапіўся ў Баяна і душыў яго, прыгаворваючы: «Я табе, мовазнаўцу, пакажу проставалосую жанчыну без вусаў!»

Я кінуўся іх разнімаць.

— Рукі ўгору! — раптам пачуўся жаночы голас адкульсьці са спіны.

Мы трое неяк так адразу таго голасу паслухаліся. Азірнуўшыся, спярша мы ўбачылі толькі Чорную Панну, але якое імгненне за ёй згледзелі (Панна ж фактычна празрыстая!) Еўфрасінню Полацкую ў белых шатах з пісталетам у руках.

Хутчэй за іншых ачомаўся заяц.

— Цётка Фрось, — сказаў ён голасам мульцяшнага звярка і смешна застрыг вушамі. — Я пайду, добранька? Я ж усяго толькі зайчык, лясны жыхар, а вы, людцы, разбірайцеся тут самі, у мяне дома капуста не сабраная…

Сказаў і паспрабаваў даць дзерака праз заднія дзверы.

— Стаяць! — крыкнула ўжо мая прабабка Рагнеда, што стаяла ля задніх дзвярэй з вялізным мачэтам.

— Прабабуля, дык мы нічога такога не зрабілі! — закрычаў я.

— Вось, праўнучак, напраўду! — сказала Рагнеда, і мачэта пагрозліва бліснула ў ейных руках. — У гэтым уся бяда, Усяславік. Тысячагоддзе нашай гісторыі прайшло, і, вызвяраючыся адзін на аднаго, крыўдуючы на ўсіх і ўсё, вы, валадары дзяржавы, так нічога прыстойнага ні халеры і не зрабілі!

## Блог Усяслава Чарадзея. Пост без нумара, у якім слова гвалтам бярэ князёўна Рагнеда

…Мы, беларускія жанчыны, сядзелі дома і варылі боршч. Усю тысячагадовую нашую гісторыю. Пакаленне за пакаленнем. У хаце, у замку, у панскай сядзібе. Хто боршч на сале, хто проста нішчымнае бацвінне…

Пачалося ўсё з мяне, з таго замаху на забойства чалавека, князя Уладзіміра Яснае Сонейка, які майго бацьку Рагвалода пазбавіў жыцця, а мяне — гонару і волі.

Праўда ў тым, што калі я, памаліўшыся Перуну, узяла ў рукі нож, каб забіць зненавіднага кіеўскага князя Уладзіміра Яснае Сонейка, дык той не прачнуўся. Не прачнуўся, і як вынік — і што б там ні выдумлялі летапісцы — спыніць мой удар ён не мог. Князь быў надта п’яны, каб пачуць хоць нешта праз сон.

Удар спыніў мой сын Ізяслаў. Замест таго, каб дапамагчы роднай маме, Ізяслаў укліні́ўся паміж мною і прыспаным Уладзімірам і ўладным рухам той нож затрымаў.

«Мама, я вам загадваю: марш адсюль! — сказаў мне гэты хлапчук. — Паберажыце ваш кухонны нож для цыбулі і буракоў. Я дарослы мужык і разбяруся са сваімі праблемамі. Без баб».

Убачыўшы ягоны такі мужны і ўпэўнены позірк, я падпарадкавалася.

І што? Нават такой простай задачы, як забіць бацьку, мой сын рады не даў. З голымі рукамі Ізяслаў падышоў да Уладзіміра, асцярожна даткнуўся бацькавага пляча і досыць далікатна прашаптаў яму на вуха:

«Я вам загадваю, спадар Уладзімір, калі ласка, папа́, сыходзьце з нашага дома ў Кіеў. Вы, нізкі, падступны, забілі майго дзеда Рагвалода, згвалтавалі маму, забралі нашую спадчыну, Полацкае

княства. Вы кепскі. І вы тут не адзін, між іншым, ёсць і іншыя, то бок я».

Уладзімір не прачнуўся і тады.

Хутка Уладзімір выслаў мяне ў Заслаўе, так і не даведаўшыся пра мой замах (бо, што б там ні казалі летапісцы, даведаўшыся пра такое, звычайна проста забіваюць)… У Заслаўі я ад крыўды і нязздзейсненай помсты выкарыстоўвала нож па простым прызначэнні — кроіла буракі на боршч.

## Блог Усяслава Чарадзея. Пост без нумара-2, у якім слова па-ранейшаму гвалтам утрымлівае князёўна Рагнеда

Гэтак цяклі дзесяцігоддзі: полацкія князі аддаваліся фалічным забавам: мераліся з кіеўскімі і наўгародскімі, у каго вышэйшыя Сафіі, ды, салдацкімі галовамі сцелючы і веючы чужыя душы ад целаў, сублімавалі свае дзіцячыя крыўды і траўмы на братанічах і іх падданых.

Апошняя, хто з нашых жанчын дала адпор здзяцінелай і боязкай, а ад таго — бязлітаснай і лютай цывілізацыі мужчын, была Еўфрасіння Полацкая.

Гадавалася яна разумная, дасведчаная, кемная — такая магла і хаду гісторыі памяняць. Але прыспеў тэрмін, ды яе бацька Святаслаў,

паказаўшы на першага-лепшага жаніха, недвухсэнсоўна сказаў ёй: «Бачыш яго? Гэта той, у доме якога ты будзеш сядзець і варыць боршч».

Як вы памятаеце з гісторыі, у адказ Еўфрасіння пастрыгла на панк-манер сваіх пляменніц, а на знак пратэсту супраць усялякіх папсовых саф’янаў і стараруськіх стразаў, апранулася ў чорны прыкід ды арганізавала закрытую феміністкую готык-грамаду. І на злосць занялася тым, чым у вачох хлопчыкаў з мечыкамі бавіцца было ніжэй за плінтус: культурай і асветніцтвам.

Аднак потым, пасля бунтаркі Еўфрасінні, пацягнулася суцэльная беспрасвеціца — нам канчаткова ўказалі нашае месца на кухні, і кожнае новае стагоддзе зрабілася падобным да папярэдняга.

«Пасля слаўнага Грунвальда нага ўзброенага немца пяцьсот гадоў не ступала на нашыя землі!» Пакуль мужчыны выхваляліся сабе гэтым фактам, мы ладзілі кухонныя размовы, што немца, можа,

і не ступала, аднак наш дол спраўна пляжылі і маскоўскія, і шведскія, і французскія чобаты — усе каму не лянота!

«Статуты ВКЛ — і ажно тры штукі!» — крычалі яны, а мы, абкладзеныя з усіх бакоў патэльнямі з пасіраваным бураком, пасміхаліся ў зафарбаваныя кулакі. Бо ведаеце, як гэтыя тры Статуты называюцца на мове паліграфістаў? «Перавыданне, з дапаўненнямі». Выдалі адну талковую кнігу — і чатырыста гадоў, перадрукоўваючы, баёдалі ганарар, у сэнсе маральны капітал.

«Мы — мужыкі-беларусы!» — закрычалі яны ў канцы XIX стагоддзя, абвяшчаючы чарговае беларускае адраджэнне. А мы, плачучы ці то ад нажавых парэзаў, ці то ад паўстанціх паразаў гэтага стагоддзя, шэптам перапыталі адна адну: «Што, даражэнькая, няўжо таленавітае апісанне родным словам сваёй тысячагадовай крыўды цяпер стала называцца Рэнесансам?»

Пасля маўчання на паўстагоддзя ў канцы XX стагоддзя мужчыны,

абвесціўшы другое Адраджэнне, былі надта забаўленыя тым, каб паўсюль стаўляць свае, як ім здавалася, дзёрзкія мяккія знакі, пакуль наўкола нашая цудоўная Полаччына ператваралася ў нейкі цвёрды і мулкі… Аўсвайс Русланд.

І, Госпадзе, Усяславік, чаму заўсёды ў мужчын быў нехта вінаваты ў іхнім лузерстве: рука Масквы, Варшавы, Менска, немцы, мамы, нашэсце драпежных вавёрак, Шушкевіч, празмерная мудрасць іх саміх, іхняя заўсёдная цяга да справядлівасці, машына часу і агульнаславянскія карані?!.

*** * ***

І вось, пакуль цягнуліся гэтыя шэрыя мужчынскія стагоддзі, жанчыны тым часам сядзелі дома і варылі боршч. Гэтаму рамесніцтву бабка вучыла матку, матка — дачку, дачка — сваю лялькую. У хаце, у панскай сядзібе, у за́мку. Хто на сале, а хто проста нішчымнае бацвінне.

Мы добра зведалі дарогу ад кухні да склепа ці лядоўні. І вось, спускаючыся пад зямлю, бываючы там па справах, пакрысе адкрылі і даследавалі хады ў падзем'і, з розных месцаў Беларусі абнікалі ўсе пячоры і шахты. І гэтак урэшце мы, жанчыны, дабраліся да Герадотавага мора. А дакладней, да яго дна. Высветлілі, што калі гэтае мора высахла, дык пад усім нашым краем засталіся ад яго парожніны, такія сабе рэзервуары.

Доўга не думаючы (ну, можа, якое стагоддзе), мы, жанчыны, пастанавілі, што калі ўжо варыць боршч, дык цэлае мора. Пунсовы боршч, як кроў, наварысты, як лава…

Чвэртку за чвэрткай, літр за літрам, чоп за чопам, рондаль за рондалем вылівалі мы боршч у гэтыя падземныя бездані і парожніны, аж пакуль Герадотава мора не напоўнілася да краёў. Вось так усе жанчыны, тысячу гадоў таму сышоўшы ў кухоннае падполле, сталі весці двайную баршчовую бухгалтэрыю.

## Блог Усяслава Чарадзея. Пост № 33, у якім, хутчэй за ўсё, усё і вырашыцца

Пасля прамовы Рагнеды запанавала ціша.

— Ваў, — урэшце вымавіў заяц. — Я, здаецца, ведаю, што я буду есці падчас доўгай ядравай зімы.

Еўфрасіння скісла ўсміхнулася.

— О не, спадар заяц, — сказала яна. — Ты моцна памыляешся. **Боршч, які сядзяць і вараць нашыя жанчыны — не НЗ апакаліпсіса, боршч і ёсць апакаліпсіс.** Пякучы і пякельны. Безбярэжны і бязлітасны. Пунсовы, як кроў, наварысты, як лава.

І прыпячатала:

— Боршч жаночага гневу!

Мы знерухомелі, ашаломленыя. Рагнеда дадала:

— Запомніце вы, мужыкі, помста — гэта страва, якую падаюць гарачай, і яна ўжо даўно пастаўленая на агонь і кіпіць у зямной кары. Цяпер, у 2012-м, пасля тысячагоддзя варкі падземныя рэзервуары Герадотавага мора амаль паўнюткія — нам трэба яшчэ літаральна пару месяцаў, каб той боршч нашага гневу магутным струменем выплюхнуўся на зямное аблічча і ўчыніў усясветны патоп.

Яна дастала з-за пазухі драўляны апалонік і памахала ім на манер сцяга:

— Бо ў ідэале нашая мэта — пачатак новай цывілізацыі, дзе ўсё па-нармальнаму і па-жаночаму, без пакрыўджаных хлопчыкаў і іхніх забойчых цацак. І забудзьцеся, шаноўныя мужчыны, што, маўляў, кожнай пачвары — па пары, бо пачвараў, то бок вас, мы пакідаем за бортам Ноевага каўчэга!

Пасля доўгай паўзы я задуменна прамовіў:

— Во як… Дык, значыць, прабабуля, канец свету быў выгадны вам…

— Ні чорта ён нам не выгадны, Усяславік! — адгукнулася Рагнеда, і апалонік ды мачэта ў яе руках нервова задрыгацелі.— Нас з вамі чакае адзін канец, бо мы разам з вамі таксама захлынемся баршчом.

І пасля паўзы ціха дадала:

— Ну, можа быць, не адразу захлынемся, а праз колькі хвілін, пакуль будзем каштаваць саму страву.

— Што?! — здзівіўся заяц. — А як жа ваш Ноеў каўчэг?

— Няма ніякага каўчэга, гэта ўсяго толькі метафара, — умяшалася ў гутарку Соф’я Гальшанская. — Бо, далібог, такі вялізарны каўчэг — казка і выдумка. І да таго ж, калі нам было ім займацца, зая? Мы ж сядзелі дома і варылі боршч.

Заяц засмучана енкнуў:

— Да апошняй хвіліначкі я спадзяваўся, цётка Фрось, не толькі не быць залічаным да мужчынскага роду, але таксама песціў надзейку такі трапіць на выратвальны каўчэг.

— Так што мы з табой, Усяславік, усе ў адной лодцы, імя якой Зямля і якая хутка патоне ў бурлівым баршчы, — не звярнуўшы зноў увагі на рэпліку зайца, сказала яшчэ Рагнеда. — Але лепей ужо так, каб гэты свет закончыўся і не дастаўся нікому. А ўжо ў наступны пачатак мы вам не дамо папусткі і ўсё будзе па-нашаму!

Я пачухаў патыліцу — дзядоўскі метад, дэдукцыя, прапанаваны зайцам, яўна не спрацаваў: жанчынам быў невыгадны апакаліпсіс, і ўсё ж яны яго арганізавалі…



У след за Чарадзеем, шаноўны чытачу, падсумую, як нас ашуквалі жанчыны, па пунктах:

а) віжаваць за намі была прымацаваная Чорная Панна, якая даносіла пра кожны наш рух і

б) у дадатак ціснула сваёй фантомнай масай і цынамонавай кавай нам на нервы;

в) інсцэніўроўку з праглынаннем Чорнага Каптурка прыдумаў зусім не Баян, а сам Чорны Каптурок, то бок Еўфрасіння Полацкая, каб прабудзіць ва Усяславе Чарадзеі дадатковы комплекс ненажэрнай бабулі ў ягонай і так падвоенай асобе, каб і гэтым у будучым адцягнуць увагу ад следства і засяроджанасці на справе аб арганізацыі канца свету яшчэ больш;

г) заслала да нас у офіс на Бернардынскай вуліцы ашмянскіх цётак — каб заблытаць нас канчаткова — іхняя зямлячка Соф'я з Гальшанаў…

— А хто ж быў тым заказчыкам, дзядком з сівой барадою і ў белай кашулі, які замовіў у Скарыны анекдот пра беларуса, украінца

і расійца і ўвёў усіх у зман, нібыта пад сакрэам апавёўшы Скарыну пра фальшывы канец свету з бойкай паміж дэманамі і анёламі і беларусамі паміж імі?

д) — Гэта была я, — сціпла адказала Еўфрасіння Полацкая. — Пераканаўча апавядаць пра дэманаў і анёлаў мне, з маёй рэлігійнай адукацыяй, як рэпу грызці. А наконт пераапрананяў у дзядка: проста падумала, што калі я — маладая манашка ў чорным, дык трэба як след замаскавацца, то бок пераапрануцца ў барадатага дзядка ў белай кашулі.

На апошніх словах Баян самазадаволена хмыкнуў.

е) Але чаго ён тут расхмыкаўся, шаноўны чытачу? Высветлілася ж, што падарожнічалі ў часе выбітныя жанчыны на машыне, якую ўсяго за тысячу грыўняў паслужліва ўвапхнуў ім той жа Баян, чым толькі пацвердзіў Рагнедзіны словы пра ненайлепшыя якасці мужчынскай пароды. У сваё апраўданне Баян сказаў, што ён моцна крыўдаваў на Чарадзея, бо той не дапускаў яго да сур'ёзных літаратурных замоваў і за тое, што той пісаў свой блог сам, без дапамогі прафесійнага літаратара.

## Блог Усяслава Чарадзея. Пост № 34, у якім стопудова ўсё вырашыцца

— Так ці інакш, ад Полацка свет пачаўся, а ў Палессі ён завершыцца, — сказала Рагнеда, памахваючы сваім двухручным мачэтам перад маім носам. — Тут, з самага нізкага пункта краіны, упершыню на паверхню выйдзе боршч і пакрысе затопіць усенькую Зямлю.

— Стоп, стоп, прабабуля, пры чым тут уся Зямля? — раптам сказаў я. — Ну, тое, што вы на нашых мужчын зуб маеце, я ўжо цудоўна зразумеў, а замежнікаў затапляць дык за што? Яны ж, з пэўнымі агаворкамі, не вінаватыя.

— Помста за тое, што… — тут Рагнеда раптам запнулася.

Яна няўцямна перавяла вочы з нас на сваіх сябровак. Пад ейным

позіркам Еўфрасіння стала даставаць з вока нейкую няісную парушынку. Чорная Панна зірнула на свае празрыстыя чаравікі. Рагнеда відавочна мулялася. Мы пакутліва чакалі.

— … За тое, што… — голас Рагнеды ўжо канчаткова перасёкся.

— … за тое, што яны вас, нашых мужыкоў, абражалі! — выпаліла за яе мая ўнучка Еўфрасіння.

Мы стаялі, збянтэжаныя, а казала Чорная Панна Нясвіжа:

— Як цяпер у вачах стаіць, як замежнікі пальцам паказвалі: «Вось, глядзіце на бесталковых і бесхрыбетных беларусаў!..»

Мы па-ранейшаму маўчалі.

— Яны, можа, і не казалі нічога благога пра беларусак, толькі пра вас, мужчын, — дадала Соф’я Гальшанская, — але гэта чамусьці было так… так… крыўдна…

Зноў запанавала паўза. Баян пашкроб ключамі ад машыны часу за вухам. Я ў одуме паператвараўся ў ваўка і назад.

— Дык я не магу зразумець, дзяўчаты, вы супраць нас ці за? — урэшце запытаў заяц. — І што самае галоўнае, вельмі цікава, ці будзеце вы рабіць сусветны патоп, ці спусціце на тармазах боршч бедным?

— Ат… — выпаліла Рагнеда і, адвярнуўшыся, махнула рукой.

— Не-не, прабабуля, пачакай… — заўпінаўся цяпер ужо я.

Рагнеда паспрабавала зрабіць суворыя вочы і нават размахнулася мачэтам, але знянацку абмякла. Мачэта грукнулася ля саменькіх маіх ног.

— Ну, канечне, мы за вас, Усяславік! — кволым голасам урэшце змагла вымавіць яна.

І разрыдалася. Плакала рыдма, несуцешна.

Хутка разам з ёй румзалі і Еўфрасіння, і Соф’я Гальшанская, і Эмілія Плятэр, і Алаіза Пашкевіч.

— Канечне, мы за вас, хлопчыкі, — паўтарыла за Рагнедай Чорная Панна Нясвіжа, раняючы свае важкія фантомныя слёзы. — І, па вялікім рахунку, мы гатовыя — калі вы папросіце па-добраму і па-нармальнаму — дараваць вам тысячагадовы заняпад. Бо з мілым рай і ў незаможнай усходнееўрапейскай краіне з невысокай працягласцю жыцця. І вам дастаткова проста прыпаўзці да нас на каленках і сказаць, што вы не мелі рацыі ўсе гэтыя тысячы гадоў, і мы вам усё-ўсенькае даруем, — дадала Соф’я Гальшанская.

Нашыя твары расквеціліся ўсмешкамі.

— Даравалі б усё, Усяславік, акрамя адной рэчы! — грымотным тонам пракурора раптам перарвала яе Рагнеда, якая паспела ўзяць

у рукі сябе і сваю двухручную мачэту. — Непушчанне нас на кактэйль-вечарыну ў гонар былых валадароў дзяржавы — недарвальнае!

І махнула ёй перад нашымі насамі. У каторы раз мы ашаломлена прамаўчалі. Вынікала, што круці не круці, а трэ’ памярці.

## Блог Усяслава Чарадзея. Пост № 35, у якім аўтар блога клянецца мамай і таткам, што ўсё канчаткова вырашыцца

— Проста, разумееце, за гэтае тысячагоддзе, што вы ані разочку нас не пусцілі на гэтую вашую кактэйль-вечарыну, у нас назапасілася столькі прыгожых сукняў! — перарвала доўгую паўзу Чорная Панна.

— І ўсё? — прамовіў ашаломлены заяц.

— А што, мала? — здзівілася Чорная Панна. — Гэта ж не абыякое прыніжэнне! Калі адбывалася святкаванне якога-небудзь векапомнага здзяйснення ці нейкай перамогі ў чарговай палітычнай інтрызе — скулля нам кактэйль-вечарына! І Бона Сфорца, і, зразумелая рэч, Соф’я Гальшанская крыўдавалі на гэта, я ўжо не кажу пра Рагнеду і Еўфрасінню Полацкую, якія сапраўды кіравалі

краінай ды стаялі за дзяржаўнымі рашэннямі і пастановамі.

І дадала:

— Бо часам, ведаеце, так хочацца змяніць шэрую мантыю кардынала на чорную вечаровую сукню!

— А твая атручальніца, каралева Бона Сфорца, за якімі рашэннямі стаяла, акрамя твайго атручэння, дазволь дазнацца? — з’едліва ўставіў свае тры шэлегі заяц.

Чорная Панна перасмыкнулася, але знайшла годны адказ:

— А калі б не Бона Сфорца на высокіх пасадах, вы б ніколі не даведаліся, што такое кава.

— Кава — гэта сур’ёзна і цягне на культурны ўнёсак, папахвае асветніцтвам, гуманізмам і мае вялікае цывілізацыйнае значэнне —

без яе мужчыны з ложка не змаглі б устаць і не зрабілі б сваіх эпахальных учынкаў, — прымірэнча сказаў я Чорнай Панне. — І на нас, прынамсі, на мяне і зайца, кава моцна паўплывала.

— Але, дзяўчаты, самае галоўнае, — дадаў тут я, — усё яшчэ можна выправіць, і мы ўсе не загінем, няхай і прыемнай для вас, смерцю сярод баршчу…

І я ўсміхнуўся так прыязна, як толькі можа ўсміхацца мужчына, якога раздзірае чалавеча-звярыная дваістасць і пастаянна трывожаць адвечныя манаршыя дылемы кшталту таго, дзе паставіць коску ў сказе: «Пакараць смерцю нельга памілаваць».

Праз сваю ўсмешку атрымаўшы дазвол адлучыцца, я пабег тэліць арганізатару кактэйль-вечарыны ў гонар былых валадароў дзяржавы, немаладому мужчыну ў акулярах на паўтвару з вельмі тоўстымі шкельцамі, каб папулярна патлумачыць яму, што канец свету для ягонага бізнесу — гэта прыблізна тое ж

самае, што ранішні панядзелкавы візіт падатковай інспекцыі Ждановіцкага раёна. Пачуўшы мяне, арганізатар неадкладна перапрафіляваў малочны бар для былых валадароў-дзетак назад у кактэйль-вечарыну ў гонар былых валадароў дзяржавы і даў загад сваім начыста паголеным ахоўнікам пускаць на яе не толькі былых валадароў дзяржавы, але і тых, хто за тымі дзяржаўнымі пастановамі стаяў.

Цяпер адноўленая вечарына атрымала новую назву:

«Кактэйль-вечарына ў гонар былых валадароў дзяржавы і іхніх шэрых кардыналак».

І на астатак мы ўсе, то бок усе былыя валадары дзяржавы, плюс заяц і паэт Баян, папоўзалі трохі на каленках і папрасілі ў жанчын прабачэння. Жанчыны ж са свайго боку ўрачыста паабяцалі, што больш баршча варыць не будуць, нават калі наступныя пакаленні мужчын будуць вельмі-вельмі іх аб гэтам прасіць.

* * *

Калі ўсе, усцешаныя: мужчыны — у мантыях, фрэнчах і гарнітурах, а жанчыны — у сваіх ненадзяваных раней сукнях — з келіхамі «Пярцовай Крамбамбулі», зіхоткія, стаялі спасярод адроджанай і адноўленай актэйль-вечарыны на сёмым паверсе гандлёва-забаўляльнага комплекса на Ждановіцкім рынку і голасна зычылі адно аднаму «будзьма!», я падзяліўся з зайцам сваімі сумненнямі, што неўзабаве ўсе іншыя жанчыны і мужчыны нашай краіны, прыкрываючыся лозунгамі роўнасці і дэмакратыі, таксама захочуць патрапіць на вечарыну і пакаштаваць новай «Крамбамбулі».

На што заяц адказаў, каб я не турбаваўся, бо гэтага рашэння аб допуску выбраных жанчын на кактэйль-вечарыну павінна хапіць прынамсі на пару дзясяткаў гадоў, а ўжо потым ён нешта ды прыдумае.

Усцешаны адказам зайца, я жартоўна звярнуўся да Рагнеды:

— Толькі я прашу вас, прабабуля, не трэба мяне заўтра клікаць на абед!

— О так, Усяславік, бойся, калі ўбачыш, як твая жанчына сядзіць дома і варыць боршч! — ці то сур’ёзна ці то жартам адказала Рагнеда. — Значыць, канец свету бліжэе.

— Рагнеда, мая царыца, — закаханым тонам прамовіў заяц і з тэатральнай раўнівасцю зіркнуў на мяне. — Можна я вазьму ў вас што-небудзь на памяць?

— Што, напрыклад? — запыталася Рагнеда і ўсміхнулася. Яна яўна не бянтэжылася, што яе называлі не князёўнай.

— Вашае імя для псеўданіму. У мяне тут круціцца адна ідэя пад неблагі крывіцкі серыяльчык, а падпісвацца зайцам неяк несамавіта…

# Змест блога

